Укладальнікі:
*М. А. Жыдовіч, І. А. Каралёва, У. М. Лазоўскі,*
*Е. С. Мяцельская, І. М. Шчарбакова*

**М35** **Матэрыялы** для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Пад рэд. М. А. Жыдовіч. Мн., Выд-ва БДУ, 1974.
192 с.

У слоўніку тлумачацца значэнні дыялектных слоў, адлюстроўваюцца фанетычныя, граматычныя і стылістычныя асаблівасці мінска-маладзечанскіх гаворак, паказваецца сінаніміка і сфера бытавання дыялектызмаў.

Прызначаецца навуковым работнікам, выкладчыкам ВНУ і настаўнікам школ, студэнтам-філолагам і ўсім тым, хто цікавіцца беларускай народнай мовай.

**4 Бел**

**М $\frac{0715-008}{М\ 317-74}$ 42—74**

## ПРАДМОВА

Кафедра беларускай мовы філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна на працягу апошняга дзесяцігоддзя займаецца збіраннем дыялектнай лексікі для Слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. За гэты час кафедрай назапашаны цікавы і каштоўны матэрыял з гаворак. Улічваючы, аднак, што праца над слоўнікам карпатлівая, падрыхтоўка яго зойме многа гадоў, укладальнікі вырашылі выдаваць матэрыялы для слоўніка паасобнымі «сшыткамі». Першы такі сшытак матэрыялаў выйшаў з друку ў 1970 годзе.

Другі выпуск матэрыялаў для Мінска-маладзечанскага слоўніка структурна не адрозніваецца ад першага. Пры ўкладанні гэтага выпуску аўтары кіраваліся наступнымі дыферэнцыяльнымі прыкметамі дыялектных слоў параўнальна са словамі літаратурнай мовы:

а) калі слова адсутнічае ў Беларуска-рускім слоўніку (М., 1962) або пададзена ў ім з паметай *абл., разм.*, то гэтай прыкметы дастаткова, каб змясціць яго ў нашых матэрыялах. Напрыклад: *пю′сік* «мачавы пузыр», *плю′цы* «лёгкія», *забачэ′ньне* «спатканне»;

б) частковае адрозненне ў гукавым саставе слова, напрыклад: *дараге′нькі* «даражэнькі», *дарэ′мня* «дарэмна»;

в) адрозненні ў марфалагічнай структуры слова, напрыклад: *по′пырска* «пырска», *по′казка* «прыказка», *звано′чнік* «званочак», *по′знач* «позні час»;

г) адрозненні ў націску, напрыклад, *по'куль, до'туль;*

д) адрозненні ў значэнні слова пры супадзенні гукавога складу, напрыклад: *паго'н* «паша», *по'пел* «папялішча» і інш.

Не ўваходзяць у гэты выпуск словы, якія змешчаны ў першым выпуску матэрыялаў для Слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак.

Слоўнікавыя артыкулы размешчаны ў алфавітным парадку.

Загалоўнае слова падаецца ў арфаграфічным запісе. Непасрэдна за загалоўным словам у дужках прыводзіцца яго транскрыпцыя. Затым ідуць граматычныя паметы: род для назоўнікаў, лік паказваецца толькі ў адзіночналікавых ці множналікавых; канчаткі назоўнага склону адзіночнага ліку ўсіх трох родаў для прыметнікаў; канчаткі 1-й, 2-й або 3-й асобы адзіночнага ліку, закончанае або незакончанае трыванне для дзеясловаў; назва для іншых часцін мовы.

Важную частку слоўнікавага артыкула складае вызначэнне сэнсу слова. Калі значэнне слова супадае ў гаворках і літаратурнай мове, то даецца адпаведны сінонім літаратурнай мовы. Калі ж такі сінонім адсутнічае, то слова тлумачыцца апісальна. Значэнне слова ілюструецца прыкладамі з жывой мовы, скарочана абазначаецца вёска, дзе запісаны прыклад. Калі слова ўжываецца ў некалькіх населеных пунктах, то скарочаныя назвы адпаведных вёсак прыводзяцца пасля значэння слова. Розныя значэнні слоў пададзены пад арабскімі лічбамі, амонімы выдзелены ў асобныя слоўнікавыя артыкулы.

Словы, калі ў гэтым ёсць неабходнасць, прыводзяцца са стылёвасэнсавымі паметамі *перан., спец., асудж., іран.* і інш.

Фразеалагічныя спалучэнні, прыказкі, прымаўкі, загадкі змешчаны ў дадатку.

Ілюстрацыйны матэрыял падаецца спрошчанай транскрыпцыяй. Перад галоснымі *а, о, у, э* мяккасць папярэдніх зычных абазначаецца літарамі *я, ё, ю, е*. Мяккасць зычных перад зычнымі і на канцы слоў абазначаецца мяккім знакам (*перасьпе′ў ячмень*); падоўжаныя мяккія зычныя — падвойным напісаннем літар, паміж якімі пішацца мяккі знак (*забачэ′ньне, аме′цьце*). Для спрашчэння набору націскі ў словах пастаўлены пасля галоснай (*дафакто′вы, дачу′хна, падве′й*).

# УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

## 1. Граматыка-стылістычныя

*абур.*— абуральнае
*агульн.*— агульны род
*адз.*— адзіночны лік
*арф.*— арфаграфічнае
*асудж.*— асуджальнае
*бат.*— батанічнае
*безасаб.*— безасабовы
*выкл.*— выклічнік
*гл.*— глядзі
*груб.*— грубае
*дзеепрым.* — дзеепрыметнік
*дзеепрысл.*— дзеепрыслоўе
*жан.*— жаночы род
*жарт.*— жартоўнае
*заал.*— заалагічнае
*зак. тр.*— закончанае трыванне
*займ.*— займеннік
*зборн.*— зборнае
*злуч.*— злучнік
*зневаж.*— зневажальнае
*лаянк.*— лаянкавае
*ліч.*— лічэбнік
*мед.*— медыцынскае
*мн.*— множны лік
*мужч.*— мужчынскі род
*найвыш. ст.*— найвышэйшая ступень
*неадабр.*— неадабральнае
*незадав.*— незадавальняючае
*незак. тр.*— незакончанае трыванне
*ніяк.*— ніякі род
*пагардл.*— пагардлівае
*памянш.*— памяншальнае
*перан.*— пераноснае
*прым.*— прыметнік
*прыназ.*— прыназоўнік
*прысл.*— прыслоўе
*спагадл.*— спагадлівае
*субст.*— субстантываванае
*узмац.*— узмацняльнае
*устар.*— устарэлае
*часц.*— часціца

## 2. Населеныя пункты, у якіх запісвалася лексіка

*Акал.*— Акалова Лагойскага раёна
*Алях.*— Аляхновічы Маладзечанскага раёна
*Асіп.*— Асіповічы Вілейскага раёна
*Астр.*— Астрашыцы Лагойскага раёна
*Аўг.*— Аўгустова Валожынскага раёна
*Бар.*— Барысаў
*Бер.*— Беразіно
*Бор.*— Боркі Уздзенскага раёна
*Бр.*— Брадок Лагойскага раёна
*Будс.*— Будслаў Мядзельскага раёна
*Бялар.*— Бяларучы Лагойскага раёна
*Бяс.*— Бясяды Лагойскага раёна
*Вар.*— Варацішчы Стаўбцоўскага раёна
*Варн.*— Варняны Астравецкага раёна
*Ваўк.*— Ваўкалатка Докшыцкага раёна
*В. В.*— Вялікая Вуса Уздзенскага раёна
*Вер.*— Версанка Крупскага раёна
*Верх.*— Верхмень Смалявіцкага раёна
*Вішн.*— Вішнева Валожынскага раёна
*Воз.*— Возера Уздзенскага раёна
*Войр.*— Войраўка Пухавіцкага раёна
*Вяр.*— Вяржоўка Крупскага раёна
*Гальш.*— Гальшаны Ашмянскага раёна
*Гар.*— Гарадок Маладзечанскага раёна
*Гіл.*— Гілікі Валожынскага раёна
*Гор.*— Горна Лагойскага раёна
*Граб.*— Грабенка Чэрвеньскага раёна
*Даўж.*— Даўжані Мядзельскага раёна
*Дзяр.*— Дзяржынск
*Дук.*— Дукора Пухавіцкага раёна
*Жор.*— Жораўкі Пухавіцкага раёна

*Жур.*— Журоўка Бярэзінскага раёна
*Зааз.*— Заазер'е Вілейскага раёна
*Заб.*— Забалоцце Смалявіцкага раёна
*Залес.*— Залессе Дзяржынскага раёна
*Заям.*— Заямнае Стаўбцоўскага раёна
*Зеньк.*— Зенькавічы Уздзенскага раёна
*Ігр.*— Ігрушка Крупскага раёна
*К.*— Каляды Вілейскага раёна
*Калод.*— Калодкі Вілейскага раёна
*Кальз.*— Кальзберг Мінскага раёна
*Кальч.*— Кальчуны Ашмянскага раёна
*Кам.*— Каменка Уздзенскага раёна
*Кап.*— Капачэўка Барысаўскага раёна
*Кар.*— Каранеўшчына Нясвіжскага раёна
*Касц.*— Касцюкі Барысаўскага раёна
*Кац.*— Кацягі Мінскага раёна
*Клет.*— Клетнае Барысаўскага раёна
*Кн.*— Княгінін Мядзельскага раёна
*Крус.*— Крусці Мядзельскага раёна
*Кухц.*— Кухцічы Уздзенскага раёна
*Люц.*— Люцын Барысаўскага раёна
*Ляхі* — Ляхі Нясвіжскага раёна
*Ляшч.*— Ляшчынскія Мядзельскага раёна
*М.*— Мікольцы Мядзельскага раёна
*Мак.*— Макаўчыцы Дзяржынскага раёна
*Малм.*— Малмыгі Вілейскага раёна
*Марк.*— Маркаўцы Уздзенскага раёна
*Маст.*— Маставая Пухавіцкага раёна
*Мац.*— Мацкі Мядзельскага раёна
*Мач.*— Мачаны Лагойскага раёна
*Меж.*— Межаўка Чэрвеньскага раёна
*Мік.*— Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна
*Мільчы* — Мільчы Вілейскага раёна
*Мядз.*— Мядзель

*Нал.*— Налібокі Стаўбцоўскага раёна
*Нар.*— Нарач Мядзельскага раёна
*Нем.*— Неманіца Барысаўскага раёна
*Ніз.*— Нізок Уздзенскага раёна
*Ос.*— Осава Мядзельскага раёна
*Паг.*— Пагост Бярэзінскага раёна
*Пал.*— Палачаны Маладзечанскага раёна
*Пан.*— Панютычы Нясвіжскага раёна
*Папл.*— Паплавы Бярэзінскага раёна
*Плец.*— Плецевішча Чэрвеньскага раёна
*Пр.*— Пруды Стаўбцоўскага раёна
*Пран.*— Пранчэйкава Маладзечанскага раёна
*Пуг.*— Пугачы Мядзельскага раёна
*Пяр.*— Пярэжыр Пухавіцкага раёна
*Раб.*— Рабунь Чэрвеньскага раёна
*Рат.*— Ратуцічы Барысаўскага раёна
*Р. Л.*— Рудня Лагойскага раёна
*Родз.*— Родзеўшчына Валожынскага раёна
*Руд.*— Рудня Валожынскага раёна
*Рум* — Рум Валожынскага раёна
*Р. Ч.*— Рудня Чэрвеньскага раёна
*Сав.*— Савоні Стаўбцоўскага раёна
*Сак.*— Сакольшчына Уздзенскага раёна
*Самахв.*— Самахвалавічы
*Свер.*— Стары Свержань Стаўбцоўскага раёна
*Сл.*— Слабодка Стаўбцоўскага раёна
*Слаб.*— Слабада Лагойскага раёна
*Смал.*— Смалячы Нясвіжскага раёна
*Суд.*— Судабоўка Смалявіцкага раёна
*Сяд.*— Сядзіца Вілейскага раёна
*Сял.*— Сялец Пухавіцкага раёна
*Так.*— Такарышкі Іўеўскага раёна
*Тур.*— Турын Пухавіцкага раёна
*Турэц* — Турэц Чэрвеньскага раёна

*Тхар.*— Тхарніца Лагойскага раёна
*Уз.*— Узгурск Чэрвеньскага раёна
*Хал.*— Халопенічы Крупскага раёна
*Хар.*— Харавічы Пухавіцкага раёна
*Хац.*— Хацюхова Крупскага раёна
*Хож.*— Хожава Маладзечанскага раёна
*Хом.*— Хоменава Смалявіцкага раёна
*Худ.*— Худаўцы Крупскага раёна
*Цв.*— Цвіркі Стаўбцоўскага раёна
*Цял.*— Цялякова Уздзенскага раёна
*Чаша* — Чаша Клецкага раёна
*Чэрв.*— Чэрвень
*Шут.*— Шутавічы Смаргонскага раёна
*Юн.*— Юнцавічы Лагойскага раёна
*Юр.*— Юр'ева Смалявіцкага раёна
*Яз.*— Язні Вілейскага раёна
*Ян.*— Янушкавічы Лагойскага раёна

# МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ СЛОЎНІКА

## А

АБАДА′ (абада′) *жан.* Кампот. Зімо′й я люблю′ піць абаду′ я′блычную. *Кухц.*

АБАЗМЕ′Н (абазьме′н) *мужч.* Бязмен. Адва′ш ты мне хоць ко′лькі хле′ба на абазьме′не, не пасьпе′ла купі′ць. *Кальч.*

АБАМБЕ′РЫЦЬ (абамбе′рыць), -у, -ыш; *зак. тр., жарт.* Абстрыгчы. Сяда′й, Сьцяпа′н, абамбе′ру я цябе′, як палага′ецца. *Хож.*

АБВА′ЛЬВАЦЬ (абва′льваць), -аю, -еш; *незак. тр.* Разбураць. Нашто′ мало′му ха′тку абвалі′ў? Памажы′ зрабі′ць. *Малм.*

АБВЫ′КНУЦЬ (абвы′кнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Прывыкнуць. Ды нічо′га, я ўжо абвы′кла; люблю′ свайго ні люблю′, а здае′цца, так трэ′ба. *Люц.*

АБГАВО′Р (абгаво′р) *мужч.* Плётка. Ат, што люцкі′я абгаво′ры слу′хаць, вер таму′, што сам ба′чыў. *Люц.*

АБГА′ДЗІЦЦА (абга′дзіцца), -джу-ся, -дзіш-ся; *незак. тр.* Забрудзіцца. Ён так абга′дзіўся, што дагэ′туль атмы′ць яго ні магу′. *Люц.*

АБДЗІ′РКІ (абдзі′ркі) *толькі ў мн.* Зрэб'е. Глянь, ко′лькі абдзі′ркаў насабіра′лася, мо′жна цэ′лую куфе′-лю зрабі′ць. *Ляхі.*

АБІЖМАВА′НЫ (абіжмава′ны) *дзеепрым.* Адлупцаваны. Аста′ўся, ка′жа, абіжмава′ны і зрабі′ць нічо′га ня змох. *Кальч.*

АБІЖМАВА′ЦЬ (абіжмава′ць), -мую, -муеш; *зак. тр.* Сцебануць. Калі′ бічо′м абіжмава′ў, дык адра′зу пабе′гла перайма′ць каро′ў. *Кальч.*

АБІРА′КА (абіра′ка) *мужч.* Грабежнік. Не′мцы такі′я абіра′кі, усё забіра′лі. *Гіл.*

АБКАЗА′ЦЬ (апказа′ць), -жу, -жаш; *зак. тр.* Расказаць. А ты ў Шачо′йчыхі папыта′йся, яна′ табе′ ўсё апка′жа. *Клет.*

АБЛАТО′ШЫЦЬ (аблато′шыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Абабраць. Як уварва′ліся малы′я, дак уве′сь сад аблатошылі. *Ляхі.*

АБО′РЫВАЦЬ (або′рываць), -ю, -еш; *незак. тр.* Абганяць. І бу′льбу трэ′ба або′рываць і німа′ каму′. Ляксе′й казо′ў, казо′ў зраблю′, дык я ба′чу зь яго гаво′ркі, бу′дзя ён гэ′та рабі′ць да спа′сава ра′ду — усё′ ця′гне і ця′гне. *Бялар.*

АБСЕ′КЦІ (апсе′кці), -ку, -чэш; *зак. тр.* Рэзка перапыніць размову. А ты што, ні магла′ заста′віць яе′ змо′ўкнуць, ні магла′ апсе′кці? *Клет.*

АБСТРЫКА′ЦЬ (апстрыка′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Папячы крапівой. Выганя′ла пыляня′та з агаро′ду, дак апстрыка′ла но′гі. Трэ′ба бу′дзя паўрыва′ць гэ′ту крапіву′. *Дук.*

АБСУ′НУЦЦА (апсу′нуцца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Пастарэць. Апсу′нецца чалаве′к, ніхто′ яго′ тады′ і ні лю′біць, забо′ты ён патрабу′е за сабо′ю. *Сак.*

АБСЫ′ПКА (апсы′пка) *жан.* Прызба. Зіма′ падыхо′дзіць, апсы′пку трэ′ба зрабі′ць, а то ха′та ме′рзнуць бу′дзе. *Уз.*

АБУРЫ′ЦЬ (абуры′ць), -у, -ыш; *незак. тр.* Разбурыць. Мы працава′лі, а ён прыйшо′ў і абуры′ў усё′, пра′ца ма′рна загі′нула. *Уз.*

АБУРЫ′ЦЦА (абуры′цца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Кінуцца. Я на дзіва′н абуры′лася ды й паспа′ла. *Дук.*

АБУ′Х (абу′х) *мужч., зневаж.* Дурань. Ну ён жа са′мы сапра′ўдны абу′х! Нічо′га не разуме′я. Што з яго′ во′зьмеш! *Хал.*

АБЧО′ (апчо′) *прын.* Аб чым. Ат, німа′ чаго′ апчо′ гавары′ць, ле′пей ты мяне′ паслу′хай. *Клет.*

АБХЛЮ′ПАЦЦА (апхлю′пацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Апырскацца, замачыцца. Апхлю′паўся аш па са′мыя ву′шы, ну што зь ім рабі′ць? *Пяр.*

АБІШАРПА′НЕЦ (апшарпа′нец) *мужч.* Абадранец. Васі′ль вунь гэ′такі апшарпа′нец, а вучы′цельку ўзё′ў. А наш ду′маіць усі′х перашагну′ць. *Пяр.*

АБЭ′РВЫ (абэ′рвы) *толькі ў мн.* Вельмі моцны смех. Не, кап рабо′таць, то′лькі п пасьмяя′цца, адны абэ′рвы цэ′лы дзень. *Мік.*

АБЭ′РЖНЯ (абэ′ржня) *жан.* Вялікая непрыбраная хата. Прыбяры′ ты хоць кры′ху ў ха′ці, а то як у абэ′ржні. *Ляхі.*

АБЯРНУ′ЦЦА (абярну′цца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Справіцца. Дарма′ што стара′я, а як ба′чыш, за гэ′ты час абярну′лася туды′ і наза′т зьбе′гаць, лё′хкая яшчэ′ на нагу′. *Пяр.*

АБЯЧА′НКІ (абяча′нкі) *толькі ў мн.* Павекі. Абяча′нкі апу′хлі, вачэ′й не віда′ць, а ты ўсё′ кра′сіш іх. *Граб.*

АГАДА′ЦЬ (агада′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Расстарацца. Гро′шай на зруб ужэ′ агада′лі, на′да за′раз акано′мна жыць. *Пяр.*

АГА′ЛЬНІ (агальні) *прым.* Дрэнны. Ага′льняя рабо′та, чаму′ засьпяша′ўся так, усё′ перарабі′ць прыдзе′цца. *Калод.*

АГЛЯДА′ЦЦА (агляда′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Уходжвацца. Не′йкая незна′ёмая кабе′та прахо′дзіла тут, дык загамані′ліся. Забы′лася, што і агляда′цца трэ′ба. *Марк.*

АГРАНО′МКА (аграно′мка) *жан.* Аграном (жанчына). У нядзе′лю хо′дзіць гэ′та сама′ аграно′мка, разьмярко′ўвае дзя′лкі. Пры′йшла й да мяне′... *Сав.*

АГРА′С (агра′с) *мужч.* Свабодны. Што ш, ён агра′с — нічы′м і нікі′м ні зьвя′заны. *Сав.*

АГУЛО′М (агуло′м) *прысл.* Агулам. Агуло′м як во′зьмемся, дак раз-два зро′бім. *Ляхі.*

АВА′ЛАК (ава′лак) *мужч.* Качалка. Вазьмі′ ава′лак ды бялі′зну пакача′й, прале′жала цэ′лы дзень, дык цяпе′р папрацу′й. *Руд.*

АДА′ЛЕ (ада′ле) *прысл.* Потым. Малады′ зра′зу к маладо′й е′дзя, ада′ле ўжэ′ к маладо′му е′дуць. *Ляхі.*

АДАПНУ′ЦЬ (адапну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Адгарадзіць. Адапні′ кату′х, а то вяпру′к к парася′там ле′зя. *Ляхі.*

АДБІ′ЦЬ (адбі′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Накасіць. З ра′ньня воз ржэ′ўніку адбі′ў, мо′жна бы′ло б і яшчэ′, ды не′шта стамі′ўся я. *Худ.*

АДБЫ′ЦЬ (адбы′ць), -ду, -дзеш; *зак. тр. Пяр.* Адслужыць у арміі. Сын мой а′рмію адбы′ў, цяпе′р у калхо′зі ро′біць па тра′ктарам. *В. В.*

АДВЕ′ДКІ (адве′ткі) *толькі ў мн.* Адведзіны. На адве′ткі хо′дзяць цяра′з не′кулькі дзён, як абро′дзіцца кабе′ціна. *Цял.*

АДГАРЭ′ЦЬ (адгарэ′ць) *незак. тр.* Прыгарэць. Му′сі, трэ′ба варэ′ньне звары′ць во ў гэ′тай кастру′лі. Мо′жа, не адгары′ць з аднаго′ ра′зу. Я яе′ по′тым атшару′ю. *Бялар.*

АДДЫ′ШКА (адды′шка) *жан.* Адпачынак. Нія′кае мне адды′шкі на гэ′тум сьве′ці німа′, скарэ′й бы ўжо сьмерць мяне′ ўзяла′. *Ляхі.*

АДЗІЯ′ДЛА (адзія′дла) *ніяк.* Коўдра. На вясе′льле ёй адзія′дла падары′ла, няха′й укрыва′юцца і по′мняць мяне′ стару′ю. *Уз.*

АДДЗЯ′Л (аддзя′л) *мужч.* Клас. Вялі′кі вы′рас, у які′м жа ты аддзя′ле? *Сак.*

АДДЗЯ′ЧЫЦЬ (аддзя′чыць), -у, -ыш; *зак. тр. Цял.* Аддзякаваць. За маё′ дабро′ ён мне аддзя′чыць. *Дук.*

АДПА′СВІЦЦА (атпа′сьвіцца), -іш-ся; *зак. тр.* Закончыць пасвіць. Ох, скарэ′й бы атпа сьвіцца, усё так надае′ла за гот. *Войр.*

АДДУ′ХА (адду′ха) *жан.* Адпачынак. Не магу′ больш. Дай хоць тро′ху адду′хі. *Малм.*

АДЖГІ′Р (аджгі′р) *мужч.* Забіяка. Ах ты, аджгір гэ′такі. Ко′лькі разо′ў гавары′ла, каб малы′х ня кры′ўдзіў! *Хож.*

АДЖГУ′Р (аджгу′р) *мужч.* Ёрш. Злаві′ў з дзяся′так аджгуро′ў ды пло′так не′калькі. *Мік.*

АДЖЫВІ′ЦЬ (аджыві′ць), -ўлю, -іш; *зак. тр.* Ажывіць. Мя′ртвага ні аджыві′ш. *Цял.*

АДЗЕ′ТАК (адзе′так) *мужч., толькі ў адз.* Адзенне. Мы не′калі ня хадзі′лі ў шко′лу заты′м, што ня было′ адзе′тку. *Дук.*

АДКІ′ДКА (аткі′тка) *жан.* Ачыстка і сартаванне. Ве′чарам цыбу′лю аткі′дала, стамі′лася, бо аткі′тка ўва′гі трэ′буя. *Шут.*

АДКРО′ІЦЬ (аткро′іць), -ю, -іш; *зак. тр. Дук., Жор., Хар.* Адрэзаць. Не шкаду′й, цё′тка, аткро′й хле′ба і на скры′льчык са′ла не забу′ць. *Цял.*

АДЛЕ′ЦІЦЬ (адле′ціць), -чу, -ціш; *зак. тр.* Кры′ху падагрэ′ць ваду′. Адле′ць кры′шку ваду′, бо старо′му німо′жна хало′днае піць. *Ляхі.*

АДЛІ′ЧНЫ (адлі′чны) *прым.* Выдатны. Бабу′ля На′сьця хва′ліцца сусе′ццы, што ў яе′ ўну′ка адлі′чныя адзна′кі. *Мядз.*

АДЛУПА′СІЦЬ (адлупа′сіць), -шу, -сіш; *зак. тр.* Адлупцаваць. Са′шка, сьці′хні, а то як вазьму′ папру′гу, дак до′бра адлупа′шу. *Цял.*

АДМЕ′ННЫ (адме′нны) *прым.* Не такі, як раней. Пазараста′ла ўсё бало′та, ста′ла адме′нная, ні пазна′ць, што і бало′та не′калі было′. *В. В.*

АДНО′ЛЕТКІ (адно′леткі) звычайна *ў мн.* Кветкавыя пупышкі, кветкавая завязь.— Цяпе′р сліў і груш ні бу′дзя, адно′леткі адсы′паліся.— А ў мяне′ і ві′шань ні бу′дзя. Паглядзі′, гэ′тыя (пупы′шкі) разьвіва′юцца, а адно′летачкі чо′рнянькія. Яны ш трэ′ба каб бе′лянькія станаві′ліся, а яны′ чо′рнянькія сядзя′ць, ні разьвіва′юцца. *Сав.*

АДПІ′ДЗІК (атпі′дзік) *мужч.* Адкідзіч. За ве′чар ба′пка мо′жа напра′сьці атпі′дзікаў тры, а і′ншы рас і бо′ляй. *В. В.*

АДПІЛЁ′КАЦЬ (атпілё′каць), -ю, -еш; *зак. тр.* Адрэзаць. Як адрэ′заў ён слаўцо′, дык я і ні захаце′ў адпілё′каць кусо′к сы′ра. *Дук.*

АДПРЭ′НЧЫЦЬ (атпрэ′нчыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Адвучыць. Я яе′ ху′тка атпрэ′нчу, больш сюды′ хадзі′ць ня бу′дзя. *Дук.*

АДСАДЗІ′ЦЬ (атсадзі′ць), -джу, -дзіш; *зак. тр.* Адвучыць. Як цялё′ кры′ху падрасьце′, дык трэ′ба атсадзі′ць яго′ ад каро′вы. *В. В.*

АДУБЕ′ЦЬ (адубе′ць), -ею, -еш; *зак. тр.* Памерці. Так і адубе′ў, бе′дны, пат пло′там. *Раб.*

АДХЛА′НЬ (атхла′нь) *агульн.* Скупы чалавек. Ну й атхла′нь, кап пryме′ла, дак увесь сьвет ахлыну′-ла п. *Ляхі.*

АДХО′ДАЦЬ (атхо′даць), -аю, -еш; *зак. тр.* Адратаваць. У Ха′равічах дзе′ўка хапі′ла ву′ксусу, дак чуць атхо′далі. *Дук.*

АДЦЯ′МІЦЬ (атця′міць), -млю, -іш; *зак. тр.* Адарваць, адкусіць. Стэ′па, паглядзі, ці по′ўна яна мне атця′міла? (запытаўся мужчына, якога кабыла ўкусіла за нос). *Дук.*

АДЧЫКРЫ′ЖЫЦЬ (атчыкры′жыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Адрэзаць. Е′та ж дурні′ца на′ша е′такія ко′скі атчыкры′жыла. *Дук.*

АД′Е′ЎШЫ (ад′е′ўшы) *дзеепрым.* Ад′едзены. Цяпер у маі′х гурко′х карэ′ньчык ад′е′ўшы. *В. В.*

АДЫ′МАЛКА (ады′малка) *жан.* Ануча, якой бяруць гаршкі. Вазьмі′ ады′малку ды атцадзі′ ско′ранька бу′льбу. *Пран.*

АЖНА′ (ажна′) *часц.* Ажно. Ат, ат тваё′й гаво′ркі ажна′ мло′сна ро′біцца. *Клет.*

АЗЯ′ЦЬ (азя′ць), -зьму, -зьмеш; *зак. тр.* Узяць. Наво′шта ты ў мяне′ гро′шы азя′ў сам, ці ш ты папрасі′цьня мох? *Юр.*

АКАЗА′ЦЦА (аказа′цца), -жу-ся, -жаш-ся; *зак. тр.* Знайсціся, вярнуцца. Дачку′ аддала′ за′муш, цяпе′р ста′ршым буга′лтарам ро′біць, а муш так і ні аказа′ўся пасьля′ вайны′. *Гіл.*

АКАНО′М (акано′м) *мужч.* Цура або крупнік на памінках. Акано′м даю′ць то′лькі на памі′нках, калі′ чалаве′к памрэ′. Бяру′ць ваду′, сало′дзяць, кры′шаць туды′ бу′лку (калі поп сьве′ньціць, а не, то ўлію′ць вады′ яко′й сьвянцо′най) і падаю′ць. Яду′ць патро′ху ўсе, па во′чарадзі. Але′ цяпе′р ужо′ гэ′тага німа′. *Бялар.*

АКАНЧА′ЛЬНА (аканча′льна) *прысл.* Канчаткова. Не мо′жам нія′к аканча′льна выяві′ць яго′ адно′сіны да людзе′й. *Мядз.*

АКО′НАМ (ако′нам) *мужч., устар.* Кіраўнік маёнтка. Ако′нам пры па′ну быў, не′хта накшта′лт прыганя′тага. *Бялар.*

АКТА′Р (акта′р) *мужч.* Гектар. У таго′, за каго′ выхо′дзіла, акта′раў пяць зямлі′ было′. *Вішн.*

АМЕ′ТНІК (аме′тнік) *мужч.* Прыбудова да гумна для амецця і мякіны. Мы ў адно′м аме′тніку мякі′ну дзяржа′лі, а ў друго′м аме′цьця. *Цял.*

АНГЕ′ЛЬШЧЫНА (анге′льшчына) *жан.* 1. Англія. Пятро′к у вайну′ папо′ў у Анге′льшчыну, там і засто′ўся. *Дук.* 2. Парк, разбіты па-англійску. Пры па′ну анге′льшчына была′ вялі′кая, на′ват грыбы′ і я′гады расьлі′. *Дук.*

АНДУЛЯ′ЦЫЯ (андуля′цыя) *жан.* Завіўка. Бач, з яко′й андуля′цыяй прые′хала з го′рада: галава′, як у барана′, уся′ ў кучара′вых кацяка′х. *Клет.*

АНРА′МАНТ (анра′мант) *мужч.* Арнамент. Прыно′сіць мне кавё′р югасла′ўскі, зялё′нянькі. Але′і, го′ры, до′мікі такі′я на ім. Анра′мант такі′ ўкругаву′ю, фрэ′нзьлі. *Залес.*

АНУ′ЧНІК (ану′чнік) *мужч.* Чалавек, які збірае анучы. *Жор., Хар., Дук., Цял.* Авэнянё′ ану′чнік е′дзя, ідзі′ ану′чы здай, мо′жа со′ды кры′ху дасць ці мыла. *Ляхі.*

АНЯГО′Ж (аняго′ш) *часц.* Ага.— На′дзя, а На′дзя, у кіно′ по′дзеш?— Аняго′ш, аш сьме′шна, што пыта′есься. *Касц.*

АПАЛІ′ВА (апалі′ва) *жан.* Патэльня. По′ўную ж апалі′ву мя′са насма′жылі, бу′льбы навары′лі, чаго′ то′лькі там ні было′, усе′ пад′е′лі. *Ос.*

АПАНЧА′ (апанча′) *жан.* Доўгае адзенне (сукенка, паліто і г. д.). Няўжо′ ты ў гэ′тай апанчы′ ў лю′дзі по′йдзеш? *Дзяр.*

АПАРО′ЦЬ (апаро′ць), -у, -аш; *зак. тр.* Знайсці. Адшукаць. Ну, і хто ж гэ′та ду′маў! Так до′бра схава′ла, а ён апаро′ў! *Кн.*

АПЕРАЗА′ЦЬ (апяраза′ць), -жу, -жаш; *зак. тр.* Моцна ўдарыць. Ня чапа′й ты яе′, а то як апяражу′ папру′гаю, дак атста′няш. *Дук.*

АПЕШАКА′ (апяшака′) *прысл.* Пехатой. Так надае′ла на куро′рці, што, здэ′цца п, апяшака′ пашла′ дадо′му. *Цял.*

АПО′ЛАК (апо′лак) *мужч.* Бакавая дошка. *Жор., Хар., Дук., Цял.* Вазьмі′ апо′лкаў да адгарадзі′ кату′х сьвіня′м. *Ляхі.*

АПО′НА (апо′на) *жан.* Веласіпедная шына. Не′дзе на палаві′не даро′гі апо′на ло′пнула, дык я наза′д вярну′ўся. *Крус.*

АПО′РА (апо′ра) *жан.* Корм для каровы, у саставе якога мякіна, мука і іншая труха, палітая цёплай вадой. Апо′ру жывё′ле трэ′ба вы′ліць, а то засты′не на хо′ладзе корм, пры′дзецца сячы′ гэ′тую мякі′ну сяке′рай, ды і мука′ сапсуе′цца. *Уз.*

АПРА′ВІЦЬ (апра′віць), -ўлю, -віш; *зак. тр.* 1. Аблупіць яйка. Дава′йце, я яйко′ сама′ апра′ўлю, навучы′ла ма′ма. *Кальч.* 2. Адгарнуць пясок з бульбы, якую прысыпала, калі абганялі. А тады′ паганя′лі бу′льбу і апра′вілі. *Рат.*

АПРАНА′ХА (апрана′ха) *жан.* Верхняя старая вопратка. *Цял., Жор., Хар.* Падымі′ апрана′ху, усядно′ ш ты яе адзе′няш. *Дук.*

АПРАТА′ХА (апрата′ха) *жан. Гл.* апранаха. Вазьмі′ апрата′ху яку′ю, а то сьве′ціш тут го′лым це′лам, пасаро′мялася п. *Ляхі.*

АПРАТА′ЦЬ (апрата′ць), -у, -аш; *зак. тр.* Прыбраць. Спача′тку трэ′ба ха′ту апрата′ць, а по′тым ужо′ гасьце′й чака′ць. *Войр.*

АПРО′Ч (апро′ч) *прысл.* Асобна. Ой, і не кажы′це, як сын з ба′цькам пасвары′ліся, дык апро′ч жыву′ць. *Пал.*

АПРЫ′Ц (апры′ц) *прын.* Акрамя. О, апры′ц гэ′тых грахо′ў у яе′ яшчэ′ і другі′х мно′га. Яна′ гэ′та ве′дая, таму′ і маўчы′ць. *Рум.*

АПСЭ′САМ (апсэ′сам) *прысл.* Раптам. Што ты гэ′дак апсэ′сам наляце′ла, ні мо′жаш сказа′ць па-лю′цку, ці што? *Ляхі.*

АПУ′СКЛІВЫ (апу′скліва) *прым.* Неахайны. Вот е лю′дзі апу′склівыя. *Цял.*

АПУСЦІ′ЦЬ (апусьці′ць), -шчу, -іш; *зак. тр.* Кінуць, занядбаць, вырачыся. Я хаце′ла сказа′ць, які ты сам, такі′я й твае′ дзе′ці бу′дуць! Дзяце′й глядзі′ш, а ма′тку ро′дную апусьці′ў,— але′ стрыма′лася, і′ншым ра′зам скажу′. *Сав.*

АПУ′ХА (апу′ха) *жан.* Дошкі па краях страхі. Апу′хі прабіва′юць ва ўся′кай страсе′, ні то′лькі саламя′най. У апу′хах ро′зныя ца′цкі ёсь, але′ гэ′тыя ца′цкі рабі′ліся, мо′жа, сто гот. *Бялар.*

АПУШЧЭ′Й (апушчэ′й) *агульн.* Неахайны чалавек. От апушчэ′й гэ′ты, суке′нку сабе′ памы′ць ляну′ецца. *Ляхі.*

АПЭ′НТАМ (апэ′нтам) *прысл.* Хутка. Яна′ апэ′нтам пабе′гла, як то′лькі сказа′ла, што То′лік прые′хаў. *Вер.*

АПЯКО′ЛАК (апяко′лак) *мужч.* Пяколак. Бо′ты паста′ў сюды′, на апяко′лак, хай до′бра со′хнуць. *Алях.*

АРБА′ (арба′) *жан.* Ворыва. Арба′ была′, заго′ны ара′лі, ляшы′лі, кап спад вады′ быў. *Малм.*

АРЖО′ННЕ (аржо′ньне) *ніяк.* Іржэўнік. Не′йчая каро′ва вы′ліняе ў хле′ві, а не′йчая чуць жыва′я вы′йдзе. Адра′зу ві′нна, у каго′ гаспада′р ё′, а чыя′ аржо′ньня е′ла зімо′й. *Бялар.*

АРУ′Д (ару′т) *мужч.* Засек. У варыўню′ мы бульбу′ на зі′му ссыпа′лі: у адзі′н ару′т дро′бную, у другі′— бу′йную. *Акал.*

АСАВІ′К (асаві′к) *мужч.* Падасінавік. Асавікі′ той гот до′бра расьлі′, по′йдзяш — за гадзі′ну ко′шык назьбіра′яш. *В. В.*

АСА′ДА (аса′да) *жан.* Рамка для партрэта. Трэ′ба купі′ць но′венькую аса′ду для ка′ртачкі сы′ну. *Кухц.*

АСАЧЫ′ЦЬ (асачы′ць), -у, -ыш; *зак. тр.* Падпільнаваць, дзе нясуцца куры. *Дук., Цял., Жор., Хар.* На′шу

ку′ру на′тта ця′шка асачы′ць, усё′ ў ро′зных ме′сцах нясе′цца. *Вішн.*

АСВО′ЙТАЦЦА (асво′йтацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Прызвычаіцца, прывыкнуць. Ску′чна яму′ бу′дзя, по′куль асво′йтаяцца на но′вум ме′сьці. *Цял.*

АСМАКО′ЎВАЦЦА (асмако′ўвацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Каштаваць, спрабаваць на смак.— От бу′лак мне хо′чацца, а ў нас німа′ ў магазі′ні.— На во, укусі′, кап хаця′ ні паме′рла.— А німа′ чаго′ асмако′ўвацца. Каб до′бра пае′ў, а то тро′шкі ўку′сіш. *Бялар.*

АСМЫ′ЧЫНЫ (асмы′чыны) *толькі ў мн.* Адыходы пры абдзіранні лёну. Сабяры′ асмы′чыны, а то нарабі′ла тут пы′лу на ўсю ха′ту, но′са не′льга ўсу′нуць. *Ляхі.*

АСПАДА′Р (аспада′р) *мужч.* Гаспадар. Не′калі ж быў до′бры аспада′р, і што зь ім тако′е зда′рылася? *Будс.*

АСЯНЧУ′К (асянчу′к) *мужч.* Народжаная восенню скаціна (парася, цяля). Пры′дзецца прада′ць асянчука′, бо не хо′піць ко′рму на′ват для свіньні′. *Клет.*

АТРО′САК (атро′сак) *мужч.* Нікому не патрэбны чалавек. Ці ш то чалаве′к? Гэ′та ж атро′сак не′йкі. *Клет.*

АТЧАХВО′СЦІЦЬ (атчахво′сьціць), -чу, -ціш; *незак. тр.* Аблаяць. Дзя′тчыху мая′ цё′тка так атчахво′сьціла, што яна′ ціпе′р на лю′дзі паказа′цца баі′цца, саро′меяцца. *Клет.*

АФІЦЫ′НА (ахвіці′на) *жан.* Падсобнае памяшканне для служачых у панскім маёнтку. Куха′рка і пакаё′ўкі жылі′ ў ахвіці′ні. *Цял.*

АХА′ЯЦЬ (аха′яць), -ю, -еш; *зак. тр.* 1. Прыбраць. По′куль ма′ці пры′йдзя з рабо′ты, дык дзяўчы′на ха′ту аха′я. *В. В.* 2. Прасеяць, ачысціць. Спача′тку мякі′ну аха′юць, а по′тым у хлеп дабаўля′лі. *В. В.*

АХЛЫНУ′ЦЬ (ахлыну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* 1. Забраць. Усё ро′ўна ўсяго′ ні ахлыне′ш, на той сьвет за са-

бо′ю ні паця′гнеш. *Ляхі.* 2. Захапіць. Кап прыме′ла, дак усё п сабе′ ахлыну′ла. *Ляхі.*

АХО′ДАВАЦЬ (ахо′дуваць), -ю, -еш; *зак. тр.* Разбіраць. Я люблю′ сваю′ ку′рачку зарэ′заць. Ахо′дуяш яе′, да яна′ гэ′ткая жо′ўцянькая, жы′рнянькая, любата′! *Сав.*

АХО′ДЖВАЦЬ (ахо′жваць), -ю, -еш; *незак. тр.* Даглядаць. Каро′ва мая′ хво′рая была′, а я яе′ так ахо′жвала. *В. В.*

АХЦІ′ (ахці′) *часц.* Няўжо. Ахці′ пра′ўда, што кі′ншчык захварэ′ў? Кіно′ не пака′жуць. *Хал.*

АЦЕ′СЛІВЫ (аце′сьлівы) *прым.* 1. Недапечаны хлеб, пірог. Не′шта ў вас сё′ньня хлеб аце′сьлівы, за зу′бы бярэ′цца, нясма′чны, мя′ккі, што на па′льцах вада′ віда′ць. *Клет.* 2. *Зневаж.* Непаваротлівы чалавек. Не′кі ён як аце′сьлівы, ідзе′ і чуць варо′чаяцца. *Дук.*

АЦІЛЯГАВА′ЦЦА (аціляґава′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Нядбайна адносіцца да справы, марудзіць. Скарэ′й хадзі′, што ты там аціляґава′ісься, ледзь паваро′чваешся. *Раб.*

АЦЭ′ГАЦЦА (ацэ′гацца) *зак. тр.* Адпаіцца (малаком, пойлам), папрaвіцца ў целе. Худзе′нькая-худзе′нькая была′ цялу′шачка, адны′ ко′сьці. Але′ ста′лі паі′ць малачко′м, ацэ′галася і цяпе′р, кап ты паглядзе′ў, яка′я! *Сав.*

АЦЮЧЭ′РЫЦЦА (ацючэ′рыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Ачуняць. Уко′лы яму′ далі′, патро′хі ацючэ′рыўся. *Кухц.*

АЧА′ХНУЦЬ (ача′хнуць) *зак. тр.* Астыць. Бу′ду ско′ра хлеп садзі′ць, хай тро′ха печ ача′хня. Цял.

АШАЛАПЕ′ЦЬ (ашалапе′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Уразіцца, здзівіцца да страшнага. Як увайшла′ ў ха′ту, дык і ашалапе′ла: усё′ падчы′шчана з ша′фы, і суке′нкі і абру′сы. *Клет.*

АШАРА′ШВАЦЦА (ашара′швацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Здзіўляцца. Прыхо′джу дамо′ў і ашара′шваюся, усё круго′м параскіда′на. *Кухц.*

АШАТРАВА′ЦЬ (ашатрава′ць), -рую, -руеш; *зак. тр.* Ачысціць зерне ад лупін. Ячме′нь ашатрава′лі, дак мо′жна круп нарабі′ць. Ужэ′ ш ко′ляды ско′ра, куцю′ вары′ць трэ′ба бу′дзя. *Цял.*

АШПА′РЫЦЬ (ашпа′рыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Апарыць. Чу′ла? У Багадзя′жыхі ўну′чка ашпа′рылася. *Клет.*

## Б

БАБАВІ′НЫ (бабаві′ны) *толькі ў мн.* Сцяблы абмалочанага бобу. Як боп абмало′цяць, дак астаю′цца бабаві′ны. *Цял.*

БА′БАЧКА (ба′бачка) *жан.* Трыпутнік. Калі′ дзе бо′лька, дык прыпа′р ро′бяць з ба′бачкі або′ про′ста ба′бачку прыклада′юць. *Варн.*

БАБІ′НЫ (бабі′ны) *толькі ў мн.* Частаванне бабкі пасля таго, як перабабіць дзіця. *Дук., Жор., Хар.* На бабі′ны пяклі′ бліны′, вары′лі мача′ньне, капу′сту зь мя′сам. *Цял.*

АБА′БІЦЬ (аба′біць), -блю, -іш; *зак. тр.* Адрэзаць ніткі пры снаванні кроснаў ад аднаго калка і прывязаць да другога. Як пало′жыш ні на той ко′лік, агле′дзіш, аш ні на той, тады′ схо′дзіш да таго′ ко′ліка і ба′біш перамо′т, тады′ ізно′ў прывя′жыш і пашло′ дзе′ла ў пара′дак. *Рат.*

БАГА′Н (бага′н) *мужч.* Багун. Ад бага′на галава′ балі′ць, каб ён шчарне′ў, натта мо′цна па′хне. *Ігр.*

БАГДА'Й (багда'й) *злуч.* Каб. Міха'сь пайшо'ў бы ў кіно', багда'й яго' сябры' паклі'калі, а сам — дык ня хо'-ча ісьці'. *Кап.*

БАГА'ТКА (бага'тка) *жан, бат.* Агатка. Пе'рад Я'нам бага'ткі зьбіра'юць і тача'юць у сьцяну'. Бага'тка бе'лымі кве'тачкамі цьвіце' нападо'бе ша'рыкаў. *Ляшч.*

БА'ЙБУС (ба'йбус) *мужч., лаянк.* Малады чалавек, які нічога не робіць. Гульма' гуля'я Іва'наў ба'йбус. *Дук.*

БА'ЙНЯ (ба'йня) *жан.* Лазня. А ці по'йдзяш сё'ньня ў ба'йню? *Хал.*

БАЙРА'К (байра'к) *мужч.* Пограб, склеп, які нагадвае зямлянку. Схадзі' ў байра'к за карто'фляй, вары'ць бу'ду. *Кар.*

БАЛАБО'Н (балабо'н) *мужч., зневаж.* Чалавек, які многа гаворыць. Мой муш такі' ўжо балабо'н, балта'я й балта'я, ні да'сьць мне й сло'ва сказа'ць. *В. В.*

БАЛАБО'НЫ (балабо'ны) *толькі ў мн.* Буякі. Паку'ль назьбіра'еш збано'чак балабо'наў, аж галава' забалі'ць. *Хож.*

БАЛАБЭ'ЙДЗІЦЬ (балабэ'йдзіць), -джу, -дзіш; *незак. тр.* Гаварыць абы што. Кап які лю'цкі хло'пяц быў, а то што папа'ла балабэ'йдзіць. *Кам.*

БАЛАЗЕ'Й (балазе'й) *прысл.* Балазе. Балазе'й табе', твая' карто'пля далё'ка ад даро'гі паса'джана, ніхто' ня то'пча. *Дук.*

БАЛЕ'ЗНЯ (бале'зьня) *жан.* Хвароба. Так чалаве'-ка бале'зьня паткасі'ла, ажна' шчарне'ў, вы'сах на шчэ'п-ку. *Уз.*

БАЛЕ'СЦЬ (бале'сьць). *Гл.* балезня. Усё' ні ці'ха, бале'сьць, ды й с сы'нам тако'я го'ра. *В. В.*

БАЛЁ'Н (балё'н) *мужч.* Трохлітровая шкляная банка. Балё'наў тру'дна цяпе'р даста'ць, у магазі'нах усьле'т разьбіра'юць. *Ляхі.*

БАЛЁ′ТА (балё′та) *ніяк.* Балота. У нас за сяло′м вя′скае балё′та, то не хадзі′це, калі′ ня ве′даеце дзе. *Паг.*

БАЛО′ННЕ (бало′ньне) *ніяк.* Узлесак. У гэ′тым го′дзі мно′га суні′ц пра′ма тут, блі′ска на бало′ньні. *Тур.*

БАЛЫ′ГА (балы′га) *агульн.* Гультай. Мой жа дзет балы′га, а працава′ць шчэ мо′жа. *Суд.*

БАЛЬШЫ′ РУКА′Ў. Пройма. Бальшы′ рука′ў пра-рэ′зала. *Рат.*

БАЛЯ′СКА (баля′ска) *жан.* Штакецінка ў плоце. Ды што гэ′та за лі′ха! Ко′жную ноч не′хта адрыва′е баля′скі. *Гальш.*

БАМБЭ′НАК (бамбэ′нак) *мужч.* Бубен. Пайдзі′ да Сасно′ўскага ды пазы′ч бамбэ′нак, хаця я і не разуме′ю гэ′тае гра′ньне, гудзі′ць то′лькі. *Кальч.*

БАНКА′РТ (банка′рт) *мужч.* Байструк. Зо′сіна дачка′ банка′рта прывяла′. *Цял.*

БАНКРА′Т (банкра′т) *мужч.* Дамкрат. Падашлі′ к дзя′цьку там аднаму′ і ўзялі′ банкра′т, і банкра′там тым паднялі′ сьві′ран. *Ніз.*

БАРАВІ′НА (бараві′на) *жан.* Участак лесу, парослы маладымі дрэўцамі. Гэ′тая бараві′на і вы′вядзе цябе′ про′ста да по′ля. *Тур.*

БАРВЯ′К (барвя′к) *мужч.* Баравік. Барвяко′ў мно′га набра′лі, але′ ўсе дро′мныя. *Асіп.*

БАРЖДЖЭ′Й (барждж э′й) *прысл.* Хутчэй. *Жор., Хап.* Бараждж э′й бяга′йця сюды′. *Дук.*

БАРНЭ′ЛЬКА (барнэ′лька) *жан., бат.* Чорнагалоў. Барнэ′лька пры даро′гах расьце′, дык каро′вы ўсю пае′лі, паку′ль іду′ць. *Хож.*

БАРКА′ННЕ (барка′ньне) *ніяк.* Морква. Вы′палаць жа на′да барка′ньне і калі′ку, усё′ зарасло′. *Вяр.*

БАРХА′ННЕ (барха′ньне) *ніяк. Гл.* барканне. Насадзі′лі барха′ньня ў гэ′тым го′дзе, уве′сь агаро′д занялі′, дзе′ці мае′ на′тта лю′бяць. *Вяр.*

БАРЭ′ТКІ (барэ′ткі) *жан.* Туфлі. Апрану′ла но′выя барэ′ткі ды на ву′ліцу хуччэ′й. *Чэрв.*

БАСАТА′ (басата′) *агульн., толькі ў адз.* Свавольнікі. Цэ′лую ноч не дае′ спако′ю гэ′та басата′. *Кухц.*

БАТАРЭ′ЙКА (батарэ′йка) *жан., перан.* Кішэнны ліхтарык. Я′дзя ту′фяль згубі′ла, ла′зіць па памідо′рах, шука′я з батарэ′йкай той ту′фяль. *Сав.*

БАТАРЭ′Я (батарэ′я) *жан., перан.* Непаваротлівая жанчына. У яго′ не жо′нка — батарэ′я, як паве′рнецца — усё′ ляці′ць. *Сл.*

БАХУ′Р (баху′р) *мужч., перан.,* з адценнем *незадав.* Кацяня. Ко′шка зале′зла за печ, прывяла′ чэ′цьвера бахуро′ў, рыжу′ль не′кіх. *Сав.*

БА′ХАЦЬ (ба′хаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Спаць. Ба′хай, ба′хай, сыно′к, бо воўк ско′ра пры′дзя і забярэ′ цябе′. *Ляхі.*

БАЦ (бац) *мужч.* Пацук. Бац уле′с у па′стку і задушы′ўся. *Дук.*

БАЦЯ′Н (бацья′н) *мужч.* Бот. Хо′ладна было′, а я ў бацяна′х дзіра′вых, нох ні чуў. *В. В.*

БА′ЧНАСЦЬ (ба′чнасьць) *жан.* Мэта. Ён бяз ба′чнасьці жыве. *В. В.*

БА′ЯЦЬ (ба′яць), -ю, -еш; *незак. тр.* Гаварыць абы што. Што ты мне тут яшчэ′ ба′яш, хі′ба ж я гэ′тага ні зна′ю? *Ляхі.*

БЕ′ГАЦЬ (бе′гаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Заляцацца. Мікала′ішын старэ′йшы бе′гая за маё′й уну′чкай, палюбі′ліся. *В. В.*

БЕЗ (без) *мужч.* Бэз. У нас бе′зу ко′лькі хо′чаш. Усё′ сяло′ хо′дзіць буке′ты лама′ць вясно′ю, бо ён ве′льмі пахучы. *Ляхі.*

БЕЗГАЛО′ЎЕ (безгало′ўя) *ніяк.* Мор. Не′кая безгало′ўя увалі′лася — ку′ры до′хнуць. Сядзі′ць на куро′саньні, грэ′бянь шчарне′я і ўсё. *Бялар.*

БЕЗНАДЗЁ′ЖНЫ (безнадзё′жны) (дождж) *прым.* Вялікі (дождж). Гэ′так уве′чары паго′да была′, а ўно′чы безнадзё′жны дошч ліў. *В. В.*

БІКЕ′Ш (біке′ш) *мужч.* Бекеша. Паглядзі′, яко′га я сукна′ на біке′ш набра′ў. *Ляхі.*

БІ′ЛА (бі′ла) *ніяк.* Спінка ў ложку. Трэ′ба занаве′скі на бі′ла купі′ць, харо′шай кры′ху ў ха′ці бу′дзя. *Ляхі.*

БІЛІЗІ′Н (білізі′н) *мужч.* Бензін. Абле′яў білізі′нам ха′ту не′мяц і патпалі′ў. *В. В.*

БІЛЬЗІ′Н (більзі′н). *Гл.* білізін. Папрасі′ ў яго′ більзі′ну ў машы′ну. *Сяд.*

БІРКЕ′С (бірке′с) *мужч.* Брыкет. Прыве′зьлі ўчо′ра бірке′су машы′ну, а я бая′лася, кап дошч ні пайшо′ў, то цяга′ла яго′ ўсю′ ноч у хлеў. *В. В.*

БІТЛА′ЖКА (бітла′шка) *жан.* Біклага. *Цял., Жор., Хар.* У бітла′шках не′калі бра′лі ваду′ на по′ля. *Дук.*

БІЦУ′К (біцу′к) *мужч., зневаж.* Гультаяваты чалавек. От біцу′к гэ′ты, хо′дзіць па сяле′, нічо′га ні ро′біць. *Ляхі.*

БІЦЬ (біць), б'ю, б'еш; *незак. тр.* Рабіць, здабываць. 1. (Масла). Ма′сла бі′лі с сыро′е сьмята′ны. *Рат.* 2. (Алей). С канапе′ль але′й бі′лі. *Рат.*

БЛІСКУ′ХА (бліску′ха) *жан.* Саматканая посцілка з узорамі. Мно′га рабо′ты над гэ′тымі бліску′хамі, яны′ ш з узо′рамі. *Кухц.*

БЛІСКУ′ЧАЯ КО′ЎДРА. Коўдра з узорамі. Мо, чаты′ры гады′ прайшло′, як мы бліску′чыя ко′ўдры тка′лі. *В. В.*

БЛІШЧА′СТЫ (блішча′сты) *прым.* Бліскучы. *Дук, Жор., Хар.* Я ні люблю′ блішча′стых гу′зікаў. *Цял.*

БЛЯКО′ТНІК (бляко′тнік) *мужч., бат.* Блёкат. Яка′я там чо′рта трава′, адзі′н бляко′тнік. *Вайк.*

БЛЯХА′Н (бляха′н) *мужч.* Адстойнік для малака. Малако′ ў пяць бляхано′ў наліла′, хай пастаі′ць. *Кальч.*

БЛЯША′НКА (бляша′нка). *Гл.* бляхан. Апусьці′ бляша′нку ў кало′дзясь, малако′ смачне′йшае бу′дзя. *Ляхі.*

БО′ЙКА (бо′йка) *жан.* Пасудзіна з клёпак, у якой б'юць масла. Ма′сла б'юць у бо′йцы з сыро′й сьмята′ны. *Дук.*

БО′ЛАБАЦЕНЬ (бо′лабацень) *мужч., агульн.* Балбатун. Успако′йся ты, бо′лабацень нішча′сны. Пле′шча й пле′шча гэ′тым язько′м. *Ляхі.*

БО′НДА (бо′нда) *жан.* Пірог. К сьвя′ту бо′нду сьпяку′, то′лькі мукі′ пшані′чнай купі′ць. *Уз.*

БО′ЎДЗІЛА (бо′ўдзіла) *мужч., зневаж.* Недалёкі чалавек. Бо′ўдзіла гэ′та, а шчэ й задае′цца. *Дук.*

БО′ЎТАНКА (бо′ўтанка) *жан.* Пойла, якім пояць цялят. Цяля′та шчэ малы′я, то трэ′ба бо′ўтанкі навары′ць ды й напаі′ць. *В. В.*

БО′ЦІКІ (бо′цікі) *толькі ў мн., бат.* Гарычка. Не′калі бо′цікі і я рва′ла ў ле′сі, калі′ была′ малада′я. *Ніз.*

БРАДНЮ′ШКА (браднюʹшка) *жан.* Частушка, прыпеўка. Адна′ вот браднюʹшка марко′тная, не люблю′ яе′, а вот як сьпява′еш вясё′лую, дык на душы′ ро′біцца до′бра. *Кальч.*

БРАДО′К (брадо′к) *мужч.* Водмель. По′йдзем на брадкі′ ляві′ць пячкуро′ў. *В. В.*

БРАЖДЖА′ЦЬ (браждҗа′ць), -у, -ыш; *незак. тр.* Брызгатаць. Дай мало′му ца′цку, то бу′дзя браждҗа′ць і забаўля′цца. *В. В.*

БРАТАВУ′ХІ (братаву′хі) *жан.* Жонкі родных братоў. Адны′ братаву′хі засталі′ся — Да′ніха і Але′шча. Да′ніха штонядзе′лю ў Сто′ўпцы, то барана′ прада′сьць, то аве′чку, зо′лато ме′ла, а Але′шча дурно′ю і паме′рла, гро′шай ні зна′ла. *Сав.*

БРАТА′НКА (брата′нка) *жан.* Пляменніца, братава дачка.— А яе брата′нка ці жыве?— Жыве′. Тро′е дзе′так мае′. *Сав.*

БРА′ТАЧКІ (бра′тачкі) *толькі ў мн., бат.* Фіялкі. Бра′тачкі заву′ць яшчэ′ брат і сястра′, яны′ ў куста′х па ле′ся расту′ць. *Малм.*

БРА′ЦЦА ГНО′ЕМ. Нагнойвацца. Ка′жа, што ў но′сі ўжо мінда′лі гно′ям бяру′цца, трэ чы′сьціць кла′сьціся ў бальні′цу. *В. В.*

БРАЦЬ БЕЗ ЗА′ДНІХ НОГ. Працаваць хутка, многа. На сенако′сі бра′лі без за′дніх нох, набліжа′лася хма′ра. *В. В.*

БРУДВА′ГА (брудва′га) *жан.* Грунтвага. Ну′жна то′чна ста′віць ра′мку пад брудва′гу. *Вішн.*

БРЫ′КСА (бры′кса) *жан.* Курынае проса, брыца. Зма′лку вучы′ся тра′ўкі ро′зныя разуме′ць. Во бры′кса. А то канапе′лька, дро′сінь. А гэ′та ў нас асо′т. Макры′ца ёсь. А гэ′ту бры′ксай заву′ць, у кукуру′зі расьце′, бо лю′біць мо′крае. *Бялар.*

БРЫЛЬ (брыль) *мужч.* Фальбона. Бры′лі ка′жуць і хвальбо′ны, гэ′та ўсё ро′ўна. *Рат.*

БРЫ′НДЫ (бры′нды) *толькі ў мн.* Старыя чаравікі. Абу′й бры′нды ды хадзі′ сабе′ па сяле′. *В. В.*

БРЭХ (брэх) *мужч.* Страха, пад якой хаваюць сена ад дажджу. *Кухц.* Нясі′ця скарэ′й се′на пад брэх, бо вонь хма′ра нахо′дзіць. *В. В.*

БУВА′ЦЬ (бува′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Абуваць. Е′сьці е што, бува′ць такса′ма, дажылі′ мы до′брага жыцьця′. *Сак.*

БУГАІ′ (бугаі′) *толькі ў мн.* Буякі. Бугаі′ до′брыя я′гады. Сё′лята бугаі′ такі′я буйны′я. *В. В.*

БУГА′ННІК (буга′ньнік) *мужч. Гл.* баган. У гэ′тым го′дзі буга′ньнік у рост чалаве′ка, вот вялі′кі, і чалаве′ка да дурнаты′ даво′дзіць. *Папл.*

БУГА′НЫ (буга′ны) *мужч. Гл.* балабоны. Ой, была′ ў бугано′х, здурне′ла зусі′м, галава′ балі′ць, кру′ціцца. *Папл.*

БУ′ДАЧКА (бу′дачка) *жан., перан.* Невялікая хатка. Пераехаў у вёску гэ′тую я чаты′ры гады′ наза′т, купі′ў тут сабе′ бу′дачку. *В. В.*

БУЛЁ′Н (булё′н) *мужч.* Бульбяны суп. *Цял., Хар., Жор.* Булё′н до′бра на сьне′даньня. *Дук.*

БУЛО′ЎКА (було′ўка). Вадзяная лілея. Гэ′тыя було′ўкі бе′лянькія пла′ваюць па Вялі′кай Ву′сі, гэ′та ж ляка′рства з іх ро′бяць. *В. В.*

БУЛДА′ЎКА (булда′ўка) *жан. Гл.* булоўка. Ну і пры го′жыя булда′ўкі! Як ты іх то′лькі даста′ў з вады′, яны ж далё′ка ад бе′рага? *Крус.*

БУЛЬБЕ′ШНІК (бульбе′шнік) *мужч.* Бульбоўнік. Бульбе′шнік су′шуць каро′вам. *Рат.*

БУЛЬБО′ШНІК (бульбо′шнік) *мужч. Гл.* бульбешнік. Ідзі′, сажні′ бульбо′шнік, бо ўжо вялі′кі, бу′льба ху′тка вы′расьце. *В. В.*

БУНТАВА′ЦЬ (бунтава′ць), -ую, -еш; *зак. тр.* Збіваць з толку. Не бунту′й ты яга′, калі′ ё′сьціка жада′ньне, хай ву′чыцца. *Сяд.*

БУРВА′ЛАЧАК (бурва′лачак) *мужч.* Зялёная паласа травы на прыгуменні. Быва′ла, пакі′ням бурва′лачак на прыгуме′нні, а цяпе′р ужо′ ня мая′. *В. В.*

БУРБО′ЛІЦЬ (бурбо′ліць), -ю, -іш; *незак. тр.* Кіпець (гучна). Аткры′ла кры′шку, а там ажна′ бурбо′ліць, аш по′пырскі гара′чыя выпада′юць. *Клет.*

БУ′СЛІК (бу′сьлік) *мужч.* Мера вадкасці, роўная 100 г. *Малм.* Хло′пцы, дава′йце зро′бім па бу′сьліку. *В. В.*

БУСЬКО′ (бусько′) *мужч.* Бусел. Ні′нка, дачу′шка, паглядзі′! Ужо′ бусько′ з вы′раю пryляце′ў да нас. *Юр.*

БУ′ХМЫ (бу′хмы) *толькі ў мн.* Буфы. Во была′ мо′да: пла′цьця до′ўгая, бу′хмамі былі′ рука′ва. Я яго′ падрэ′зала, пакараці′ла, рука′ва паву′зіла, перабра′ла і сама′ нашу′. *Бялар.*

БУ′ХНУЦЬ, -у, -еш; *зак. тр.* Упасці. Мо′жа, ўто′піцца, як бу′хня ў рэ′ку з матацы′клам. *В. В.*

БУЯ′НІЦЬ (буя′ніць), -ю, -іш; *незак. тр.* Лаяцца. Дак Жэ′нік буя′ніць, як гэ′та ні загна′ць каро′вы? *Кам.*

БЭ′ЛЯ (бэ′ля) *жан., зневаж.* Неахайная жанчына. Апрану′лася твая′ Та′ня, як та′я бэ′ля. *В. В.*

БЭ′НЦНУЦЬ (бэ′нцнуць), -ну, -неш; *зак. тр.* Легчы і хутка заснуць. Учо′ра так стамі′лася, што бэ′нцнула ве′льмі ра′на, а сяго′ньня зноў трэ′ба ісьці′. *Касц.*

БЯГНЯ′ (бягня′) *жан.* Беганіна. Адна′ бягня′, а то′лку нія′кага, ужэ′ ні той анцярэ′с, кап кні′шкі хоць пачыта′ць. *Пяр.*

БЯЛЬЗІ′Н (бяльзі′н) *мужч. Гл.* білізін. У яго′ ні тра′хтары, ні камба′йны не стая′лі, усягды′ бяльзі′ну хвата′е, саля′ркі паддаста′ткам, на яго′ й пратсяда′цель ні злава′ў, як ён кладаўшчыко′м быў. *Сав.*

БЯСЕ′ДА (бясе′да) *жан.* Вяселле, хрэсьбіны, проста госці. Бясе′да мне прышла′ся да спадо′бы: і піць было′ што, і заку′скі было′ мно′га. *Гальш.*

## В

ВА′ДЗІЦЦА (ва′дзіцца), -джу-ся, -дзіш-ся; *незак. тр.* Сварыцца, Ко′жны дзень яна′ з няве′сткай ва′дзіцца, ні адна′ ні састу′піць. *Яз.*

ВАДРЫ′НКА (вадры′нка) *жан.* Адрына, хлеў. Ля вадры′нкі трэ′ба пракапа′ць раўчукі′, бо туды′ мо′жа пайсьці′ вада′. *Гальш.*

ВАЖДА′ЦЦА (важда′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Вагацца, быць не ўпэўненым у чым-небудзь. Ну, до′ўга ты ішчэ′ важда′цца бу′дзеш, раша′й скарэ′й. *Клет.*

ВАЗО′ЎНЯ (вазо′ўня) *жан.* Памяшканне, дзе стаяць павозкі. Вазо′ўня не′калі была′, там калё′са ста′вілі. *Цял.*

ВАЗЮ′РЫ (вазю′ры) *толькі ў мн.* Растаптаны, нязграбны абутак. Ты сваі′мі вазю′рамі ўсю падло′гу мне завэ′дзгаў. *Кн.*

ВАКЕ′ННІЦА (ваке′ньніца) *жан.* Аканіца. Учо′ра як шпурну′ў зэ′даль, дык акно′ чуць з ваке′ньніцай ні вы′садзіў. *Клет.*

ВАЛ (вал) *мужч.* Згрэбеныя ў радкі пракосы сена. Се′на ў валы′ грабу′ць. *Рат.*

ВА′ЛАК *мужч. Гл.* авалак. Даста′нь ва′лак за ко′мінам, трэ′ба бяльё′ пакача′ць. *Ніз.*

ВАЛАКА′ЦЬ (валака′ць), -аю, -еш; *незак. тр.* Насіць. Дзе′вяць ме′сяцаў была′ я ў парціза′нах да валака′ла ім медзікаме′нты. *Ніз.*

ВАЛА′ЦЬ (вала′ць), -аю, -еш; *незак. тр.* Клікаць. Мяне′ вала′юць у сельсаве′т, не ве′даеш, што там бу′дзя? *Сяд.*

ВАЛІ′ЗА (валі′за) *жан., неадабр.* Вельмі тоўстая жанчына, непаваротлівая. Ну і валі′зай зрабі′лася, пабы′ўшы ў го′радзе! *Кастр.*

ВАЛЮХА′ЦЦА (валюха′цца),-ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Ісці перавальваючыся. Вот у яго′ хада′ бры′ткая, валюха′яцца, як ка′чка. *Дук.*

ВАЛЮ′ША (валю′ша) *жан.* Валюшня. Тка′лі сукно′, алі′ ш яно′ рэ′ткая. Мачы′лі, каб звалі′лася. Памо′чыць ба′цька ў пу′ні ў валю′шы, патаўчэ′ таўкача′мі, камяня′мі прыці′сьня —й сукно звалі′лася. Так не′калі рабі′лі. *Бялар.*

ВАЛЯ′Н (валя′н) *мужч.* Фата. На шлюб суке′нка бе′лая і баці′нкі с халя′ўкамі былі′, тады′ валя′н на галаву′ адзява′ла. *Вішн.*

ВАНЦА′К (ванца′к) *мужч.* Чорт. Сымо′н, ванца′к цябе′ пабра′ў бы, дава′й маю′ пу′гу. *Кап.*

ВА′РА (ва′ра) *жан.* Вараная страва. Навары′ ва′ры яко′е-не′будзь, бо нія′кага нае′тку німа′. *Лях.*

ВАРАЖЭ′НЕ (варажэ′ньне) *ніяк.* Варажба. Цяпе′рачка варажэ′ньню ніхто′ па-сур'ё′знаму і не ве′рыць, адно′ то′лькі дзе′ўкі. *Пяр.*

ВА′РАЎНЯ (ва′раўня) *жан.* Пограб. Каб бу′льба ня зьме′рзла, у ва′раўню жар насі′лі. *Крус.*

ВАРО′НКА (варо′нка) *жан.* Адтуліна ў пограбе. Закры′й варо′нку, а то маро′с у по′грап уле′зя, усе′ бураке′ і карто′пля паме′рзнуць. *Ляхі.*

ВА′РЫВА (ва′рыва) *ніяк.* Боршч. Бурако′ў назапа′сіла, хо′піць на ва′рыва на ўсю зіму′. *Пяр.*

ВАСЦІ′ГНУЦЬ (васьці′гнуць) *незак. тр.* Пачацца. Як васьці′гнуў го′лат, тады′ мы рашы′лі атпра′віцца на сваю′ ро′дзіну. *Шут.*

ВА′ТНІКІ (ва′тнікі) *толькі ў мн.* Ватовыя штаны. Купі′ў бы ва′тнікі, бо маро′с у ва′тніках не стра′шны. *Пяр., Клет.* Цё′пла сё′літа. А ле′тась у гэ′тую пару′ пад ве′чар на′да было′ ва′тнікі адзява′ць і кажу′х, каб ні зьме′рзнуць. *Бялар.*

ВАРУНЯ′ (варуня′) *жан.* Засек. Трэ′ба шчэ засы′паць дзве варуні′. *В. В.*

ВАРЫЎНЯ′ (варыўня′) *жан.* Памяшканне, дзе захоўваюць бульбу і гародніну. Пайшла′ я рас у варыўню′ па капу′сту, сяджу′ там і чмя′каю яе. *Акал.*

ВАРЭ′ННІК (варэ′ньнік) *мужч.* Варэнік. Варэ′ньнікі саджа′юць у печ і пяку′ць. *Рат.*

ВАЎКАРЭ′ЗІНА (ваўкарэ′зіна) *жан., лаянк.* Лянівы конь. Но, ваўкарэ′зіна, ідзе′ш і сьпіш, кап ты здох, кап ты! *Дук.*

ВАША′К (ваша′к) *мужч., зневаж.* Вытворнае ад вош. Яе (цялу′шачку) вашако′м заву′ць, таму′ што мале′нькая. Хто ягнё′м заве′ за малы′ рост, хто вашако′м, што як вош мала′я. *Бялар.*

ВЕЛЬКА′НОЦ (вялька′ноц) *мужч.* Вялікдзень На вялька′ноц ня е′ла бу′лку вялька′ноцкую, але се′ла на

пе′чы, абапе′рлася от гэ′дак і цэ′лу па′чку круцялё′ў зьела, па′лачак гэ′тых кукуру′зных. От люблю′ я іх. *Сав.*

ВЕ′РАЦЕНЬ (ве′рацень) *мужч.* Гоні. Я ране′й, даўно′, дык пяць ве′ратняў бу′льбы садзі′ў. *Свер.*

ВЕ′РЗАЦЬ, -ю, -еш; *незак. тр., неадабр.* Гаварыць абы што. Што ты мне тут ве′рзаеш, як бы′ццам бы я нічо′га ні ве′даю. *Ляхі.*

ВЕРЧ (верч) *мужч.* Скрутак. Зьвярце′ла пало′тна ў ве′рчы, усяго′ пяць вы′йшла. *Тур.*

ВЕТА′Ж (вета′ш) *мужч.* Паверх. Ён аж на чацвё′ртым вета′жы жыве′ць, як то′лькі но′гі не баля′ць так высо′ка падыма′цца. *Сяд.*

ВЕ′ЧНЕ (ве′чня) *прысл.* Заўсёды. *Дук.* Мае′ но′гі хало′дныя ве′чня. *Цял.*

ВІДУ′ЧЫ (віду′чы) *дзеепрым.* Чалавек, які добра бачыць. Быў такі′ віду′чы, а тут не′шта ш случы′лася. *Турэц.*

ВІЖ (віш) *мужч.* Чалавек, які стараецца падгледзець, высачыць. Стара′я такі′ віш, што ні дай бо′жа, усё′ вы′віжыць, пад зямлё′ю ўсё ўгле′дзіць. *Ляхі.*

ВІ′СЕЛЬНІК (ві′сяльнік) *мужч., зневаж.* Нядобры чалавек. От ві′сяльнік гэ′ты, кап прыме′ў, дак сваю′ ма′цяру задушы′ў бы. *Ляхі.*

ВІ′СУС (ві′сус) *мужч., неадабр.* Жорсткі, бязлітасны чалавек. У-у, ві′сус ненаві′сны: усё′ вы′цягне, усё′ забярэ′, го′лага пакі′не. *Войр.*

ВІСУ′ШЧЫ (вісу′шчы) *прым.* Вісячы. *Цял., Хар., Жор., В. В., Кам., Ніз.* Трэ′ба купі′ць вісу′шчаю ля′мпу, бу′дзя відне′й ў ха′ця. *Дук.*

ВІ′ТКА (ві′тка) *жан.* Нізка чаго-небудзь. Купі′ла ж ві′тку па′церак, а ці бу′ду насі′ць — ня ве′даю. *Тур.*

ВІТРУ′ЎКІ (вітру′ўкі) *жан.* Басаножкі. Парва′ліся ўжо мае′ вітру′ўкі, а так до′бра было′ ў іх хадзі′ць. Пайду′ купля′ць но′выя, а ці ё′сьць які′я? *Пран.*

ВІТУ′ШКА (віту′шка) *жан.* Фасоля, якая ўецца. Віту′шку і я сё′лята пасадзі′ла для красаты′. *Папл.*

ВІЦІНА′Р (віціна′р) *мужч.* Ветэрынар. Каро′ва занямо′гла, пайду′ віціна′ра клікну, хай пагля′дзіць. *Уз.*

ВО′БУЙ (во′буй) *мужч., толькі ў мн.* Абутак. *Пяр.* Як іду′ць, дык скі′нуць свой во′буй у віра′ндзі. *В. В.*

ВО′ДЗЕЖКА (во′дзешка) *жан.* Вопратка. Ты то′лькі глянь, яка′я на ёй во′дзешка, бы каро′ва жава′ла. *Клет.*

ВО′ЖКА (во′шка) *жан.* Лейчына. Ох, дзе′ўка, дачака′ешся, што во′шка па сьпіне′ пахо′дзіць. *Клет.*

ВО′ЛЬЕ (во′лье) *ніяк.* Валляк. От ка′чкі нае′ліся, ажно′ во′лье па зямлі′ валачэ′цца. *Ляхі.*

ВОНЬ (вонь) *часціца.* Вунь. Вонь забяру′ць цябе′ цё′ці гэ′тыя, бяжы′ хутчэ′й дадо′му. *Сак.*

ВО′РАК (во′рак) *мужч.* Мех. У во′рку ячме′нь насі′лі, жы′та і ме′раць ім мо′жна. Вось я сё′ньня паўво′рка бу′льбы адда′ла. *Кальч.*

ВО′ЧКА (во′чка) *ніяк.* Дзірачка ў нітах, у якую працягваецца нітка. Кіда′ім у ніты′, праця′гаваім ні′ткі ў ко′ждаю дзі′рачку, у во′чка. *Рат.*

ВУ′ГАЛКА (ву′галка) *жан.* Грэбля праз балота. Ву′галка цяпе′р суха′я, ле′та ж цё′плая. *В. В.*

ВУГНІ′ВЫ (вугні′вы) *прым.* Гугнявы. Ве′льмі ш ніхо′раша, як дзе′ўка вугні′вая. *Ляхі.*

ВУ′ДЗІЦЬ (ву′дзіць), -джу, -дзіш; *незак тр.* Красці. Нічо′га яны не бая′цца, ву′дзяць дро′вы зь ле′су. *Алях.*

ВУ′ЗАЛАЎКА (ву′залаўка) *жан.* Драўляны брусок над пярэдняй воссю ў возе. У цябе′ ш ву′залаўка ло′пнула, як ты е′дзяш? *Рат.*

ВУЗЕ′ЛЬЧЫК (вузе′льчык) *мужч.* Птушка, падобная на мухалоўку. Вузе′льчык спры′тна мо′шак ло′віць. *В. В.*

ВУЛДЫ′Р (вулды′р) *мужч.* Гуз. Ад гэ′тага уда′ру ў мяне′ аж вулды′р уско′чыў на галаве′. *Клет.*

ВУ′ПАР (ву′пар) *прым., лаянк.* Надзьмуты чалавек. І чаго′ яму′ то′лькі трэ′ба, уве′сь час хо′дзіць такі′ злы, ву′пар гэ′ты. *Алях.*

ВУРНУ′ЦЬ (вурну′ць), -ну, -неш; *зак. тр.* Украсці. І хто п паду′маў, што ў мяне′ вурну′ць сяго′ньня кашалё′к? *Касц.*

ВУША′ЦІК (вуша′цік) *мужч.* Цэбар. Я звары′ла тры цыганы′ бу′льбы, жы′та расьці′ла, на машы′нку пера-гна′ла, дражджэ′й і задзе′лала саладу′ху ў вуша′ціку. Бялар.

ВУ′ШЛЫ (ву′шлы) *прым., неадабр.* Гультаяваты. От ву′шлыя дзе′ўкі таргу′юць у на′шым магазі′ні, хоць і маланды′я. *Бялар.*

ВЫВАДЗІ′ЦЬ (вывадзі′ць), -джу, -дзіш; *незак. тр.* Спяваць (старанна). За рэ′чкай не′дзе дзяво′чыя галасы′ стара′нна вывадзі′лі да′ўнюю пе′сьню. *Уз.*

ВЫ′ВЕСКА (вы′віска) *жан.* Шыльда. Зусі′м ужо′ сапсава′лася вы′віска «Се′льскі клуб». *Клет.*

ВЫЖА′Л (выжа′л) *мужч., неадабр.* Чалавек, які ўсё ўбачыць, аб усім даведаецца. От выжа′л гэ′ты, усё′ ўгле′дзіць, усё зно′йдзе, куды′ ні схава′й. *Ляхі.*

ВУ′СЫ (ву′сы) *толькі ў мн., бат.* Ву′сы до′ўгія на ячме′ні. *Рат.*

ВУ′ЦЬКІ (ву′цькі) *толькі ў мн.* Качаняты. Ву′цькі як вы′ведуцца, адра′зу ш іду′ць у рэ′чку. *Уз.*

ВУЧО′НЫ (вучо′ны) *прым.* Адукаваны. У майго′ суce′да дачка′ вучо′ная. *В. В.*

ВЫ′БАВІЦЬ (вы′бавіць), -ўлю, -віш; *зак. тр.* Вызваліць. Што ма′тка папалё′тала, каб яго′ вы′бавіць. *Сав.*

ВЫ′БАЙ (вы′бай) *мужч.* Выбоіна. Гэ′ты вы′бай пака′ прае′дзеш — го′ра набярэ′шся: ко′лы вя′знуць у гра′зі. *Граб.*

ВЫБІРА′ЦЬ (выбіра′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Рваць лён. Лён выбіра′лі, ірва′лі, бра′лі — усё ро′ўна. *Рат.*

ВЫ′ВЕРЦІНА (вы′вярціна) *жан.* Дрэва, вывернутае ветрам. Такі′ мо′цны ве′цер быў, што ў ле′сі адны′ вы′вярціны асталі′ся. *Малм.*

ВЫ′ВУДЗІЦЬ (вы′вудзіць), -у, -іш; *зак. тр., перан.* Выманіць. От, трэ′ было′ вы′вудзіць гро′шы, то хадзі′ў што′дзень. *В. В.*

ВЫ′ДЗЕРЖНЫ (вы′дзяржны) *дзеепрым.* Вытрыманы (аб чалавеку). Дык яму нічо′га, той хітрэ′йшы, стаі′ць і маўчы′ць, вы′дзяржны быў не′йкі. *Ніз.*

ВЫ′ЙСЦІ (вы′йсьці) *зак. тр., перан.* Удацца. Усі′м яна вы′шла: і тва′рам і фігу′раю, а гульта′йка то′лькі. *Кухц.*

ВЫ′КАЦІЦЬ (вы′каціць) *зак. тр., перан.* Вымерці. Быў гэ′ты ціф, усю′ на′шу сям'ю′ вы′каціў, а ні мала′я ж была′ сям'я′. *Кухц.*

ВЫ′ЛІВАК (вы′лівак) *мужч.* Яйка, у якім мяккая шалупіна. Ку′ра вы′лівак у гняздзе′ раздаві′ла, вы′кінуць на′да. *Тур.*

ВЫ′ЛІТЫ (вы′літы) *прым., перан.* Вельмі падобны. Кап ні ве′даў, то зра′зу сказа′ў бы, што твой сын: вы′літы ты. *Ляхі.*

ВЫЛІЧА′ЦЬ (выліча′ць), -аю, -еш; *незак. тр.* Плакаць, галасіць.— Чаго′ ты там развыліча′лася, пераж ы′ць ня мо′жаш?— Така′я мая′ до′ля — выліча′ць му′шу. *Так.*

ВЫ′МАНТАЧЫЦЬ (вы′мантачыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Выпрасіць. Усё′ адда′ў, усё′ вы′мантачыла, дык яшчэ′ й ма′ла. *Пан.*

ВЫ′МАНЧЫЦЬ (вы′манчыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Выманіць. Яна ў міне′ пасэ′ вы′манчыла і палатна′ мно′га. *Цял.*

ВЫ′ПАСАЖЫЦЬ (вы′пасажыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Выжыць, выбавіць з хаты. Ма′шка хо′ча дачку′ вы′пасажыць, хай жыву′ць сабе′ здаро′выя. Ка′жа, яны′ бу′дуць

ве′даць, што ро′бяць са′мі на сябе′, а я, калі′ магчы′ бу′ду, памагу′ ім што. *Сав.*

ВЫ′ПЛАТАЦЬ (вы′платаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Ачысціць ад касцей. От шы′начка харо′шая, хай ляжы′ць да вясны′. А пато′м харашэ′нька вы′платаць ад касьце′й і закапці′ць. От уку′сная вяндлі′нка бу′дзе. *Сав.*

ВЫПРА′ВІНЫ (выпра′віны) *толькі ў мн.* Вечарынка з прычыны адыходу ў армію. На′шаго Ва′ціка былі′ выпра′віны, як ішо′ў у а′рмію. *Сав.*

ВЫ′ПРУЦІЦЦА (вы′пруціцца), -у-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Апруцянець. Вот га′ткі чалаве′к, кап ён вы′пруціўся. *Дук.*

ВЫПЯЛЕ′НГВАЦЬ (выпяле′нгуваць), -ую, -еш; *зак. тр.* Апекаваць, выконваць норавы, прыхаці чые, каго. Дачку′ выпяле′нгувала, распусьці′ла, як дзе′даву пу′гу, а цяпе′р і сама′ не ра′да. *Сав.*

ВЫ′РАБІЦЦА (вы′рабіцца), -блю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Вырвацца. Яны′ ўдвох як увабра′лі міне′, дак я чуць вы′-рабіўся. *Цял.*

ВЫ′РАК (вы′рак) *мужч.* Прыгавор, рашэнне (суда). Судзі′лі яго, але′ вы′раку я ні ве′даю. *Сав.*

ВЫ′СКУРАЦЬ (вы′скураць), -аю, -еш; *зак. тр.* Пражыць. Бяз гро′шай, бра′тка, ня вы′скураяш до′ўга, трэ′ба каб былі′ ў запа′ся. *Дук.*

ВЫСТАЎЛЯ′ЦЦА (выстаўля′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Фанабэрыцца, выхваляцца. Ні ла′дзяць з бра′таваю. Бра′тавая наста′ўніца, а гэ′та ніву′чаная, мало′й наву′кі, але ганары′стая, задава′стая, што то я, выстаўля′ецца, без фі′гі ні да но′са. *Сав.*

ВЫСТРАНЧА′ЦЬ (выстранча′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Дагаджаць. *Цял., Дук., Жор., Хар.* Што за дзе′ткі пашлі′ цяпе′рака, дзе ш ты выстранчы′ш ім: і то′я купі′, і гэ′та, і за мо′дай го′няцца. *Раб.*

ВЫСЯКА′НЫ (высяка′ны) *дзеепрым.* Выдзеўбаны, высечаны з дрэва. Начо′ўкі зь лі′пы высяка′ныя. *Рат.*

ВЫ′ТАНУЦЬ (вы′тануць), -у, -еш; *незак. тр.* Прапасці. Хай яно′ вы′тане з такі′м жыцьцё′м: ні тут табе′ ра′дасьці, ні тут табе′ шча′сьця. *Уз.*

ВЫ′ТНУЦЦА (вы′тнуцца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Ударыцца. Бег мой хлапе′ц і вы′тнуўся не′дзе. Такі′ гус сеў. *Тур.*

ВЫТРО′ПВАЦЬ (вытро′пваць), -ю, -еш; *незак. тр.* Танцаваць з выкрутасамі. По′льку некато′рыя ў нас так вытро′пваюць нага′мі, што дзі′ву дае′сься. *Кальч.*

ВЫ′ТРУБІЦЬ (вы′трубіць), -блю, -іш; *зак. тр.* З'есці. Вы′трубіў мі′ску гаро′ху ды зноў за цэп. *Мядз.*

ВЫТЫЛІ′НГАВАЦЬ (вытылі′нгуваць), -гую, -гуеш; *незак. тр.* Граць на язык. Іва′наў хло′пяц гэ′дак хо′раша вытылі′нгуя по′льку. *Цял.*

ВЫ′ХІЛКА (вы′хілка) *жан.* Манера, звычка. Дачка′ бу′дзя якра′с як ён, але вы′хілкі бабу′ніны. *Сав.*

ВЫ′ХУДАЦЬ (вы′худаць), -аю, -еш; *зак. тр.* Схуднець. Мой уну′к нічо′га не есьць, дык вы′худаў зусі′м. *Тур.*

ВЫЦЯГА′ЦЬ (выцяга′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Выцягваць. Пато′м выцяга′лі лён і скла′лі на сьлі′шчы. *Рат.*

ВЫ′ЦЯГНУЦЦА (вы′цягнуцца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Вырасці высокім. Наш хло′пяц вы′цягнуўся, але то′нкі, як цыбу′к. *Цял.*

ВЫ′ЦЯПКАЦЦА (вы′цяпкацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Запэцкацца. Учо′ра мая′ мала′я так вы′цяпкалася, што не адмы′ць было′ ўсё. *Малм.*

ВЫШАКО′М (вышако′м) *прысл.* Вышэйшым гатункам. Здасі′ мя′са вышако′м, палу′чыш па во′сім капе′як за кі′лё, і тры рубле′, і підзісят капе′як за галаву′ надба′ўкі. *Сав.*

ВЫШТУКО′ЎВАЦЬ (выштуко′вуваць), -аю, -еш; *незак. тр.* Вымяркоўваць. Ён ка′жды дзень выштуко′вувая, кап на буты′лку сітра′ астало′ся. *Цял.*

ВЫШЧАРА'ЦЦА (вышчара'цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр., неадабр.* Смяяцца. А ён дык заўсё'ды вышчара'ецца, заўсё'ды зу'бы наве'рсе. Вось апало'нікам дам! *Пран.*

ВЭЙ (вэй) *выкл.* Ой. Вэй, як до'бра жыць цяпе'рака ста'ла. *В. В.*

ВЭ'МБРУХ (вэ'мбрух) *мужч.* Бручка. Людмі'лка, я прыне'сла вэ'мбрух, ты апчы'сьці яе', еш сама' і дай Ната'шцы. *Юр.*

ВЭ'НСУС (вэ'нсус) *прысл.* Нахабна, нястрымна. Ле'зе і ле'зе вэ'нсус, што стрыма'ць нямо'жна, наха'бнік гэ'ты. *Алях.*

ВЭ'НЯКА (вэ'някa) *часц.* Вунь. *Дук., Хар., Жор.* Вэ'някa пашла' мая' няве'стка з дзе'цьмі. *В. В.*

ВЯ'ДЛЕЦЬ (вэ'дляць), -ю, -еш; *незак. тр.* Ледзь жыць. Вэ'длее гэ'ты стары' на гэ'тым сьве'ці, такі' ўжо' слабы'. *Ляхі.*

ВЯЗЁ'НКА (вязё'нка) *жан.* Рукавіца. Хай бы крупі'нка ні'так яшчэ', якра'з бы на вязё'нкі хваці'ла. *Пяр.*

ВЯЛІ'ЗАЗНЫ (вялі'зазны) *прым.* Велізарны. У нас на агаро'дзі стаё'ў такі' вялі'зазны дуп, што чуць сьпілава'лі. *Цял.*

ВЯЛІ'КІ (вялі'кі) *прым.* 1. Доўгі. Тває' валасэ' вялі'кія. *Цял.* 2. Высокі. Мой мужы'к быў вялі'кі. *Цял.* 3. Дарослы. Ён ужо' вялі'кі, нале'та по'йдзе ў а'рмію — прызыва'юць. *Дук.*

ВЯРЭ'ПАЎКА (вярэ'паўка) *жан.* Жаба. Вярэ'паўка ня ска'ча, а по'ўзая. *Дук.*

ВЯТРО'ЎКА (вятро'ўка) *жан.* Ятроўка. До'брая ў мяне' вятро'ўка папа'лася, ка'жды рас пада'рак прыво'зіць. *Ляхі.*

ВЯША'К (вяша'к) *мужч.* Вешалка. Фрэнч паве'сіла на вяша'к, а хто яго' ўзяў, ні ве'даю. Не'хта адзе'ў, мо'жа. *Сав.*

# Г

ГАБЛЮКІ′ (габлюкі′) *толькі ў мн.* Стружкі. Дзе ты′я габлюкі′? Печ патпалі′ць трэ′ба, ды і гара′ць яны′ до′бра. *Бр.*

ГАБЭ′ЛЯК (габэ′ляк) *мужч.* Фуганак. Дзе мой габэ′ляк? До′шку бу′ду габлява′ць для стала′. *Пран.*

ГАВЭ′НДА (гавэ′нда) *жан.* Размова, гаворка. Аб гэ′та ня мо′жа быць гавэ′нды. Як сказо′ў, так і зраблю′. *Дук.*

ГА′ДАРАЗНЫ (га′даразны) *прым.* Вельмі гадкі. Не′йкія збанке′ цяпе′р га′даразныя ро′бяць — шурпа′тыя, ні лу′дзяць іх. *В. В.*

ГАДЗІ′ЦЦА (гадзі′цца), -джу-ся, -дзіш-ся; *незак. тр.* Дамаўляцца. Яны′ гадзі′ліся ха′ту крыць, але′ не′шта ні пашлі′. *Цял.*

ГАЙНЯ′ (гайня′) *толькі ў адз., перан.* Група дзяцей, якія сваволяць. Ад гэ′тай гайні′ не адагна′цца. *Кухц.*

ГАЛАВА′ (галава′) *жан.* Качан капусты. Капу′сту сале′трай патсы′паць, от до′бра расьце′, гало′вы ве′лькія. *Бялар.*

ГАЛАВА′Ч (галава′ч) *мужч.* Галавень. Ну й вялі′зныя галавачы′ ў нас былі′ ране′й. *В. В.*

ГАЛАПУ′Н (галапу′н) *мужч.* Певень. Галапу′н гэ′ты чырво′ны, то′лькі і грабе′цца ў гаро′дзе. *В. В.*

ГАЛГАЯ′НКА (галгая′нка) *жан., зневаж.* Дурнаватая жанчына. Яна′ хі′трая, хоць і галгая′нка. *В. В.*

ГАЛДА′ВЫ (галда′вы) *прым. Гл.* вугнівы. Галда′вае ета дзіцянё′, нічо′га не зразуме′еш, што ка′жа. *Тур.*

НАГАЛЁ′КАЦЬ (нагалё′каць), -ю, -еш; *зак. тр.* Нагаварыць. Ну што — нагалё′кала на сваю′ галаву′? *В. В.*

ГАЛЁ′НЫ (галё′ны) *мн., адз.* галё′на. Галёнкі. Пайшла′ грэ′бці се′на без панчо′х, дык пакало′ла сабе′ ўсе галё′ны. *Яз.*

ГАЛО′ЎКА (гало′ўка) *жан.* Каробачка, у якой змяшчаецца льняное семя. Гало′ўкі ад лёну на нажы′ абраза′лі. *Рат.*

ГАЛЬБО′ТА (гальбо′та) *жан.* Бедната. У наш час малады′ така′я гальбо′та была′, адны′ дзеравя′шкі на ўсіх вы′йсьці на ву′ліцу. *Уз.*

ГАМАНЕ′Ц (гамане′ц) *мужч.* Кашалёк. Згубіў я сё′ньня ў ле′сі сво′й гамане′ц з грашы′ма, мо′жа пашука′ць? *Мац.*

ГАМАНУ′ХА (гаману′ха) *жан.* Гаваруха. Падыдзе′це да той цё′ткі, вот яна′ гаману′ха. *Тур.*

ГА′МЗАЛЬ (га′мзаль) *мужч.* Смуглы. Вой, я ш як га′мзаль чо′рная, мне і загара′ць ня трэ′ба. *В. В.*

ГА′МУЗАМ (га′музам) *прысл.* Гуртам. Мы яе′ со′ткі га′музам ху′тка апало′лі. *Дук.*

ГАМЭ′РНЯ (гамэ′рня) *жан.* Сварка. Пачала′ся гэ′тая гамэ′рня памі′ж і′мі зусі′м нечака′на, такі′мі до′брымі сусе′дзямі былі′. *Кап.*

ГА′НАК (га′нак) *мужч.* Веранда. Га′нак у нас прыбудо′ўваюць да ха′ты, ён з мале′нькімі во′кнамі. Сядзе′ць там до′бра, калі′ до′жджык. *Мядз.*

ГАНДЗЮ′РЫЦЬ (гандзю′рыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Гаварыць абы што. Гэ′ты чалаве′к заўсё′ды сто′лькі гандзю′рыць, што не ва′рта яго′ за′рас слу′хаць, гаво′рыць глупства. *Касц.*

ГАНДЛЯ′ (гандля′) *жан.* Ганння. Не йдзі па загуме′ньні, там гандля′ бе′гая, яшчэ′ парве′. *Ляхі.*

ГАНКІ′ (ганкі′) *толькі ў мн.* Участак зямлі, які належаў селяніну пры аднаасобным карыстанні зямлёй. Жы′та насе′ялі ганкі′, ды тако′я ш удало′ся вялі′кая, густоя! *В. В.*

ГАНЯ′ЦЬ (ганя′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Акучваць бульбу. *Цял., Жор., Хар., Ніз., Кам.* Трэ′ба карто′плю ганя′ць, а то перарасьце′. *Дук.*

ГАРАТНЫ′ (гаратны′) *прым.* Гаротны. Вот ён чалаве′к такі′ гаратны′: усё′ няшча′сьце ды няшча′сьце. *Вішн.*

ГАРБУ′З (гарбу′с) *мужч., перан.* Вялікі жывот. А няўжо′ ж! Калі′ б ні пра′ўда, дык гарбу′с такі′ не адгадава′ў бы, а то йдзе і ног ні ба′ча. *Сл.*

ГАРКА′ВЫ (гарка′вы) *прым.* 1. Горкі. Вот ужо дала′ я′блык, што ў рот не ўзяць, такі′ гарка′вы. *Кальч.* 2. Картавы. От зара′за гарка′вая, сама′ ні мо′жа сло′ва сказа′ць, а яшчэ′ на каго′ гаво′рыць. *Ляхі.*

ГАРЛЯЧЫ′ШЧА (гарлячы′шчо) *ніяк., з адценнем груб.* Дыхальнае горла, гарляк. Ку′ра жы′рная, здаро′вая. Во′льё ве′лькаё, жы′рнаё, гарлячы′шчо ня вы′цягнуць. *Сав.*

ГАРМІ′ДАР (гармі′дар) *мужч.* Зборышча, натоўп людзей. Не′шта каля′ ха′ты Кандрацюко′ў гармі′дар сабра′ўся. *Кап.*

ГАРО′ВАНЫ (гаро′ваны) *прым.* Чалавек, які ўвесь час жыве ў горы. Вэнь Іва′нішыны дзе′ці, ба′цькі няма′, дык такі′я гаро′ваныя. *Тур.*

ГА′РНА (га′рна) *прысл.* Добра. Га′рна ігра′е на гармо′ніку: са′мі но′гі хо′дзяць. *Уз.*

ГА′РЦАВЕНЬ (га′рцавень) *мужч.* Бутля ёмістасцю 3—5 літраў. Трэ′ба ўжо ма′сла біць, га′рцавень сьмята′ны сабра′ла. *Тур.*

ГАРШЧЭ′ЧНІК (гаршчэ′чнік) *мужч.* 1. Чалавек, які робіць гаршкі. Не′калі гліня′ныя га′ршкі рабі′лі гаршчэ′чнікі. *Цял.* 2. Той, хто прадае гаршкі. Гаршчэ′чнік — гэ′та што вазі′ў і про′даў гліня′наю пасу′ду — гаршке′, збанке′, мі′скі, гляке′. *Цял.*

ГАРЭ′Й (гарэ′й) *прысл.* Горш. А ну цябе′, я яшчэ′ тут гарэ′й зьме′рзла. *Касц.*

ГАРЭ′ЦЬ (гарэ′ць) *незак. тр.* Цвісці (у адносінах да гуркоў, гарбузоў). Агуркі′ ў мяне харашо′ гара′ць. *Рат.*

ГАЮ′ШЧЫ (гаю′шчы) *дзеепрым.* Гаючы. Сок з алья′су гаю′шчы, любу′ю ра′ну го′іць. *Цял.*

ГВАЛТАВА′ЦЬ (гвалтава′ць), -тую, -туеш; *зак. тр.* Падымаць гвалт. Дам за′раз, дам е′сьці, шчаня′та вы, а то ўжо гвалту′яцця. *В. В.*

ГЕ′РДАЦЬ (ге′рдаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Гаварыць невыразна. Ён мо′цна ге′рдае, за што яго′ то′лькі любі′ць мо′жна, ён жа і нікрасі′вы. *В. В.*

ГІ′ДЛІВА (гі′дліва) *прысл.* Брыдка. Фу, як гі′дліва глядзе′ць на яго′ паво′дзіны. *Мядз.*

ГІЗ (гіс) *мужч.* Раздражненасць скаціны ад укусаў аваднёў. Упо′ўдні як уця′лі авадне′, дак на каро′ў такі′ гіс напо′ў, што ня ўтрыма′ць было′. *Дук.*

ГІЗАВА′ЦЬ (гізава′ць) *незак. тр.* (аб скаціне). Кідацца ў розныя бакі, як пачнуць кусаць авадні. Каро′вы пачалі′ гізава′ць, трэ′ба гнаць у хлеў, бо як разгізу′юцца, то ня заго′ніш. *Дук.*

ГІРДА′ЦЬ (гірда′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Шапялявіць. Гэ′та дзяўчы′нка і ме′ншая, але чы′ста гаво′рыць, а ён бо′льшы, ды гірда′я. *В. В.*

ГЛЁ′ЎКІ (глё′ўкі) *прым.* Дрэнна выпечаны хлеб, пірог. *Цял., Кам.* Я, му′сіць, ма′ла напалі′ла печ, дак хлеп глё′ўкі вы′шаў, недапё′кся. *Дук.*

ГЛІ′ЗАВАТА (глі′завато) *прысл., перан.* Слізготна, слізготны, коўзкі. Уле′й малачка′ кі′слаго ў халадніч о′к, а то ад адно′й сьмята′ны бу′дзя глі′завато. *Сав.*

ГЛІ′НА (глі′на) *жан., перан.* Цяжкі, непаваротлівы чалавек. Цягні′, То′лік, яго′ ў ваду′. Мой жыво′т бале′ць бу′дзя, калі′ я бу′ду цяга′ць гэ′такую глі′ну, ця′шкага тако′га. *В. В.*

ГЛУБАЧЭ′Й (глубачэ′й) *прысл.* Глыбей. А ты глубачэ′й зайдзі′, не тапчы′ся на бро′дзе. *Клет.*

ГЛУМ (глум) *мужч.* Непрактычны чалавек. Глум ты, а не гаспада′р. Ці ш с табо′ю што нажыве′ш? Лю′дзі з

рубля′ ро′бяць со′тню, а ты з со′тні ро′біш рубе′ль. *Клет.*

ГЛУХІ′Я ГРЫБЫ′. Ядавітыя грыбы. Ай, дзе′ткі, гэ′та ш глухі′я грыбы, а вы назьбіра′лі паўкаша′. *В. В.*

ГЛУШМА′Н (глушма′н) *мужч.* Глухі чалавек. Ты як не′кі глушма′н, ня чуіш. *Турэц.*

ГЛЫБО′ЗАЗНЫ (глыбо′зазны) *прым., найвыш. ст. ад* глыбокі. *Ляхі, Цял.* Ну й глыбо′зазны кало′дзясь у вас. *Дук.*

ГЛЫ′ЗКА (глы′ска) *жан.* Кавалак засохлай зямлі. Нашто′ ты кі′нуў у саба′ку глы′ску? А як цябе′ так? *Верх.*

ГЛЫ′ТАЎКА (глы′таўка) *жан., неадабр.* Крыклівая жанчына. Ну і глы′таўка! У яе ж рот не закрыва′ецца ат сва′ркі. *Алях.*

ГЛЭ′ЧЫК (глэ′чык) *мужч.* Збан. А я ўчо′ра дык глэ′чык малака′ вы′куліла. *Клет.*

ГНАЯ′ЎКІ (гнаё′ўкі) *толькі ў мн.* Павозка, на якой возяць гной. *Дук., Жор., Хар.* Пры пано′х гной вазі′лі на гнаё′ўках. *Цял.*

ГНАЯ′РКА (гная′рка) *жан.* Шырокая дошка, якой закладаюць воз з бакоў, калі возяць гной. Трэ′ба зьняць ле′вую гная′рку, тады′ ляхчэ′й бу′дзе скіда′ць. *Сл.*

ГНУЦЬ (гнуць), -у, -еш; *незак. тр.* Выгінаць дрэва. Абадэ′ гну′лі зь я′сяню. *Цял.*

ГО′ЙДА (го′йда) *агульн.* Гарэза. Ра′сьце такі′ го′йда, такі′ го′йда, а на наву′ку й не глядзі′ць. *Пяр.*

ГО′ЙСНУЦЬ (го′йснуць), -у, -еш; *зак. тр.* Ударыць. А ён як го′йснуў мяне′ па тва′ры, ледзь на нага′х устаё′ў. *Ніз.*

ГО′МЗАЦЬ (го′мзаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Гаварыць невыразна. Яны′ або′я не′шта го′мзалі, я нічо′га ня разабра′ла. *Дук.*

ГО′РАЙ (го′рай) *прысл.* Горш. *Цял., Дук., Хар., Жор.* Дзяце′й трэ′ба пільнава′ць, го′рай як кураня′т. *Сак.*

ГО′РНАСЦЬ (го′рнасць) *жан.* Крыўда. Така′я міне′ го′рнасць ахапіла′, што я чуць ні запла′кала. *Цял.*

ГОРСЦЬ (горсьць) *жан.* Жменя. Два′лі нам го′рсьць прыгарэ′лай пшані′цы. *В. В.*

ГО′РШЧЫК (го′ршчык) *мужч.* Гаршчок. Вось гэ′тага го′ршчыка ў нас на ўсю сям'ю′ хвата′я. *Пяр.*

ГРАБЕ′ЛЬКІ (грабе′лькі) *толькі ў мн., бат.* Першацвет. Грабе′лькі — дро′бная травi′чка, па даро′гах расту′ць. *Р. Л.*

ГРАБЛІ′ШЧА (граблі′шча) *ніяк.* Доўгая палка, на якую надзяюцца граблі. У гра′блях до′ўгая па′лка — граблі′шча заве′цца. *Рат.*

ГРА′ДКА (гра′тка) *жан.* Паліца для пасуды. Не пакіда′й тале′ркі на стале′, паста′ў на гра′тку, а то кот cькі′не. *Заям.*

ГРАДУ′С (граду′с) *мужч.* 1. Радок (бульбы). Мы сё′ньня мно′го нарабі′лі, до′бро завіха′лі — чатырна′ццаць граду′саў вы′бралі бу′льбы. *Сав.* 2. Баразна. Не′як жа ўпра′віліся, адзі′н граду′с бу′льбы застало′ся вы′капаць. *Сл.*

ГРА′КНУЦЬ (гра′кнуць), -ну, -еш; *зак. тр.* Моцна ўдарыць што-небудзь аб зямлю. А ён як гра′кне тале′рку ды як закрычы′ць! *Малм.*

ГРАМАЗДА′ (грамазда′) *жан.* Кілька. Схадзі′ла б у кра′му, чу′ла я, што ўчо′ра прыве′злі грамазду′ ў тама′це. *Хом.*

ГРА′ТАЎКА (гра′таўка) *жан. Гл.* градка. Паўлю′к, бяры′ з гра′таўкі лы′жку ды хутчэ′й садзі′ся сьне′даць. *В. В.*

ГРА′ЦА (гра′ца) *жан.* Матыка. Ма′ці, вунь, гра′цу ўзяла′ і ў агаро′т пайшла′. А ты што? *Верх.*

ГРАЦКО′ЎЕ (грацко′ўя) *зборн.* Салома абмалочанай грэчкі. З грацко′ўя до′брая се′чка, яе каро′вы яду′ць і сьвіня′. *Цял.*

ГРУ′БШЫ (гру′пшы) *прым.* Другі голас. Я сьпява′ю цяне′йшым го′ласам, а Мары′ся Манько′ўска гру′пшым. *Кальч.*

ГРУГА′Л (груга′л) *мужч.* Груган. Глянь, гру′глы нат чарадо′й гусе′й, адгані′! *Крус.*

ГРУГА′Ч (груга′ч) *мужч. Гл.* пругал. Груга′ч чо′рны, як варо′на, то′лькі бо′льшы. У ле′ся на ё′лках жыве′. *Бялар.*

ГРУДА′ТЫ (груда′ты) *прым.* Воблачны. Яко′я за′рас не′ба груда′тая, му′сіць, бу′дзя дошч ско′ра. *В. В.*

ГРУДЗІ′НА (грудзі′на) *жан.* Грудзі. Чаго′ ты хо′дзіш з расхлі′станай грудзі′наю, зашпылі′ся *Цял.*

ГРУМА′ДА (грума′да) *жан.* Мноства. Не′шта ў гэ′тым го′дзі прыляце′ла цэ′лая грума′да пту′шак, як ніко′лі. *Сл.*

ГРУ′ЦА (гру′ца) *жан.* Ячныя крупы. З гру′цы сма′чны суп выхо′дзіць, калі′ даба′віць сухі′х баравіко′ў і мя′са. *Акал.*

ГРЫЖА′Н (грыжа′н) *мужч.* Сцябло морквы з кветкамі. У саўга′сі заўсё′ды такі′я вялі′кія грыжа′ны выраста′юць. *Пр.*

ГРЫЗНІ′К (грызьні′к) *мужч. Гл.* багатка. Як дзе′цям малы′м жываты′ баля′ць, дык грызьні′к па′руць і тады′ піць даю′ць. А грызьні′к — ён з бе′лымі кве′тачкамі. *Бяс.*

ГРЫЗО′ЛАЧКА (грызо′лачка) *жан., з адценнем памянш.* Залоза. А гэ′то што?! Не′кія грызо′лачкі нарасьлі′ ля во′лья з аднаго′ бо′ку і з другого′га, пе′ршы раз ба′чу ў ку′ры. *Сав.*

ГРЫ′ПА (гры′па) *жан.* Грып. Сё′ньня ідзё′м на асфа′льт. Шу′рык То′дараў вязе′ Га′лю. А та′я Га′ля кра′сная-кра′сная, гу′бы папяклі′ся, цемперату′ра мо со′рак, ко′лкі круго′м шыі, ка′жа, балі′ць усё′,— гры′па хо′дзіць у Саванё′х. *Сав.*

ГРЭ′БАЦЬ (грэ′баць), -ю, -еш; *незак. тр.* Драпаць. Ве′чарам не′хта ўвесь час грэ′баў па сьцяне′, а я бая′лася вы′сьці. *Пал.*

ГРЭ′БЕНЬ (грэ′бінь) *мужч.* Прылада для часання лёну. Грэ′бінь з жале′знага зу′б'я. Пе′ршы рас мо′ргаіш на вялі′кі грэ′бінь, а другі′ рас — грэ′бінь з гантаво′га гво′зьдзя. А тагды′ і шчэ′ткай чэ′шыш. *Рат.*

ГРЭ′КАЦЬ (грэ′каць) *незак. тр.* Гагатаць. Вэнь на ву′ліцы гу′сі грэ′каюць, мо то на′шы. *Тур.*

ГУБЭ′СЯ (губэ′ся) *жан., лаянк.* Жанчына з тоўстымі губамі. Супако′йся ты, губэ′ся, чаго′ ты разышла′ся. *Цял.*

ГУ′ГАЛЬ (гу′галь) *мужч.* 1. Смажаная бульба. Усяго′ мно′га ў яе′ на стале′ было′, а гу′галю не было′, шкада′. *Маст.* 2. Куколь. У жы′це цьвіці′ць гу′галь і вало′шка. *Рат.*

ГУЛЬТАЯВА′ТЫ (гультаява′ты) *прым., разм.* Лянівы. Не′кі, ка′жуць, гультаява′ты, нічо′га рабі′ць ні хо′ча. *Цял.*

ГУЛЯ′ЦЬ (гуля′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Сваволіць (аб дзецях). Хо′піць ужо′ гуля′ць, задуры′лі галаву′. Сядзь ды пасядзі′ ці′хенька. *Малм.*

ГУМАЛЯ′СТКА (гумаля′стка) *жан.* Рызінка, якая выкарыстоўваецца ў адзенні. Трэ′ба ўцягну′ць хло′пцу ў штанэ′ гумаля′стку, а-то скіда′юцца. *Цял.*

ГУНАВО′ТА (гунаво′та) *агульн.* Лянівае дзіця. Ко′лькі гро′шай на іх дзяржа′ва выдае′, а яны′ не хо′чуць, гунаво′ты, вучы′цца. *Юр.*

ГУ′НЬКА (гу′нька) *жан.* Посцілка. Трэ′ба засла′ць но′вай гу′нькай ло′жак, го′сьці ш прыду′ць. *Калод.*

ГУ′РА (гу′ра) *жан.* Гурба. Сьне′гу намяло′ вялі′каю гу′ру. *Цял.*

ГУ′СКІ (гу′скі) *толькі ў мн.* Капытнік. Гу′скі зьбіра′юць, ат іх сьві′ня сыча′юць. *В. В.*

ГУСЦІ′ (гусьці′) *зак. тр.* Буйна расці, буяць. Мару′ська, мі′лая, за каро′вамі гэ′тымі сьве′ту ні ба′чу, гудзе′ зе′лё ў гра′дах, ні магу′ спра′віцца з по′лівам. *Сав.*

ГУТАТА′ЛКА (гутата′лка) *жан.* Гушкалка. Глядзі′, кап гутата′лка ні адарва′лася, бо ўпадзе′ мала′я ды разаб′е′цца. *Ляхі.*

ГУФА′ЙКА (гуфа′йка) *жан.* Фуфайка. Вазьмі′ с сабо′ю гуфа′йку на карто′плю, а то акале′яш го′лая. *Ляхі.*

ГЭ′НДЗЯ (гэ′ньдзя) *прысл.* Тут. Куды′ ж гэ′та ён падзе′ўся, гэ′ньдзя то′лькі быў, ба′чыла ш. *Заям.*

## Д

ДАБА′ВІЦЦА (даба′віцца), -ўлю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Дабрацца. Як жа мне на Узду′ даба′віцца з малы′м дзі′цям? *В. В.*

ДАБРО′ (дабро′) *ніяк.* 1. Жыта, пшаніца на корані. Быва′ла, пяку′ць с хле′ба буха′начкі, называ′еццa абе′ньня. Выкра′іваюць кружо′чак зьве′рху, сы′плюць соль, іду′ць да дабра′. *Бял.* 2. Збажына. Дачка′ аннаго′ сына′ аддзялі′ла, другі′ ніжана′ты, стары′ халасьця′к, два′ццаць во′сім гадо′ў. Ро′біць на тра′ктары, мно′га зарабля′е дабра′, гро′шай. *Бялар.*

ДАВЯРО′НА (давяро′на) *прысл.* Сапраўды. Я ш вам кажу′, што гэ′та давяро′на пра′ўда. *В. В.*

ДАДУ′МАЦЦА (даду′мацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Успомніць. А да′ляй я даду′малася, дзе палажы′ла гро′шы. *Цял.*

ДАЙЦІ′ (дайці′), -ду, -дзеш; *зак. тр.* Памерці. Анто′сь дайшо′ў бяз до′гляду. *Дук.*

ДАКО′ПКІ (дако′пкі) *толькі ў мн.* Песні, якія співаюць, як канчаюць капаць бульбу. Калі′сь, як ко′нчуць бу′льбу ў па′на капа′ць, дык па′ну пяю′ць дако′пкі, а за′рас са′мі сабе′ пяё′м. *Кальч.*

ДАКО′СКІ (дако′скі) *толькі ў мн.* Рытуал, звязаны з заканчэннем сенакосу. А на дако′скі мы зло′жымся па рублю′, а ба′баў бо′лій ні пазавё′м, каб яны′ тады′ языка′мі ні браха′лі па сялу′. *Бялар.*

ДАКУЧНО′ (дакучно′) *прысл.* Дакучліва. Як я яе′ (ко′стачку) замяльну′ла, і ні пашла′ яна′ мне, застра′гла ў го′рлі. І так мне дакучно′ было′ ўсю ноч, сь сьве′там прашча′юся. *Сав.*

ДАМО′Ў ІСЦІ′ *перан.* Паміраць. Перажы′ў ця′шкае, дажы′ў да лёхкага, але′ няма′ калі′ жыць, дамо′ў трэ′ба ісьці′. *Цял.*

ДАНІМА′ЦЬ (даніма′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Турбаваць. І нашто′ вам хадзі′ць, дапы′тваццa, што да як, людзе′й даніма′ць. Лепш у я′гады схадзі′це — і вам до′бра, і лю′дзям спако′йна. *Бялар.*

ДАПІНА′ЦЦА (дапіна′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Дабрацца. Да ме′сца дапну′ліся то′лькі ўве′чары. *Уз.*

ДАРАБЛЯ′ЦЬ (дарабля′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Выкінуць якую-небудзь штуку. Дзе′ці цяпе′р што то′лькі ні дарабля′юць, то аго′нь раскладу′ць, то яшчэ′ што вы′кінуць. *Кухц.*

ДАРМО′ (дармо′) *прысл.* Дарэмна. Дармо′ ты так ду′маяш, ён чалаве′к до′бры. *В. В.*

ДАРАГЕ′НЬКІ (дараге′нькі) *прым.* Даражэнькі. Га′нна, мая′ дараге′нькая, прыдзі′ мне карто′плі пакапа′ць. *Смал.*

ДАРАЖЫ′НЯ (даражы′ня) *жан.* Дарагавізна. У ты′я часы′ така′я даражы′ня на ўсё была′, асаблі′ва на соль, сьпі′чкі і папяро′сы. *Уз.*

ДАРМАЎШЧЫ′НА (дармаўшчы′на) *жан.* Дарэмшчына. Прывы′к ты, хло′пец, на дармаўшчы′ну выязджа′ць. *Клет.*

ДАРЭ′МНЯ (дарэ′мня) *прысл.* Дарэмна. Ніхто′ ні хо′ча дарэ′мня рабі′ць. *Цял.*

ДАРЭ′СЦІЦЬ (дарэ′сьціць), -шчу, -ціш; *зак. тр.* Зламаць. Не сяда′й на казьлы′ (лавачка), бо зусі′м дарэ′сьціш іх. *Чаша.*

ДАСА′ДНЫ (даса′дны) *прым.* Непрыемны (аб чалавеку). Вот ён даса′дны, хоць з до′му ідзі′. *Турэц.*

ДА СТА′НУ (да ста′ну) *прысл.* Па фігуры. Я хачу′ пашы′ць пла′цьця да ста′ну. *Цял.*

ДА′ЎНАЕ (да′ўнае) *субст.* Мінулае, даўнейшае. Гэ′та ш трэ′ба ўсё гэ′та да′ўнае ўзнаві′ць. *Рат.*

ДА′ЎНІЦЬ (да′ўніць), -ю, -іш; *незак. тр.* Зацягваць якую-небудзь справу. Паду′маць то′лькі, і чаму′ гэ′та яны′ да′ўняць яго′ лячы′ць! *Мядз.*

ДАФАКТО′ВЫ (дафакто′вы) *прым., перан.* Слабы здароўем. Яму′ ш пе′кло! Дзьве кабе′ці ў хаці, а ён усю′ ба′пску рабо′ту ро′біць: адна′ на адно′м ло′шку ляжы′ць, сто′гня, друга′я — на дру′гом. Ну, то адна′ хоць стара′я, а то й малада′я, а така′я дафакто′вая, з бальні′цы не выла′зіць. *Сав.*

ДА′ХАЎКА (да′хаўка) *жан.* Мехавое паўпаліто. Трэ′ба не′як да′хаўку пастро′іць, сьпе′раду і каля′ кішэ′няў уся′ шэ′рсць вы′цярлася. *Дук.*

ДАЦЬ ХАДАЛА′. Уцячы. Ён мо′жа даць хадала′ ад любо′й рабо′ты, такі′ ўжо ўрадзі′ўся. *В. В.*

ДАЧА′НКА (дача′нка) *жан.* Пляменніца. Е′ду да сваё′й дача′нкі, завязу′ кі′лю цуке′ркаў. *Сл.*

ДАЧУ′ХНА (дачу′хна) *жан.* Дачка. Дзе ш мая′ дачу′хна дзе′лася, ўжо згі′нула з ваччу′. *В. В.*

ДАШЧА′НКА (дашча′нка) *жан.* Мера вагі ў 24 кг. Узвалі′ў я на пле′чы дашча′нку пытлё′ўкі і паплё′ўся дамо′ў. *Тур.*

ДАШЧЫТЛА′ (дашчытла′) *прысл.* Дашчэнту. Ха′та згарэ′ла дашчытла′, ні маглі′ адратава′ць. *Сав.*

ДЗЕВЯСІ′Л (дзевясі′л) *жан.* Дзівасіл. Гэ′та ш дзевясі′лу звары′, вот і про′йдзе ўся твая′ хваро′ба. *Кухц.*

ДЗЕВЯЦІ′НЫ (дзевяці′ны) *толькі ў мн.* Дзевяць дзён з дня смерці. Не′калі спраўля′лі дзевяці′ны, а цяпе′р рэ′тка хто спраўля′я. *Цял.*

ДЗЕ′ЛЕ (дзе′ля) *прыназ. з родным склонам.* Праз. От каб ні ты са мно′ю сядзе′ла, яна′ б мне дала′ здра′стуйця, а дзе′ля цябе′ ні паздаро′ўкалася. *Бялар.*

ДЗЕ′РАВА (дзе′рава) *толькі ў мн.* Лесабудаўнічы матэрыял. Кап даста′ць дзе′рава, то майстры′ б знайшлі′ся ха′ту зрабі′ць. *В. В.*

ДЗЁ′РНУЦЬ (дзё′рнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Наваліцца на ежу. Прышлі′ ўсе, сабра′ліся, а малады′х німа′. Німа′ і німа′, а тады′ за по′ўнач прыяжджа′юць. Усё′ прыбра′но было′, нашыко′вано да калі′-то дзё′рнулі — ве′дамо ж, лю′дзі гало′дныя былі′. *Сав.*

ДЗЛЭ′НГАЦЬ (дзлэ′нгаць), -аю, -еш; *незак. тр.* Гаварыць. А Мікі′та як зьлёх, так і дзлэ′нгаць пераста′ў. *Юр.*

ДЗЮБА′Н (дзюба′н) *мужч., зневаж.* Чалавек з вялікім гарбатым носам. А вунь дзюба′н пайшоў, Ко′лька гэны. *Юр.*

ДЗЯВУ′ЛЯ (дзяву′ля) *жан.* Дарослая дзяўчына. Така′я дзяву′ля, а нічо′га зрабі′ць ня мо′жа. *Слаб.*

ДЗЯ′ЖКА (дзя′шка) *жан.* Пояс. Пашы′ла сабе′ суке′нку з дзя′шкаю, за′раз жа мо′дна гэ′так. *Кап.*

ДЗЯЛЯ′НКА (дзяля′нка) *жан.* Частка чаго-небудзь. Мы ўжэ ўвесь піро′х зье′лі, адно′ твая′ дзяля′нка аста′ла′ся. *Ляхі.*

ДЗЯНІ′НА (дзяні′на) *жан.* Дзень. Ад віраб′ё′ў ні абагна′цца, у гэты′м лі′сьці шчабе′чуць цэ′лую дзяні′ну. *Бялар.*

ДЗЯРА′ (дзяра′) *жан.* Дзераза. До′бра дзяру′ сабра′ць назі′му ды за во′кны закла′дваць. *Ляшч.*

ДЗЯРЖА′ЦЬ (дзяржа′ць), -у, -ыш; *незак. тр.* Арандаваць. Яны′ не′калі дзяржа′лі по′ля ў фаліва′рку. *Цял.*

ДЗЯРКА′Ч (дзярка′ч) *мужч., зневаж.* Задзірлівы чалавек. Ну й дзярка′ч гэ′ты Ко′сьця: жыў ні бу′дзя, калі′ ні зачэ′піць каго′-не′будзь. *Ляхі.*

ДЗЯРМІ′ЗА (дзярмі′за) *жан. Гл.* дзяра. Дзе′ўкі назьбіра′юць у ле′сі дзярмі′зы, вянкі′ тады′ пляту′ць. *Р. Л.*

ДЗЯЎЗНО′ (дзяўзно′) *ніяк., зневаж.* Дарослая дзяўчына, якая прыкідваецца маленькай. Гэ′дакае дзяўзно′, а ні мо′жа суке′нкі памы′ць, ма′ці мы′я. *Ляхі.*

ДЗЯ′ЦЕЛЬНІЦА (дзя′цельніца) *жан.* Дзяцеліна. На′да кро′ху ўзяць дзя′цельніцы, ў даро′зе й жук — мя′са. *Бялар.*

ДЗЯЦІ′НСТВА (дзяці′нства) *зборн.* Дзетвара. Ашчэ′ я по′мню, рэ′чка глыбо′кая была′, нна (дна) ні віда′ць, віры′ кру′цюцца. А цяпе′р зараста′е, мяльчэ′е, дзяці′нства гэ′та паску′дзіць ры′бу ло′вячы. *Бялар.*

ДЖВА′ГНУЦЬ (джва′гнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Стукнуць, ударыць. Пяру′н як джва′гнуў, дак е′такі таўсты′ дуп раскало′ў на′пал. *Дук.*

ДЖУПЛЯВА′ЦЬ (джуплява′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Рваць. Ба′чыш, ле′пшай травы′ німа′, дык і гэ′ту джуплю′ю. *Цял.*

ДЖУ′РГАЦЬ (джу′ргаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Пілаваць тупой пілой. Піла′ ве′льма вы′тупілася, як ста′няш пілава′ць, дак джу′ргаяш, джу′ргаяш, по′куль на адзі′н рас напілу′яш. *Цял.*

ДЖУ′РГАЦЦА (джу′ргацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Чухацца. Джу′ргаяцца, як бы′тта гот у ба′ні ні мы′ўся. *Цял.*

ДЖЫГІ′Р (джыгі′р) *мужч. Гл.* аджгур. Джыгіры′ чарвяка′ аб'е′лі. *В. В.*

ДЗЯРЖА′ЦЬ (дзяржа′ць), -у, -ыш; *незак. тр.* Гадаваць. Я дзяржу′ пры сабе′ парасё′ і каро′ўку нядрэ′нную ма'ю. *Сак.*

ДО′ЙКА (до′йка) *жан.* Вядро, у якое до′яць карову. Купі′ ты до′йку лю′цкую, бо на гэ′ту ўжэ га′тка глядзе′ць. *Ляхі.*

ДО′ЛЯР (до′ляр) *мужч.* Долар. Яко′ё то′ё састая′нё было′, я ўжо ні по′мню (гэ′то шчэ ні за маё′й бы′тнасьцю было′), до′сыць таго′, што мно′го, каза′лі, до′ляраў палучы′ў гэ′ты ўжо брат, А′ньцін ба′цько. *Сав.*

ДО′РЖНІК (до′ржнік) *мужч.* Загарадка. Ле′там сьві′ньні ў нас у до′ржніку трыма′юцца. *Свер.*

ДО′СА (до′са) *прысл.* Нядаўна. До′са хадзі′ла яна′ гэ′та ў царкву′, во дурна′я. *Бар.*

ДО′СІЦЬ (до′сіць) *прысл.* Досыць. До′сіць яшчэ′ спры′тны мой стары′, на′ват і се′на калі′ ко′ся. *Сяд.*

ДОСЬ НА ТЫМ (дось на тым). Як мне вядома. Дось на тым, то яна′ даўно′ ўжо за′муж вы′йшла. *Сяд.*

ДОСЬ ТАГО′ (дось таго′). *Гл.* дось на тым. Дось таго′, ён ў во′йску ніко′лі не служы′ў, брэ′ша то′лькі. *Сяд.*

ДРАБІ′НА (драбі′на) *жан.* Драбіны. Патстаў драбі′ну, на гару′ крапіву′ трэ′ба ўсьцягну′ць. *Бялар.*

ДРАБІ′НЫ (драбі′ны) *толькі ў мн.* Павозка, у якой кузаў зроблены з драбін. На драбі′нах во′зяць усё′. *Дук.*

ДРАБЯШЧА′ЦЬ (драбяшча′ць), -у, -аш; *незак. тр.* Балбатаць. І як ёй то′лькі язы′к не балі′ць цэ′лы дзень драбяшча′ць несупы′нна. *Граб.*

ДРАВУ′ШКА (драву′шка) *жан.* Трохгадовая нецель. Вунь паглядзі′, яка′я прыго′жая ідзе′ на′ша драву′шка. *Мац.*

ДРАВЯ′НЫ (дравя′ны) *прым.* Драўляны. Фле′йтка гэ′та дравя′ная, у дзю′рачках. *Вішн.*

ДРАМА′КА (драма′ка) *агульн.* Соня. Эй, драма′ка, хо′піць спаць, ужо′ со′нца высо′ка. *Тур.*

ДРАНДУ′ШКА (дранду′шка) *жан. Гл.* браднюшка. Дзе′ўкі як завяду′ць дранду′шкі, канца′ няма′ ім. *Тур.*

ДРАПЕ′ЖКІ (драпе′шкі) *пераважна ў мн.* Басаножкі. Купі′ла сабе′ драпе′шкі бе′лыя, е′здзіла за і′мі на антро′бусі ў Вяле′йку. *Асіп.*

ДРА′ЦЦА (дра′цца), -у-ся, -эш-ся; *незак. тр.* Крычаць. Чаго′ дзярэ′сься не сваі′м го′ласам, зда′рылася што? *Калод.*

ДРАЦЬ (драць), -у, -эш; *незак. тр.* Палоць. А гэ′та мая′ дзяўчы′нка цэ′льны дзень по′бач са мной гра′дкі дра′ла. *В. В.*

ДРАЧО′НІКІ (драчо′нікі) *адз.* драчонік. Дранікі. Напякла′ драчо′нікаў сё′ньня. *Рат.*

ДРО′МНЫ (дро′мны) *прым.* Дробны. Ой, не люблю′ дро′мныя гу′зічкі рашпіля′ць. *Асіп.*

ДРУЖЫ′НА (дружы′на) *жан.* Шаферы і шаферкі на вяселлі. Вот і прые′хала дружы′на ж жаніхо′м. *В. В.*

ДРЫГВА′Н (дрыгва′н) *мужч.* Дрыгва. Ішлі′ лю′дзі ў вайну′ па бало′тах, дрыгвано′х, абы ўцячы′ ад не′мца. *Кухц.*

ДРЫЛЯВА′ЦЬ (дрылява′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Швэндацца. Цэ′лы дзень дрылю′юць па ву′ліцы, упы′нку на іх няма′. *В. В.*

ДРЫН (дрын) *мужч.* 1. Кій. От вы′ламлю дрын, дык сьці′хнеце, а не — атрыма′еце: сінякі′ бу′дуць. *Клет.* 2. Кавалак гумавага каната. Усы′палі п табе′ дры′на, то хоць тро′ха ды вучы′ўся п. *Пяр.*

ДРЭ′ЎКІ (дрэ′ўкі) *толькі ў мн.* Дробныя паленцы. Трэ′ба дрэ′вак насе′ч на патпа′лку, а то гэ′тыя пале′ньні не′йкія мо′крыя, не гара′ць. *Пяр.*

ДУБЭ′ЛЬТЫ (дубэ′льты) *толькі ў мн.* Двайныя аконныя рамы. Памы′й дубэ′льты, трэ′ба ўста′віць, а то хо′ладна ўжэ. *Ляхі.*

ДУКРЫ′ЦЬ (дукры′ць), -у, -ыш; *незак. тр.* Вучыць, настаўляць. Цэ′лы час дукры′ў яго′, як зада′чку раша′ць, а ён усё ро′ўна не зра′зу рашы′ў. *Кап.*

ДУ′ЛЬКА (ду′лька) *жан.* Фіга. Што ты мне ду′лькі тут со′ваеш, ты ш дзіця′ маё′, а пабра′таўся. *Ляхі.*

ДУПЛЯНАВА′ТАЯ (дуплянава′тая) *прым.* Пустая. Дуплянава′тая рэ′цька і рады′ска благі′я, іх не яду′ць у нас. *Ляшч.*

ДУПЛЯНА′ТАЯ (дупляна′тая) *прым. Гл.* дуплянаватая. Дупляна′тая рэ′цька вялі′кая расьце′, ды то′лькі дзі′рка ў сярэ′дзіне. *Заб.*

ДУПЛЯ′НАЯ (дупля′ная) *прым. Гл.* дуплянаватая. Кап яна правалі′лася! Уся′ рэ′цька дупля′ная! *Р. Ч.*

ДУРАКАВА′ТЫ (дуракава′ты) *прым.* Дурнаваты. Ёсць тут адзі′н дуракава′ты: усё′ ў Ту′рцыю зьбіра′ецца. *Клет.*

ДУРНІ′ЦЫ (дурні′цы) *толькі ў мн., бат.* Буякі. Схадзі′лі п з ва′мі па дурні′цы, але яшчэ′ залё′ныя, хай сьпе′юць. *В. В.*

ДУРЫ′НЫ (дуры′ны) *толькі ў мн.* Дурніцы. Ужо′ дуры′ны пасьпе′лі. Чы по′йдзіш зьбіра′ць? *К.*

ДУХ (дух) *мужч.* Цёплае паветра ў памяшканні. Зачыні′ дзве′ры, ні выпуска′й дух с ха′ты. *Войр.*

ДУЦЬ (дуць), -ую, -еш; *зак. тр., перан.* Пасылаць. Вось сыно′к Мары′лін усё′ ду′ець і ду′ець ёй па′чкі (пасы′лкі). *Яз.*

ДУША′ (душа′) *жан.* Начынка. Напікла′ піраго′ў з капу′снай душо′й. *Акал.*

ДУШЫ′ЦЦА (душы′цца), -у-ся, -ыш-ся; *незак. тр.* Цяжка працаваць. Сапру′ць усі′х у адну′ брыга′ду ды й душы′ся сабе′. *В. В.*

ДЫБАРА′ (дыбара′) *прысл.* Дыбам. У мяне′ ат стра′ху валасэ′ дыбара′ паста′лі. *Дук.*

ДЫ′БАЦЬ (ды′баць), -у, -еш; *незак. тр.* Ісці павольна. Стары′ чуць ды′бая. *Дук.*

ДЫБКА′ (дыпка′) *прысл.* Дыбам. Конь як стоў дыпка′, дак хло′пяц і пля′снуўся во′бзямлю. *Цял.*

ДЫ′ГЛЯ (ды′гля) *жан., зневаж.* Высокая худая жанчына. Ну й ды′гля ш. Як ідзе′, дак за кіламэ′тр віда′ць. *Ляхі.*

ДЫРДО′М (дырдо′м) *прысл.* Як папала. Абы як. Нялесь ты ў ту′ю камо′ру, дырдо′м усё′ паста′віш, а я по′тым бу′ду ста′віць на ме′сца ні мо′гучы. *Сав.*

ДЭ′НКА (дэ′нка) *жан.* Падстаўка пад патэльню. Патста′ў дэ′нку, скаварада′ ж ве′льмі гара′чая. *Пран.*

ДЭЎЖ (дэўш) *жан.* Даўжыня. Гэ′то ні дзе′ло ле′там палі′ць дубо′вымі драва′мі — яны′ ш цьвярды′я да дэўш така′я, у печ ні ўпе′рці. *Сав.*

## Е, Ё

Е′ГДЗІЦЬ (е′гдзіць), -джу, -дзіш; *незак. тр.* Ездзіць. Учо′ра е′гдзіла да до′ктара, дык не′шта тут вось запісо′ў. *Сяд.*

Е′ХАЛА (е′хала) *жан.* Паездка. Яно′ б до′бра было′ зье′зьдзіць, але′ е′хала баю′ся, ве′дама, нідзе′ ні была′ ніко′лі. *Кам.*

Ё′ГЛІЦЬ (ё′гліць), -ю, -іш; *незак. тр.* Вельмі хацець. *Цял., Кам., Кухц., Сак.* Яна′ ўсё ё′гліла, каб е′хаць у Мінск. *В. В.*

Ё′СЦЯКА (ё′сьцяка) *дзеяслоўная звязка.* Ёсць. А′ля, напі′так у вас ё′сьцяка які′? *Сак.*

## Ж

ЖА′БЕР (жа′бер) *мужч., бат.* Зябер. Жа′бер, як мох бе′лы ў ле′ся, расьціла′ецца, то′лькі мох асо′бна, а жа′бер асо′бна. *Р. Л.*

ЖАЛУБА′ЦЬ (жалуба′ць), -аю, -еш; *незак. тр.* Есці патроху цэлы дзень. Мой сусе′д жалуба′іць уве′сь дзень

хоць што: то гаро′х, то се′мічкі, і на рабо′ці, і ў нядзе′лю. *Раб.*

ЖА′ЛІЦЦА (жа′ліцца), -ю-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Скардзіцца. То′лькі ў ха′ту ўво′йдзе, дык яны′, до′чкі, жа′ліцца на ма′чыху бягу′ць. *Клет.*

ЖАЛЬ (жаль) *жан.* Жаль. Якра′с на галасава′ньне ліс цо′пнуў анну′ ку′рыцу, а назо′ўтра другу′ю. Вот жаль была′, жаль вялі′кая. *Бялар.*

ЖАНІ′БА (жані′ба) *жан.* Жаніцьба. Нія′кай сьпіцыя′льнасці ў дачкі′ німа′. Ко′нчыла ку′рсы метсястры′ і ні пашла′ на рабо′ту — усё′ жані′ба. *Бялар.*

ЖАРАЛО′ (жарало′) *ніяк.* Адтуліна ў пограбе. Ну й жарало′ ж вы′разаў, што ні′як і нічо′га не ўпе′рці. *Пяр.*

ЖАРА′ТАК (жара′так) *мужч.* Жар у печы. Памяша′й жара′так, каб усю′ды грэ′лася. *Мядз.*

ЖАРЛЕ′Т (жарле′т) *мужч.* Жалейка. Німа′ жарле′та, дык го′сьці благі′я, а як хто зайгра′е... *Кальч.*

ЖАРЛО′ЧНЫ (жарло′чны) *прым.* Пражэрлівы. По′мню, Міха′сява сястра′ была′, яна′ по′тым у По′льшчу пае′хала, така′я жарло′чна-жарло′чна (не′льга ўжо каза′ць гэ′так, бо памё′рла), але пражо′рлівая была′. *Сав.*

ЖАЎТА′ЧКА (жаўта′чка) *жан. Дук, Цял.* Жаўтуха. Ты далё′ко жыве′ш, ні чу′ла, што мой стары′ ляжа′ў у бальні′цы. Напа′ла жаўта′чка, аб адзі′н дзень жаўта′чка паяўля′цца ста′ла,— жо′ўты зрабі′ўсё: і во′чы жо′ўтыя, і твар, увесь чы′сто зрабі′ўсё жо′ўты. *Сав.*

ЖАЎТЛЯ′К (жаўтля′к) *мужч.* Жоўты агурок. Нашто′ жаўтляке′ е′сьці? Іх на насе′ньне пакіда′юць. *Дук.*

ЖГУР (жгур) *мужч.* Матуз. Трэ′ба ў лясё′нку жгурэ′ папрышыва′ць. *Цял.*

ЖЛУ′КТА (жлу′кта) *жан.* Бочка, у якой мыюць ніжнюю бялізну. Вазьмі′ ты жлу′кту ды замачы′ на ве′чар бялі′зну, а за′ўтра і памы′ць мо′жна. *Жур.*

ЖМУТ (жмут) *мужч.* Скнара. Ну і жмут твой сусе′т: зімо′й сьне′гу ні вы′прасіш. *Клет.*

ЖУ′ЙКА (жу′йка) *жан.* Жвачка. Не′шта каро′ва жу′йку пераста′ла жава′ць, мо захварэ′ла. *Ляхі.*

ЖУЧАНЯ′ТКА (жучаня′тка) *ніяк.* Вытворнае ад *жук* па тыпу *куранятка, птушанятка.* Гляджу′, дак лісто′чкі ця′тыя, падыспо′дам неко′ жо′ўто яе′чко, ма′быць, разво′дзяцца жучаня′ткі, лічы′нкі. Не′кай ра′ды трэ′бо шука′ць, яны′ ш (жукі′ калара′дскія) усю′ карто′флю з'яду′ць. *Сав.*

ЖЫВУ′ШЧЫ (жыву′шчы) *прым.* Жывучы. Яна′ як кот жыву′шчая. *Пал.*

ЖЫГА′ДЛІК (жыга′длік) *мужч.* Джала. От кап пчо′лы заве′ў, я так люблю′ мёд. Але′ ш папро′буй дагле′дзіць іх, яны′ ш куса′юцца, жыга′длік як уса′дзіць, от жа балі′ць. *Бялар.*

ЖЫ′ЖКА (жы′шка) *жан.* Крапіва з дробным лісцем, вельмі пякучая. Прайшо′ў дзень, а я зноў за жы′шку ды хвашчу′ яго′ па назе′, дык ён ка′жа, што нагу′ стаў чуць. *Гіл.*

ЖЫ′ЛКІ (жы′лкі) *толькі ў мн.* Махорка. Схадзі′ ў магазі′н ды прынясі′ мне жы′лкі, я зьмяша′ю з самаро′сам ды куры′ць бу′ду. *В. В.*

ЖЫ′ЛЛЕ (жы′льле) *зборн.* Жылы. Ат тако′й нату′гі мо′жна і жы′льле парва′ць, лепш не бяры′ся. *Пяр.*

## З

З *прын.* у. Па′ні заўсё′ды хадзі′ла з шля′паю на гала-ве′ і до′ўгім хвасто′м у суке′нцы. *Кухц.*

ЗАБАЧЭ′ННЕ (забачэ′ньне) *ніяк.* Спатканне. Ціка′ва, Зьмітро′к, хадзі′ў ты да яе′ на забачэ′ньне? *Мядз.*

ЗАБО′ЛЕНЫ (забо′ляны) *дзеепрым.* Забалелы. У міне′ забо′ляны нерв. *Кам.*

ЗАБО′РЫ (забо′ры) *толькі ў мн.* Зборкі. Спадні′цы хто шы′я ўскла′ткі, а хто ўзабо′ры. *Бяс.*

ЗАБУРЫ′ЦЦА (забуры′цца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Заваліцца спаць. Учо′ра зь ве′чара як забуры′ўся, дык то′лькі ў абе′т сё′ньня прачну′ўся. *Клет.*

ЗА′ВАЛІНА I (за′валіна) *жан.* Ляжанка каля печы. Дзед дык і сьпіць на за′валіне, но′ччу на за′валіне падаграе′ цяпло′ ад пе′чы, а ле′там на ёй халадо′к, бо печ не па′ляць. *Уз.*

ЗА′ВАЛІНА II (за′валіна) *агульн., перан.* Няўдаліца. Ці ў яе′ ру′кі не такі′я, як у людзе′й, вот ужо′ ўда′ча, за′валіна гэ′тая! *Раб.*

ЗАВАЛО′ЖЫЦЬ (завало′жыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Памазаць тлушчам. Ху′ценька бяры′ пяро′ ды завало′ш са′лам крапа′нікі. *Вяр.*

ЗАВІ′ДЛІВЫ (заві′дліви) *прым.* Зайздросны. Ну і заві′длівае ў цябе′ вока, Ада′маўна: гля′неш і гаво′рыш, нібы′та ў само′й го′ршыя парася′ты, а калі′ разабра′цца — то тваe′ ж яшчэ′ й бо′льшыя. *Клет.*

ЗА′ВІСНА (за′вісна) *прысл.* Зайздросна. Аш за′вісна, так сма′чна сьпіць чалаве′к. То′лькі ў нядо′брым ме′сцы лёх, шумя′ць тут укруга′, до′ўга не пасьпі′ць, пабу′дзяць. *Бялар.*

ЗАВІТА′ЦЦА (завіта′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Завітаць. От у наш магазі′н я ма′ла й хаджу′. Кап свайго′ ні было′, то мо′жа п і загля′двала часьце′й, а то й сква′рка, й малако′, й цыбу′ля, дык я ама′ль туды′ й ні завіта′юся. *Бялар.*

ЗАВО′ЗНІК (заво′зьнік) *мужч.* Чалавек, які прывозіць зерне на памол. Заво′зьнікі якра′з муку′ паве′зьлі, бяжы′, дагані′. *Тур.*

ЗАВУШНІ′ЧКА (завушні′чка) *жан., бат.* Увярэднік. Завушні′чкамі Ага′та ле′чыцца, кі′пнем абліва′е і п'е завушні′чкавы адва′р. *Хож.*

ЗАВЯДЗЕ′ННЕ (завядзе′ньня) *ніяк., толькі ў адз.* Як дзе заведзена. Як дзе яко′я завядзе′ньня, так і гаво′раць, і ў нас жа, як ў ва ўсіх. *Кухц.*

ЗАВЯЗЦІ′ (завясьці′), -у, -еш; *зак. тр.* Завезці. Вас жа мо′жа Пятро′ завясьці′, ён усё ро′ўна туды′ паго′ніць сваю′ машы′ну. *Люц.*

ЗАГАВЕ′ЦЬ (загаве′ць), -ею, -еш; *зак. тр.* Захварэць. Міха′л здаро′вы хло′пец, але і ён загаве′ў. *Юр.*

ЗА′ГАРАДА (за′гарада) *жан.* Агарожа. Не′калі, як за′гарада ў са′дзе, дык ніхто′ ні пале′зя. *В. В.*

ЗАГІБА′ЦЬ (загіба′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Загнуць. На′да бля′ху загіба′ць. *Кам.*

ЗАГІ′БІНА (загі′біна) *жан.* Непаразуменне. Тут не′йкая загі′біна ёсьць, бо не туды′ папа′лі. *Уз.*

ЗАГЛА′ДУХА (загла′духа) *жан.* Дзябёлая жанчына. *Цял., Хар., Жор.* Прузы′на до′брая загла′духа, твар аж блішчы′ць ад жы′ру. *Дук.*

ЗАГНЮСІ′ЦЬ (загнюсі′ць), -шу, -іш; *зак. тр.* Запэцкаць. Але вось як вы загнюсі′лі гэ′тыя чараві′кі, дзе грась знайшлі′? *Касц.*

ЗАГРУБЕ′ЦЬ (загрубе′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Зацяжараць. На другі′м гаду′ заму′жняй жы′зьні загрубе′ла я, працава′ць ста′ла ця′жка. *В. В.*

ЗАГРУКАЦЕ′ЦЬ (загрукаце′ць), -чу, -чаш; *зак. тр.* Упасці. Така′я кла′тка нідарэ′чная. Таго′ й глядзі′, што загрукаці′ш згэ′ттуль. *Бялар.*

ЗАГРЫ′ВАК (загры′вак) *мужч.* Карак. Прашу′ цябе′ — вы′брый мне загры′вак, то′лькі высо′ка не падыма′й. *Уз.*

ЗАГУ′СНУЦЬ (загу′снуць) *зак. тр. Дук., Хар., Жор.* Загусцець. Е′шча, дзе′ці, заці′рку, а то загу′сьня. *Цял.*

ЗАДЛЯКА′ЦЦА (задляка′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Загаварыцца. А лю′бачка, я тут задляка′лася, а там, му′сіць, у пе′чы вы′гарала. *Цял.*

ЗАДО′ЎНЕНА (задо′ўнена) *дзеепрым.* Запушчана. По′тым пайшо′ў да до′ктара з вуша′мы, а ён сказа′ў, што ўсё так задо′ўнена, і нічо′га не памо′жа. *Гіл.*

ЗАДЭ′ЧЫЦЬ (задэ′чыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Згубіць. Але вось дзе я су′мку сваю задэ′чыла — і сам′а не прыду′маю. *Руд.*

ЗАІКА′ЦЦА (заіка′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Праглынаць апошні склад у песні. Вот гэ′ная Во′лька ве′чна заіка′іцца, што з ёй рабі′ць? *Малм.*

ЗАЙДРЫ′СТЫ (зайдры′сты) *прым.* Зайздросны. Такі′ зайдры′сты, уве′сь сьвет забро′ў бы, як поп уся ро′ўна. *Тур.*

ЗАЙРДЗЕ′ЦЦА (зайрдзе′цца) *зак. тр.* Паспець, пачырванець. Не пасьпе′лі ашчэ′ ві′шні зайрдзе′цца, як ужэ паабрыва′лі, гальлё′ злажы′лі. *Пяр.*

ЗАКАЖЭ′ННЕ (закажэ′ньне) *ніяк.* Заражэнне. Яна так у даро′зе і скана′ла, бо пашло′ ў яе закажэ′ньне ад нагі′. *Гіл.*

ЗАКАПА′ЦЬ (закапа′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Памерці. Закапа′ла сё′ньня, адму′чылася, бе′дная, до′ўга му′чылася. *Граб.*

ЗАКАПЫ′ЛІЦЬ (закапы′ліць) (губы), -ю, -іш; *зак. тр., перан.* Надзьмуць. Яна′ така′я ганаро′вая, чуць што, дак закапы′ліць гу′бы і пайшла′. *Цял.*

ЗАКА′Т (зака′т) *мужч.* Зашчытак, забіты не дошкамі, а закладзены бярвеннямі. Зашчы′так до′шкамі забіва′лі, і аке′нца рабілі ў за′шчытку. А, быва′ла, зака′ты былі′, то ніхто′ тых аке′нцаў і ні рабі′ў. *Бялар.*

ЗА′КІДКІ (за′кіткі) *толькі ў мн.* Куточак на вышках, дзе гаспадыня складае непатрэбныя рэчы. Ту′флі во з за′кідак даста′ла, нарамантава′ла і во до′бра на рабо′ту насі′ць. *Бялар.*

ЗАКО′СКІ (зако′скі) *толькі ў мн.* Рытуал, звязаны з пачаткам сенакосу. Зако′скі бага′тыя трэ′ба атпра′віць.

Ты, Макарэ′вічыха, нясі′ мёд, а ты, Га′нька, кумпя′к, а я цыбу′лі го′ркай сноп палажу′. *Бялар.*

ЗА′КРУТКА (за′крутка) *жан.* Залом, завіток у жыце, пшаніцы. Ну й за′крутка, што й бо′язна чапа′ць. Дзе яна′ й расла′ така′я? *Бялар.*

ЗАМАНУ′ЦЦА (заману′цца) *зак. тр.* Захацецца. Заману′лася майму′ чалаве′ку е′хаць па дро′вы ў нядзе′лю, як бу′дных дзён німа′. *В. В.*

ЗАМО′ХТАЦЦА (замо′хтацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Замарыцца, стаміцца. За′рас така′я пара′ наступі′ла, што я на гэ′тым агаро′дзі замо′хталася. Ледзь но′гі свае′ цягаю′. *Сак.*

ЗАКАНДРЫ′ЧЫЦЦА (закандры′чыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Заўпарціцца. Як закандры′чылася, дык мусеў адзі′н на го′сьці е′хаць. Не захаце′ла і ўсё тут. *Клет.*

ЗАКО′ВАНКІ (зако′ванкі) *толькі ў мн.* Хованкі. Не′калі мы, як малы′я былі′, дак цэ′лымі дня′мі ў зако′ванкі гуля′лі. *Ляхі.*

ЗАЛАТНІ′К (залатні′к) *мужч., бат.* Буквіца. Нам усі′м сказа′лі, што залатні′к ў аптэ′ку прыма′юць, бо ён не′йкае ж ляка′рства ад хваро′бы. *Шут.*

ЗАЛЕ′ГЛАСЬЦЬ (зале′гласьць) *жан.* Запазычанасць. За ра′дзіва со′рак капе′як зале′гласьці за про′шлы ме′сяц, і ў гэ′тым нагары′ць. *Сав.*

ЗАЛУВІ′ЦА (залуві′ца) *жан.* Залоўка. До′брая залуві′ца ёй папа′лася: і пamo′жа ўсё, і прыбярэ′. *Ляхі.*

ЗАЛЯЦЕ′ЦЦА (заляце′цца), -чу-ся, -ціш-ся; *зак. тр., перан.* Зайсці. Трэ′ба ш ў стало′ўку заляце′цца, а тады′ яшчэ′ і на по′шту. *Нар.*

ЗАМАЛЬДАВА′ЦЬ (замальдава′ць), -дую, -дуеш; *зак. тр.* Задобрыць. Вось ён і брыгадзі′ра замальдава′ў, каб ляхчэ′йшую рабо′ту даў. *Яз.*

ЗАМАТА′ЦЦА (замата′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Зрабіць растрату, выдаткаваць дзяржаўныя грошы,

маёмасць у карысных мэтах. Пабыла′ ме′сяц у магазі′не,— на тры′ста рублё′ў замата′лася. *Сав.*

ЗА′МЕРАК (за′мірак) *мужч.* Неданошанае яйка. За′мірак у маё′й ку′рыцы быў аднаго′ ра′зу. *Малм.*

ЗАМУЗДА′ЦЬ (замузда′ць), -аю, -еш; *зак. тр.* Закілзаць. На вос пасе′лі, а каня′ замузда′ць дык ніхто′ і не дагада′ўся. *Пяр.*

ЗАМЯЛЬНУ′ЦЬ (замяльну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Падштурхнуць языком. Звары′лі мы ўчо′ра верашча′чку с ка′чкі. Се′лі е′сьці. Як я там е′ла, як я яе замяльну′ла — праглыну′ла ко′стачку качы′ную, ста′ла ў го′рлі і стаі′ць. *Сав.*

ЗАНО′ЗА (зано′за) *жан., зневаж.* Сварлівая жанчына. От зано′за, цэ′лы дзень сва′рыцца то з мужыко′м, то зь дзе′цьмі. *Ляхі.*

ЗАНЭ′НДЗАНЫ (занэ′ндзаны) *дзеепрым.* Худы, недагледжаны чалавек. Да таго′ ж занэ′ндзаны — ледзь но′гі ця′гне. *Алях.*

ЗАПАТЫ′ЛАК (запаты′лак) *мужч.* Клінок, які забіваюць у касу. Ну і касцы′, на′ват запаты′лка няма′ ў вас. *В. В.*

ЗАПАЎПРА′МІЦЦА (запаўпра′міцца), -млю-ся, -ішся; *зак. тр.* Настаяць на сваім. А ён як запаўпра′міўся, дык хоць ты кол яму на галаве′ чашы′, а ён сваё′ пра′ва пра′віць. *Свер.*

ЗА′ПАН (за′пан) *мужч.* Фартух. Вы во за′пан вазьмі′це, падпяражы′цеся, а то мо′жаце вы′мазацца, шко′да ва′шай суке′нкі. *Клет.*

ЗА′ПЕК (за′пяк) *мужч.* Месца за печчу, запечак. Дзе′ці пaляглі′ спаць у за′пяку. *Цял.*

ЗАПІ′ТАНЫ (запі′таны) *прым.* Заморамы, нядужы. Вот у другі′х жа дзе′ці як дзе′ці, упі′таныя, здаро′выя. А ён жа не′кі запі′таны быў, ня еў усё — ні табе′ абара′начка, ні табе′ пячэ′ніну. Хадзі′ць пашо′ў по′зна. *Бялар.*

ЗАПЛІКА′ЦЦА (запліка′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Зашпіляцца. *Дук., Хар., Жор.* Запліка′йся до′бра, дачу′шка, хо′ладна, каб не праду′ла. *Мядз.*

ЗАПЛІКНУ′ЦЦА (заплікну′цца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр. Гл.* запліка′цца. *Мядз., Дук., Хар., Жор.* Заплікні′ся ты, бо хало′нна. *Рат.*

ЗАПЛІКНУ′ЦЬ (заплікну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Зашпіліць. *Дук., Хар., Жор.* Заплікну′ць трэ′ба саро′чку. *Рат.*

ЗАПУЗЫ′РЫЦЬ (запузы′рыць), -у, -ыш; *зак. тр., перан.* Стукнуць, моцна ударыць. Такі′ ён быў, як запузы′рыць Пятру′ па ву′ху, той і звалі′ўся. *В. В.*

ЗАПЫЛЯ′ЦЬ (запыля′ць) *незак. тр.* Апыляць. Чым бо′лей запылі′ць пчала′, тым больш прыпло′ду ў са′дзі бу′дзе. *Вішн.*

ЗАПЫНІ′ЦЬ (запыні′ць), -ю, -іш; *зак. тр.* Паставіць знак забароны. Шы′йку ўжэ запыні′лі, бо лён пасла′лі там. *Ляхі.*

ЗАПЭ′ЎНІЦЬ (запэ′ўніць), -ю, -іш; *зак. тр.* Даручыць каму даглядаць што. Так ні кі′нуць, каго′-не′будзь запэ′ўняць на гаспада′рку, бра′та ці ма′тку. *Сав.*

ЗАРВА′ЦЬ (зарва′ць) *зак. тр.* Запусціцца. Надо′ўга зарва′ла каро′ўка, ня ве′даю — што і рабі′ць. *Пал.*

ЗАСАНІ′ЦЬ (засані′ць), -ю, -іш; *зак. тр.* Закалыхаць дзіця. Ледзь засані′ла дзіця′, нія′к спаць не хо′ча, а я сама′ ўжо не трыма′юся, так спаць хачу′. *Кальч.*

ЗАСВЯНЦІ′ЦЬ (засьвяньці′ць), -чу, -іш; *зак. тр., перан. Гл.* запузырыць. Я табе′ як засьвяньчу′ ро′згай, век по′мніць бу′дзяш. *В. В.*

ЗАСІ′ЛІЦЦА (засі′ліцца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Павесіцца. У іх бяда′ зда′рылася — і′хні ба′цька цяпе′рка засі′ліўся. *Яз.*

ЗА′СМАРГА (за′смарга) *жан.* Завязаны бантам вузел. Завяжы′ спадні′цу на за′смаргу, а то по′сьля ні разьвя′жаш. *Цял.*

ЗАСМЯ′ДЗІЦЬ (засьмя′дзіць), -джу, -дзіш; *незак. тр*. Засмажыць, утушыць. Куды′ ж вы? Я пе′ўня засьмя′дзіла, хоць пае′шце на даро′гу. *Клет.*

ЗАСЛЯПІ′ЦЦА (засьляпі′цца), -плю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Зажмурыцца. Я аж засьляпі′ўся, так блі′снула. *Турэц.*

ЗАСО′ВЕСЦІЦЦА (засо′весьціцца), -чу-ся, ціш-ся; *зак. тр.* Засаромецца. Засо′весьцілася так, што аш пачырване′ла. *Уз.*

ЗА′СТАВАЦЬ (за′стуваць), -ую, -еш; *незак. тр.* Засціць. *Цял., Хар., Жор.* Адыдзі′ся ад вакна′, ня за′стуй, бо я ня ба′чу, як ні′тку ўцягну′ць у іго′лку. *Дук.*

ЗА′СТАЎКІ (за′стаўкі) *толькі ў мн.* Калёсы, на якіх звозяць сена і снапы. Ну і пакла′ў жа ты ў за′стаўкі снапо′ў, глядзі′— пераку′лісься. *Хож.*

ЗА′СТРАМКА (за′страмка) *жан.* Стрэмка. Даста′нь за′страмку с па′льца, а то рваць бу′дзя. *Ляхі.*

ЗАСТРАПЯЛІ′ЦЬ (застрапялі′ць), -ю, -іш; *зак. тр.* Пачаць страляць. Паля′кі зале′зьлі ў цэ′ркаў і застрапялі′лі з ру′жжаў. *Жор.*

ЗАСТРЫГА′ЦЬ (застрыга′ць), -аю, -еш; *незак. тр.* Благаслаўляць маладую. Ско′ра ўжо, перад захо′дам со′нца, бу′дуць на′шу маладу′ю застрыга′ць. *Мац.*

ЗАСЦЕ′НЬВАЦЦА (засьце′ньвацца) *незак. тр.* Зацягвацца хмарамі. Ба′чыця, не′ба засьце′ньваяцца, дождж бу′дзя. *В. В.*

ЗАТАЎКА′НЫ (затаўка′ны) *дзеепрым.* Запраўлены (аб ежы). На вячэ′ру дам затаўка′ную ка′шу, не пасьпе′ла, дзе′ткі, нічо′га. *Малм.*

ЗАТАНУ′ЦЬ (затану′ць), -у, -еш; *зак. тр., перан.* Прапасці. А хай ён затане′ са сваё′ю гарэ′лкай. *В. В.*

ЗАТХНУ′ЦЦА (затхнуцца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Задыхнуцца. А ма′тачкі, накуры′лі — затхну′цца мо′жна. *Клет.*

ЗАЎЗЁ′НТЫ (заўзё′нты) *прым.* Заядлы на работу. Мае бацькі′ былі′ на рабо′ту заўзё′нтыя. *Рат.*

ЗАЎЧАРЫ′Х (заўчары′х) *прысл.* Пазаўчора. Му′сіць, заўчары′х яна′ і сама′ тут была′. *Пал.*

ЗАЎЧЭ′СНЕ (заўчэ′сьня) *прысл.* Пазаўчора. Заўчэ′сьня была′ я ў кра′ме ў Камянцы′. *В. В.*

ЗАФУНДЗІ′ЦЬ (зафундзі′ць), -джу, -дзіш; *зак. тр.* Пазычыць што-небудзь. Зафундзі′ла сусе′дцы кі′лю ма′сла і яшчэ′ засталo′ся. *Пал.*

ЗАХА′КАЦЦА (заха′кацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Задыхацца. Ад бягні′ ад гэ′тай дык аж заха′калася. Ну чаго′ бе′гаіш, ты ж ужэ′ унь яка′я дзяву′ля вялі′кая. *Пяр.*

ЗАХАРЧО′ВАНЫ (захарчо′ваны) *дзеепрым.* Тлусты, сыты. Мой шва′гір у до′брум здароў′і, захарчо′ваны. *Сав.*

ЗАХВО′СТАЦЦА (захво′стацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Заблытацца. Захво′сталіся зусі′м ні′ткі, пры′дзяцца парва′ць. *В. В.*

ЗАХО′ДЗІЦЦА (захо′дзіцца), -джу-ся, дзіш-ся; *незак. тр.* Хваляваццa. Чаму′ ты так захо′дзісься па ўся′кай ерундзе′? *Сак.*

ЗАХУХМО′ЛЕЎШЫ (захухмо′леўшы) *дзеепрым.* Самотны, маркотны. Захухмо′леўшы сяджу′, ну′дна мне, не ве′даю, куды′ пахілі′цца. *Так.*

ЗАЦІ′СНУЦЬ (заці′снуць), -у, -еш; *зак. тр.* Нікому не даць. Мало′тшы дык хі′тры. Зарабі′ў крыху′, дык заці′снуў і будзь гато′ў. *В. В.*

ЗАЦЮ′КАНЫ (зацю′каны) *прым.* Забіты. Ужо′ ж ве′льмі ён не′йкі зацю′каны: нічо′га не ве′дае, нічо′га не зна′е. *Войр.*

ЗАЦЯГНУ′ЦЬ (зацягну′ць), -у, еш; *зак. тр., перан.* Завезці. Дачку′ маю′ зацягну′ў яе муж аш у Сібі′р, там і жыву′ць. *В. В.*

ЗАЧАПІ′ЦЬ (зачапі′ць), -плю, -піш; *зак. тр., перан.* Знайсці, узяць. Быў на сва′дзьбе ў бра′та ды й зачапі′ў там сабе′ гэ′ту сваю′ жо′нку. *В. В.*

ЗАЧА′ХКАЦЬ (зача′хкаць) *зак. тр.* Забіцца. Сэ′рца, здэ′цца, перайшло′ ў пра′вы бок, ды й там зача′хкала. *В. В.*

ЗАЮ′ДЗГАНЫ (заю′дзганы) *дзеепрым.* Запэцканы. Заю′дзганая адзе′жа ад гразі′ аж ло′міцца, а кап пачы′сьціць, дык і рук німа′. *Алях.*

ЗАЯ′ДУХА (зая′духа) *жан., з адценнем асудж.* Злюка, задзіра. Гэ′то ёй усё ма′ло, зая′духа гэ′та. Зь ім памеркава′цца мо′жно, а ёй усё ма′ло. *Сав.*

ЗАЯ′РЫЦЬ (зая′рыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Пагнаць. Не′калі як зая′рыў ката′ сь пе′чы, дык ён аж дзе′шку сь це′стам пяравярну′ў. *В. В.*

ЗБО′РЛІВЫ (збо′рлівы) *прым.* Ашчадны. Сын такі′ літасьці′вы быў, такі′ до′бры, такі′ збо′рлівы. Каб ён жыў, ні адно′й ба′бі ні было′ гэ′дак, як мне, до′бро. *Сав.*

ЗБРУ′Я (збру′я) *толькі ў адз.* Пасаг. Ране′й на′да дачцы′ збру′ю рыхтава′ць, а цяпе′р нашто′, абы хло′пец быў, і так за′муж вы′йдзя. *В. В.*

ЗБРЫ′ЗВАЦЬ (збры′зваць), -аю, -еш; *незак. тр.* Апырскваць. Збры′зваць яго′ ня трэ′ба, бярэ′ш рэ′шата і зго′ртваеш яго (пчаліны рой). *Вішн.*

ЗБУЗАВА′ЦЬ (збузава′ць), -ую, -еш; *зак. тр.* Забрудзіць, прывесці ў дрэнны стан. Збузаво′ў гэ′дакаю ку′ртку на рабо′ту надзяючы′. *Цял.*

ЗВАЛІ′ЦЦА (звалі′цца) *зак. тр., перан.* Пераспець (збожжавыя). Пасьпе′ў і перасьпе′ў ячме′нь, то ён ужо′, зна′чыцца, звалі′ўся. *Кальч.*

ЗВАНО′ЧНІК (звано′чнік) *мужч., бат.* Званочак. Ой, ды гэ′ных сі′ніх звано′чнікаў на луго′х про′цьма цьвіце. *Пр.*

ЗВЕРАВА′ТЫ (зьвярава′ты) *прым.* Злосны. Наш брыгадзі′р зьвярава′ты, як узлуе′цца, дак, здэ′цца, зьеў бы цябе′, кап прыме′ў. *Дук.*

ЗВЕ′РЫЦЦА (зьве′рыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Праверыць. Я ду′маю, дава′й я зьве′руся, ці про′ўда гэ′та. *Цял.*

ЗВІНТАВА′ЦЦА (зьвінтава′цца), -ую-ся, -еш-ся; *зак. тр., перан.* Здурнець. Што ты ўжэ зьвінтава′лася, ці што? Яка′я табе′ хваро′ба зрабі′лася? *Ляхі.*

ЗВІША′ЦЬ (зьвіша′ць) *зак. тр.* Засохнуць. Ужэ′ картапля′нік увесь зьвіша′ў, трэ′ба жаць скарэ′й, бо зусі′м прападзе′. *Ляхі.*

ЗВІ′ШНІК (зьві′шнік) *толькі ў адз.* Пустазелле з невялікімі калючкамі, суквецце блакітнага колеру. Выкарыстоўваецца для лячэння вывіхаў. Анто′сь зьвіхну′ў нагу′, трэ′ба пайсьці′ нарва′ць зьві′шніку, напа′рыць і прыкла′сьці. *Дук.*

ЗВО′НЬКІ (зво′нькі) *прым.* Звонкі, першы голас. Калі′ ўдвух сьпява′ем, то яна′ зво′нькім го′ласам ця′гне, то′нкім. *Кальч.*

ЗВЯРНУ′ЦЬ (зьвярну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Узараць. Зьвярну′ў бало′та ды й бяс то′лку, а гэ′ткая трава′ была′. *В. В.*

ЗВЯСЦІ′ (зьвясці′), -у, -еш; *зак. тр.* Падвесці. Што ш ты мяне′ гэ′дак зьвяла′? Я цябе′ чака′ла, чака′ла, а ты й ні паду′мала прысьці′. *Ляхі.*

ЗГАРО′СЦІЦЬ (згаро′сьціць), -шчу, -іш; *зак. тр.* Хутка зрабіць што-небудзь. Яны′ ўдвух не′як згаро′сьцілі мале′нькую ха′тку і пачалі′ жыць. *Крус.*

ЗГЛУМІ′ЦЬ (зглумі′ць), -ю, -іш; *зак. тр.* Загубіць. Не′мяц як прышо′ў, дык зглумі′ў мно′га лю′ду. *В. В.*

ЗГЛЮ′МАЦЬ (зглю′маць), -аю, -еш; *зак. тр.* Сапсаваць. Чаго′ ты хо′дзіш па дажджы′? Абы то′лькі адзе′жу зглю′маць! *Дзяр.*

ЗГНЯСЦІ′ (згнясці′), -у, -еш; *зак. тр.* 1. Вырабіць што-небудзь з малака. Хаця′ й ма′ла было′ малака′, але ўсё ж згняла′ сыро′к. *Мач.* 2. Стаўчы. Ба′цька загада′ў згнясьці′ бу′льбу, а тады′ залі′ць са′лам, вось я і стара′юся. *Чэрв.*

ЗДАРАВЕ′Ц (здараве′ц) *мужч.* Здаравяк. Во ў мяне′ ўнук ё, здараве′ц такі′, рабі′ць усё ўме′я. *Тур.*

ЗДАРО′ЎКАЦЦА (здаро′ўкацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Вітацца. *Хар., Жор.* Мы зь ім то′лька здаро′ўкаямся, а гавары′ць ня гаво′рым. *Дук.*

ЗДЫ′РДЗІЦЦА (зды′рдзіцца), -джу-ся, -дзіш-ся; *зак. тр.* Памерці. На′ша каро′ва даўно′ ўжэ′ зды′рдзілася. *Дук.*

ЗДЭ′ЦЦА (здэ′цца) *безасаб.; незак. тр.* Здаецца. За што ён так на мяне′ крычы′ць, я ш, здэ′цца, нічо′га яму′ ні зрабі′ла. *Цял.*

ЗЕ′ЛЛЕ (зе′льля) *ніяк., толькі ў адз.* Водарасці. Ране′й рэ′чка чы′стая была′, а цяпе′рака зарасла′ зе′льлям. *В. В.*

З′Е′ДКІ (зье′ткі) *толькі ў мн.* Аб′едкі. Усё ле′пшая гасьця′м паста′вілі, а дз′цям з′е′ткі. *Цял.*

ЗЕЛЯЗНЯ′К (зялязьня′к) *мужч.* Рыдлёўка. Трэ′ба асадзі′ць зялязьня′к, злама′лася дзяржа′ньня. *Дук.*

ЗЕЛЯНУ′ХА (зеляну′ха) *жан.* Каша з недаспелых гарбузоў. Ня еш гэ′ту зеляну′ху — жыво′т забалі′ць. Ужо′ глянь — зярня′ты на′ват не адста′лі ад мя′каці. *Уз.*

ЗЕ′НКІ (зе′нкі) *толькі ў мн., зневаж.* Вочы. Вы′тарашчыла свае′ зе′нкі, га′дзіна така′я. *Кухц.*

ЗЖА′ГЦІ (жжа′хці), -ну, -еш; *зак. тр.* Спаліць. Усю′ вё′ску не′мцы жжа′хлі, ні адно′й ха′ты ні застало′ся, ні аднаго′ ку′сьціка. *В. В.*

ЗЗА′МАЛАДУ (зза′маладу) *прысл.* З маладых гадоў. Я зза′маладу прывы′кла рабі′ць акура′тна. *Дук.*

ЗІМАЗЯЛЁ′НКА (зімазялё′нка) *жан., бат.* Лазаніца. Зімазялё′нак мно′га каля сенако′су, у іх жо′ўтая кра′ска. *Малм.*

ЗІМНАТА′ (зімната′) *жан.* Холад. Вы′яла во′чы гэ′на зімната′, і на дворы′ зі′мна, і ха′ту нія′к не нагрэ′іш. *Так.*

ЗЛАДЫЯ′НІН (зладыя′нін) *мужч.* Злачынец. «Вы, зладыя′не, не тым займа′ецеся»,— выступа′ў аграно′м. *Бялар.*

ЗЛА′ШЧА (зла′шча) *прысл.* Асабліва. Сёньня зла′шча до′брая паго′да, даўно′ тако′й не было′, усё дошч ды дошч, ды ве′цяр. *Бр.*

ЗЛЕ′ЦІЦЬ (зьле′ціць), -чу, -іш; *зак. тр.* Падагрэць. Ой, пачака′йце, я вам хоць ваду зьле′чу, а то ш на маро′зе бу′дзе хо′ладна абмыва′ць зако′латага каба′нчыка. *Клет.*

ЗЛО′МАК (зло′мак) *мужч., зневаж.* Гультай. Ці ж гэ′та дзе′ўка? Гэ′та ж зло′мак не′йкі: лю′дзі з грабля′мі на сенако′с, а яна спаць ды спаць. *Люц.*

ЗЛУЗА′ЦЦА (злуза′цца) *зак. тр.* Аблупіцца. Падло′га ўся злуза′лася, бо, ве′дама, яка′я гэ′та кра′ска. *Дук.*

ЗЛЫНЬ (злынь) *жан.* Гарэлка, самагон. А ці не ад Наста′сінай злы′ні ў цябе′ галава′ трашчы′ць? *Юр.*

ЗЛЮ′ЧЫ (зьлю′чы) *прым.* Вельмі злосны. Дзет твой сё′ньня зьлю′чы. *Клет.*

ЗМАЛЕ′НЦЯ (змале′ньця) *прысл.* Змалку, змаленства, з дзіцячых гадоў. З васьмі′ гот кру′глая сірата′, хто мяне′ шкадава′ў, хто мяне′ шанава′ў? Што я вы′страдала змале′ньця! *Сав.*

ЗМАРО′ЗІЦЬ (змаро′зіць), -жу, -іш; *зак. тр.* Расказаць пра неверагоднае. Едзь сюды′! Ідзі′ што-не′будзь змаро′зь, даўно′ мы цябе′ ні слу′халі. Раскажы′ пра той касаго′р, што гато′ў паляце′ць, ды ты яго дзе′ржыш мо′цна. *Бялар.*

ЗМЕ′ШАНЫ (зьме′шаны) *дзеепрым.* Стаптаны. І бру′чка і ўсе на′шы карто′плі сё′ньня зьме′шаныя ко′ньмі. *В. В.*

ЗМУ′РКІ (зму′ркі) *толькі ў мн.* Радзінны абрад. Частаванне бабкі, кумоў пасля трох дзён, як перахрысцяць дзіця. Не′калі, як перахры′сцяць дзіця′, дак на чацвё′рты дзень рабі′лі зму′ркі, частава′лі ба′пку і кумо′ў, як бы′тта змыва′лі ўсё ке′пская зь дзіця′ці. *Цял.*

ЗМУШЧА′ЦЦА (змушча′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Здзеквацца. Так ужо′ змушча′ліся з гэ′тай бе′днай сіраты′, што ён, бе′дны, ко′жны дзень пла′каў, зваў ма′ці. *Цял.*

ЗМЫ′ЛКІ (змы′лкі) *толькі ў мн.* Вада, ў якой мылі бялізну з мылам. Ня выліва′й вон змы′лкаў, у іх мо′жна намачы′ць ану′чы. *Дук.*

ЗМЭ′НЧЫЦЦА (змэ′нчыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Стаміцца. Мая дачу′шка так змэ′нчылася, што ціпе′р сьпіць, як зьбі′тая. *В. В.*

ЗМЯ′КНУЦЬ (зьмя′кнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Змокнуць. Паку′ль каро′ву вы′гнала, зьмя′кла ўся, аж вада′ цячэ′ с каптура′. *Клет.*

ЗНАЙСЦІ′СЯ (знайсьці′ся), -ду-ся, -дзеш-ся; *зак. тр.* З'явіцца. Пажы′ў ён у той По′льшчы, жані′ўся нек ні ў толк (узяў зь дзіцем), ужо дво′йка сваі′х знайшло′ся, прые′хаў сюды′, паглядзе′ў, што тут до′бро жыве′цца,— ні пае′ду ў По′льшчу. *Сав.*

ЗНА′НЫ (зна′ны) *дзеепрым.* Вядомы, знаёмы. І Тама′рын зяць харо′шы зь ві′ду, і бацьке′ зна′ныя, але ве′льмі ж во′стры, да трох ні гавары′. *Сав.* Гэ′ты хлопчык зна′ны, ён і ле′тась з Мі′шкам гуля′ў. Го′цкага Ві′ціка Маце′яваго сын. *Сав.*

ЗНІ′ЖКА (зьні′шка) *жан.* Ільгота, скідка. Ён пасьве′чанне пенсіяне′ра паказа′ў, зьні′шка была′ пенсіяне′ру. *Сав.*

ЗНІ′МШЧЫК (зьні′мшчык) *мужч.* Фатограф. Учо′ра зьні′мшчык хадзі′ў, браў ка′ртачкі ўвялі′чваць, і я заказа′ла. *Ляхі.*

ЗНУШЧА′ЦЦА (знушча′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Здзеквацца. Бе′дныя е′тыя дзе′ці, так ма′чыха знушча′яцца зь іх. *Дук.*

ЗНЯВІ′ДНЫ (зьнявí′дны) *прым.* Ненавісны. Такі′я ж зьнявi′дныя сьвi′ня, усё ро′ўна як гало′дныя, як мукі′ ні е′лі, ве′рнуць кары′та. *В. В.*

ЗНЯ′ЦЦА на ка′ртачку. Сфатаграфавацца. Трэ′ба пае′хаць у Узду′ і зьня′цца на ка′ртачку для дакуме′нтаў. *Сак.*

ЗО′ЛЗАЧКА (зо′лзачка) *жан., з адценнем памянш. Гл.* грызолачка. Ба′чыш ты. І ў курэ′й зо′лзачкі ест, не′кія зо′лзачкі ля во′лья з аднаго′ бо′ку і з друго′га. *Сав.*

ЗРАСЦІ′ (зрасьці′) *зак. тр.* Прарасці. Трэ′ба прада′ць сьвіны′я карто′шкі, а то ж за′раз зрасту′ць ды й выкіда′й вон. *В. В.*

ЗРЫ′НУЦЦА (зры′нуцца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Зваліцца. Ой, глядзі′ ж, ня зры′ньсе с пе′чы. *Яз.*

ЗУБЦЫ′ (зупцы′) *адз.* зубец. Спарыння. Зупцы′ расту′ць на каласа′х жы′та. Яны′ чо′рныя. Іх зьбіра′юць ба′пкі на ліка′рства. *Рат.*

ЗЫГАНУ′ЦЬ (зыгану′ць) *зак. тр.* Гізаваць. Каро′ва така′я сы′тая была′, я яе за по′вад, а яна′ як зыгану′ла — во′лакам вёрст двана′ццаць цягну′ла міне′. *Бялар.*

ЗЫКУ′Н (зыку′н) *мужч.* Непаседлівае дзіця. Гэ′та такі′ зыкун, няма′ на яго ўпы′нку, ня ўгле′дзіш за ім. *Алях.*

ЗЫР (зыр) *мужч.* Халодны, пранізлівы вецер. Ну і зыр сяго′ньня, што хоць на двор не выхо′дзь. *Алях.*

ЗЫ′РЫЦЬ (зы′рыць), -у-, -ыш; *незак. тр., асудж.* Углядацца пільна, бессаромна. Чаго′ так ты зы′рыш? Ці даўно′ не ба′чыў? *Алях.*

ЗЯВА′ЦЬ (зява′ць), -аю, -еш; *незак. тр.* Крычаць, шумець. Ну чаго′ ты зява′еш, пада′й лепш зэ′даль людзя′м ды сам сяда′й. *Ос.*

ЗЯЗЮ′ЛЬКА (зязю′лька) *жан., бат.* Цяцюшнік. Як ране′й, дык зязю′лькі су′шаць, по′тым зава′рваюць і гэ′тым зава′рам мы′юць галаву′, а цяпе′р усё ш па-но′ваму, нас, стары′х, малады′я ня слу′хаюць. *Шут.*

ЗЯЛЕ′НІВА (зяле′ніва) *ніяк.* Трава, якая ідзе на корм свінням. Я ўжэ зяле′ніва сьвіня′м назьбіра′ла, трэ′ба то′лька скры′шыць. *Цял.*

ЗЯЛЕ′ПУХА (зяле′пуха) *жан.* Зялёныя ягады. Нае′ўся гэ′тае зяле′пухі, дык жывато′м цэ′лы ве′чар кача′ецца. *Ляхі.*

ЗЯРЭ′ДЗІЦЬ (зярэ′дзіць), -джу, -дзіш; *незак. тр.* Вешаць траву, бульбянік на агарожу для сушкі. Бульбя′нік зярэ′дзілі яшчэ′ ў канцы′ жні′ўня. *Зааз.*

## І

ІГРА′Ч (ігра′ч) *мужч.* Музыкант. Быва′ла, ў нас ко′жны хло′пец быў ігра′ч. *Малм.*

ІК (ік) *прыназ.* К. Іду′ць яны′ ік нам. *Цял.*

ІЛЛЯ′К (ільля′к) *мужч.* Лівень. Яшчэ′ ні ра′зу не было′ тако′га ільляку′ за маю′ па′мяць. *Кухц.*

ІЛЬНЯ′ННЕ (ільня′ньне) *ніяк.* Трава, якая застаецца на ільняным полі пасля таго, як выберуць лён. Хто мужыка′ ў до′ме ма′е, то до′бра сь се′нам, а як нет мужыка′, аржо′ньня яко′га, ільня′ньня нако′сіш, ата′вы дзе яко′й уко′сіш, во й весь сенако′с мой. *Бялар.*

ІМПА′Т (імпа′т) *мужч.* Адзежа з-пад хворага. Гэ′ты імпа′т, які заста′ўся пасьля′ хво′рай, трэ′ба спалі′ць уве′сь. *Уз.*

ІМШЫ′ЦЬ (імшы′ць), -у, -ыш; *незак. тр.* Шукаць. Ні імшы′ця мяне′, бо ўсё ро′ўна дарэ′мна, ні зно′йдзяця. *В. В.*

ІНБА′РЧЫК (інба′рчык) *мужч.* Кладоўка. Чаго′ то′лькі не было′ ў інба′рчыку! Нашто′ гэ′та яна′ ўсё хава′е? *Чэрв.*

ІНДЫЧА′ЦІНА (індыча′ціна) *жан.* Індычае мяса. У нас індыча′ціну цяпе′р усе′ яду′ць, разво′дзяць індыко′ў. *Сав.*

ІРЗА′ЦЬ (ірза′ць), -жу, -жэш; *незак. тр., перан.* Смяяцца. Німа′ чаго′ сто′лькі ірза′ць, бяры′ся за кні′шку, пачыта′й хоць ка′пільку. *Пяр.*

ІСТУ′ЖКА (істу′шка) *жан.* Стужка. Кап мы ране′й ме′лі такі′я істу′шкі, як цяпе′р дзяўча′ты ма′юць. *Сак.*

І′ХА (і′ха) *займ.* Іх. І′ха ха′та ад нас прас тры двары′. *В. В.*

## К

КАБЕ′РАЦ (кабе′рац) *мужч.* Дыванок, які кладуць пад ногі маладым, якія ідуць пад вянец. А ў цэ′ркві на кабе′рац стано′вяцца малады′я. *Ніз.*

КАВЭ′НЧЫЦЦА (кавэ′нчыцца), -у-ся, -ыш-ся; *незак. тр.* Пакутаваць (ад фізічнага болю). Як секану′ў сабе′ па назе′, ды вунь ужо другі′ ме′сяц зь ёю кавэ′нчыцца. *Люц.*

КАДЗЕ′ (кадзе′) *прысл.* Толькі што. Ба′цька кадзе′ з Кле′цка пры′ехаў. *Ляхі.*

КАЗА′ (каза′) *жан.* Мерка. Шчас брыгадзі′р казу′ во′зьме, адме′рае, а ты хоць рві, хоць сьпі, хоць касі′, а но′рму вы′канай. *Бялар.*

КАЗАЧО′К (казачо′к) *мужч.* Мера каля двух вазоў. Наскладо′ў там казачо′к дроў, трэ′ба бу′дзе ху′тка пры-ве′сьці. *Тур.*

КАЗЁ′Л (казё′л) *мужч.* Прылада ў 2 метры для вымярэння плошчы. Гэ′ты ўча′стак пяць казло′ў ўпо′перак і пяць удо′ўш, трэ′ба яшчэ′ казё′л накі′нуць. *Кальч.*

КАЗЛЫ′ (казлы′) *толькі ў мн.* Прылада, на якой пілуюць дровы. Схадзі′ пазы′ч казлы′, трэ′ба дроў напілава′ць. *Ляхі.*

КАКО′ШНІК (како′шнік) *мужч., бат.* Бабоўнік. Како′шнік пашука′йце ля ракі′, на бало′це. Се′на с како′шнікам аве′чкі до′бра яду′ць. *Р. Ч.*

КАЛА′ (кала′) *прын.* Каля. Не, мы кала′ той бу′льмы і не хадзі′лі, та′мака Ю′зік круці′ўся. *Плец.*

КАЛАМУ′Т (каламу′т) *мужч.* Вір. У каламу′тах, вядо′ма, бага′та ры′бы. *В. В.*

КАЛАПНЕ′ (калапне′) *жан., толькі ў мн.* Каноплі. Калапне′ вялі′кае. *Варн.*

КАЛАТА′ЙКА (калата′йка) *жан.* Палачка з кругам на канцы, якой б'юць масла. Палама′лася калата′йка, німа′ чым ма′сла на′ват зьбіць. *Ляхі.*

КАЛАТУ′ША (калату′ша) *жан.* Раскалочаная, разезджаная гразь. Ля нас така′я калату′ша, ве′дама, трактарэ′ хо′дзяць. *Цял.*

КАЛАЦІ′ЦЬ (калаці′ць), -чу, -іш; *незак. тр.* 1. Біць масла з адтопленай смятаны. Як сьміта′на атто′пліна, ма′сла кало′цюць. *Рат.* 2. Растрасаць што-небудзь. Кало′цім ізрэ′б'е вірацяно′м. *Рат.*

КАЛАШНІ′К (калашні′к) *мужч.* Невялікі хлеў. Тако′ю мяце′ліцай я не′як папа′ла ў калашні′к, дык ледзь не зьме′рзла. *Марк.*

КАЛБУ′Н (калбу′н) *мужч.* Пячкур. Не, гэ′та ма′ла, мы ло′вім заўсё′ды мно′га калбуно′ў і ўся′кай ры′бы. *Сак.*

КАЛДУНЫ′ (калдунэ′) *толькі ў мн.* Злямчаныя валасы. Рашчашы′ ты свае′ калдунэ′, а то галава′, як той ля′мец. *Цял.*

КАЛЁ′СЫ (калё′сы) *толькі ў мн.* Воз, павозка. Вазьмі′ калё′сы ды прывязі′ дроў, а то няма′ чым у пе′чы палі′ць. *В. В.*

КАЛІ′КА (калі′ка) *жан.* Бручка. А калі′ка вунь дзе, по′бач з барха′ньнем расьце′. *Вер.*

КАЛУБЕ′НЬ (калубе′нь) *жан.* Калыска. Мае′ дзе′ці вот асаблі′ва ў калубе′ні любі′лі спаць. *Калод.*

КАЛЫ′ГЛУЗ (калы′глус) *мужч., неадабр.* Расхлябаны чалавек. Надае′ў гэ′ты мне калы′глус, а ні то′лку ні пара′дку: скажа′ адно′ — зро′біць друго′я. *Уз.*

КАЛЮ′ГА (калю′га) *жан.* Лужына. Паду′маць то′лькі, у калю′гу ўвалі′ўся, бы′ццам сьляпы′. *Мядз.*

КАЛЯДА′ (каляда′) *мужч.* Парсюк, заколаты к калядам. У ту′ю нядзе′лю бу′дзем каляду′ рабі′ць (калоць парсюка). *Хож.*

КАЛЯСНІ′К (калясьні′к) *мужч.* Чалавек, які робіць калёсы. Дзед быў до′бры калясьні′к, а ўнук яшчэ′ ле′пшы. *В. В.*

КАМЫЗЭ′ЛЬКА (камызэ′лька) *жан.* Камізэлька. Мой Ула′дзік сабе′ камызэ′льку пашы′ў з зае′чых шку′рак. *Ляхі.*

КАМЯ′ГА (камя′га) *жан.* Лодка. На бе′разе ляжы′ць дзіра′вая камя′га, а чыя′ яна′? Ніхто′ не прызнае′цца. *Хал.*

КАМЯНО′К (камяно′к) *мужч.* Шкло на лямпу. Пратры′ і пачы′сьці, такі′ ўжо камяно′к забру′джаны. *Астр.*

КА′НТАР (ка′нтар) *мужч.* Раменная вуздэчка, якую надзяюць на шыю карове. Така′я ж га′ткая каро′ва ма′я, што без ка′нтара і ні падо′іш. *В. В.*

КАНУ′РКІ (кану′ркі) *толькі ў мн.* Карункі. Я зьвіза′ла ўжо кану′ркі. *Рат.*

КАНЦЫВАЛО′К (канцывало′к) *мужч.* Кавалак зямлі, які ўпіраецца ў лес. Тут у нас лясо′ў мно′га, то і канцывало′кі ёсьць. *Мік.*

КА′ПКА (ка′пка) *жан.* Кропля. Ху′тка дош по′йдзіць, глянь, ка′пкі ўжэ пачалі′ ка′паць. *Пяр.*

КАПШУ′К (капшу′к) *мужч., перан.* Жывот. А ты во то′жа до′бры капшу′к ма′яш, ні худзе′нькая. *В. В.*

КАПЕРА′ТЧЫК (капяра′ччык) *мужч.* Прадавец. У нас капяра′ччык до′бры, пятна′ццаць год ро′біць, а ні ра′зу ні ўмата′ўся. *Ляхі.*

КАРАБО′К (карабо′к) *мужч.* Шпакоўня. А мой Яку′б нарабі′ў сто′лькі карапко′ў, што аж няма′ дзе ве′шаць. *Мац.*

КАРАНІ′К (карані′к) *мужч.* Вулей. *Люц.* Сат у міне′, а пат ко′жным дзе′равам карані′к с пчо′ламі. *В. В.*

КАРА′ЎКА (кара′ўка) *жан., зневаж.* Неахайная жанчына. От кара′ўка, гэ′та ш трэ′ба гэ′дакаю ніакура′тнаю быць. *Ляхі.*

КА′РКАЦЬ (ка′ркаць), -ю, -еш; *незак. тр., перан.* Гаварыць. Ні ка′ркай, ба′ба, а лепш рабо′ту рабі′. *В. В.*

КАРАХВА′ШКІ (карахва′шкі) *толькі ў мн.* Выязныя сані. Павозка. На карахва′шках е′зьдзілі на кірма′ш. *Рат.*

КАРО′ТШЫ (каро′тшы) *прым.* Карацейшы. У яго′ адна′ нага′ каро′тшая за другу′ю. *В. В.*

КАРТАПЛЯ′НІК (картапля′нік) *мужч.* Бульбяны блін. Ты ш картапля′нікі любі′ш, то от наабіра′й карто′плі — напяку′. *Ляхі.*

КАРТАПЛЕ′ННЕ (картапле′ньня) *ніяк.* Картафлянік. Трэ′ба картапле′ньня жжына′ць, а то пажаўце′я. *Ляхі.*

КАРШЭ′ЛЬ (каршэ′ль) *жан.* Шыя. Учо′ра на тан′цах намы′лілі каршэ′ль гэ′таму чужо′му дзіцюку′. *Раб.*

КА′РЫ (ка′ры) *толькі ў мн.* Параконная павозка. Парако′нная фу′ра ка′жуць, а хто ка′жа ка′ры, адно′ і то′я ш. *Дук.*

КАСА′ТКА (каса′тка) *жан.* Чалавек добрай душы. Таку′ю каса′тку, як мой Пе′ця, рэ′дка дзе зно′йдзеш: уста′не ра′на, ва′ды′ прынясе′, усё прыбярэ′. *Уз.*

КА′СЛАЎКА (ка′слаўка) *жан.* Пасма. Валасэ′ гэ′дак ле′зьлі, але пра′ма ка′слаўкамі. І цяпе′р гэ′ткія даўгава′ценькія, але ма′ло, нічо′га німа′ на галаве′. *Сав.*

КАСМЫЛІ′ (касмылі′) *толькі ў мн., неадабр.* Нерасчасаныя валасы. Рашчашы′ свае′ касмылі′, хо′дзіш, як лаху′дра яка′я. *Слаб.*

КАСТРА′ (кастра′) *жан.* Кастрыца. Як трэ′піш, кастру′ выбіва′іш. *Рат.*

КАСЦЮКІ′ (касьцюкі′) *адз.* касцюк. Асцюкі. Была′ сё′ньня на рабо′ці, се′ялі муку′, а цяпе′р касьцюкі′ куса′юцца. *Тур.*

КАСЦЮЛЬКІ′ (касьцюлькі′) *адз.* касцюлька. Асцюк. Ме′люць аве′с с касьцюлька′мі, ме′люць і рашчыня′юць, кап укі′с, а по′тым ва′рацъ кісель. *Рат.*

КА′ТАР (ка′тар) *мужч.* Сып на губах. Вунь як мало′га ка′тар асы′паў! *Пал.*

КАЎТУНЫ′ (каўтунэ′) *толькі ў мн.* *Гл.* калдуны. Така′я ўжо ніакура′тная дзе′ўка, ве′чна каўтунэ′ е′тыя цяляпа′юцца, хаця кап зачаса′лася калі′. *Дук.*

КАЧА′ЛКІ (кача′лкі) *адз.* качалка. Драўляная прылада качаць бялізну. Кача′лкамі кача′юць бяльлё′, анна′ кача′лка кру′глая, а друга′я з зуба′мі. *Рат.*

КА′ЧАНКА (ка′чанка) *жан.* Жоўтая парцяная хустка ў кветкі. Па′тчарка прыве′зла ёй харо′шаю ху′стку, як ка′чанка, у кве′ткі. *Цял.*

КАЧАРЖЫ′ШЧА (качаржы′шча) *ніяк.* Доўгая палка, на якую надзяецца качарга. Качарга′ надзяе′цца на качаржы′шча. *Рат.*

КАЧА′ЦЬ (кача′ць), -ю, -еш; *незак. тр., перан.* Гадаваць. У майго′ дзе′віра дак во′сьмера, яны′ анно′ анната′ кача′лі. *Рат.*

КАЧЭ′БРЫК (качэ′брык) *мужч.* Павозка для святочных абрадаў. Для тако′й спра′вы брыгадзі′р не пашкадава′ў і качэ′брыка. *Маст.*

КА′ША (ка′ша) *жан.* Радзінны абрад, калі частуюць бабку, што бабіла дзіця. Ба′бцы трэ′ба до′браю ка′шу зрабі′ць, пазва′ць кумо′ў і сваяко′ў. *Цял.*

КАШАВІ′К (кашаві′к) *мужч.* Чалавек, які займаецца пляценнем кашоў. У нас усе′ пляту′ць для сябе′, але′ ён — ле′пшы за ўсіх кашаві′к. *Малм.*

КАШЛА′Ч (кашла′ч) *мужч., зневаж.* Чалавек, які ходзіць, цягнучы ногі. Ну й кашла′ч! Ніко′лі ні про′йдзя, кап хо′днікаў ні пасьцяга′ць. *Ляхі.*

КАШУ′ЛКА (кашу′лка) *жан.* Кашолка. У кашу′лцы дзе′да дык аж два′ццаць баравіко′ў. А ў цябе′ што? *Чэрв.*

КАШЭ′ЛЬ (кашэ′ль) *мужч.* Кошык. Ва′рка нарва′ла кашэ′ль травы′. *Дук.*

КАШЭ′НЬ (кашэ′нь) *мужч.* Кішэнь. Прышы′й ты свой кашэ′нь да паліто′, като′ры дзень так хо′дзіш. *М.*

КВА′РТА (ква′рта) *жан.* Конаўка. Ваду′ п'юць с ква′рты. *Рат.*

КВАСЬ (квась) *жан.* Кіслае (малако, капуста, агуркі і інш.). Мой муж дык на′тта ква′сі нія′кай не лю′біць, а я не магу′, дык пайду′ да ла′ўкі, куплю′ сабе′ яко′й ква′сі. *Кальч.*

КЕ′ПНУЦЬ (ке′пнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Памерці, зайсціся.— Чаго′ ты пла′чаш? Ото′ табе′ ўжо жа′лю! Ты пла′чаш па дзя′цьку, што пражы′ў 90 год?! А ты хаце′ла, каб 180 жыў?— Яна′ пла′ча па сваё′м го′ры, ду′мая, ба′цьку ж за се′мдзісят, а што, як ке′пня? *Сав.*

КІ′ДАЦЬ (кі′даць), -ю, -еш; *незак. тр.* Пакідаць на гадоўлю. Дык яшчэ′, мо′жа, пры′дзецца на зіму′ і цялу′шку кі′даць, бо каро′ва ні пабе′гала. *Акал.*

КІ′ДАЦЦА (кі′даცца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* 1. Хадзіць улукаткі. Стара′я ўжо, ні магу′ ро′ўна ісьці′, кі′даюся ўбакі′. *В. В.* 2. Сяк-так перабівацца, жыць як прыдзецца. Кі′даюся як гаро′х пры даро′зі. *В. В.*

КІЖЛА′ТЫ (кіжла′ты) *прым.* Непаваротлівы, нязграбны. Кіжла′тая я ўжо, дачу′шка, куды′ мне, то′лькі яшчэ′ з ё′мкай каля′ пе′чы. *Бр.*

КІЙ (кій) *мужч.* Пачатак кукурузы. Атпра′вілі сваі′х дзяце′й кіі′ зьбіра′ць, яны′ ж лю′бяць іх е′сьці, ка′жуць сма′чныя. *Нем.*

КІЛІ′РАВАЦЬ (кілі′раваць), -ру-ю, -ру-еш; *незак. тр.* Кіраваць. Ся′ду на матацы′кал ды бу′ду за руль кілі′раваць. *В. В.*

КІ′РПА (кі′рпа) *жан., лаянк.* Кірпаты нос. В′ытры сваю′ кі′рпу смарка′тую, а то так дам, што бу′дзяш ве′даць. *В. В.*

КІ′СЛЯ (кі′сьля) *жан. Гл.* квась. Прышла′ да цябе′ кі′сьлі мо яко′й пазы′чыць, так захаце′лася, аж не магу′ ўтрыма′цца, а до′ма нічо′га не застало′ся, дзе′ці пачы′сьцілі. *Кальч.*

КІСЛЯ′К (кісьля′к) *мужч.* Кіслае малако. Дава′й-ка паядзі′м сё′ньня кісьляку′ з бу′льбай, што астала′ся, і не бу′дзем печ распа′льваць. *Калод.*

КІ′СЦІ (кі′сьці), -у, -еш; *незак. тр.* Кіснуць. Так і зрабі′ла, то пра′ўда — малако′ не ста′ла кі′сьці. *Ніз.*

КЛЕ′НІЧЫ (кле′нічы) *толькі ў мн.* Праклёны. Ні памага′юць твае′ кле′нічы, ты яго кляне′ш, а ён таўсьце′я. *Цял.*

КЛУ′МПЫ (клу′мпы) *толькі ў мн.* Дзеравяшкі. Я ле′пій любі′ў клу′мпы, сам іх рабі′ў: с старо′й халя′вы верх, дзераўля′ная падо′шва. І нага′ суха′я, і до′бра. *Бялар.*

КЛУ′СТАСЦЬ (клу′стасць) *жан.* Тлушч, сала. Сяда′йце ра′зам з дзе′цьмі бліны′ з клу′стасьцю е′сьці. *Нар.*

КЛЮ′БА (клю′ба) *жан.* Прылада для вымярэння таўшчыні цёсу. Не ве′даю, як яшчэ′ назва′ць гэ′то, а мы завё′м клю′ба, вымяра′ем клю′бай. *Мік.*

КЛЮЧ (ключ) *мужч.* Крыніца. А ў нас ключ каля′ са′май ха′ты. Схадзі′ прынясі′ вядро′ вады′, бо я ўжо не магу′. *Хал.*

КЛЯВУ′ЗГАЦЬ (кляву′згаць), -ю, -еш; *незак. тр., асудж.* Гаварыць абы што. Ве′чна ты кляву′згаеш ні то′я, што трэ′ба. *В. В.*

КЛЯ′ТБА (кля′тба) *жан.* Праклён. Ды змо′ўкні, нічо′га твая′ кля′тба ні дасьць. *Клет.*

КНО′ПКА (кно′пка) *жан.* Запінка. Што шчо′ўкаліся, дак кно′пкі называ′лі. *Рат.*

КНО′РАЗ (кно′рас) *мужч.* Кныр. Кно′раза пайдзі′ вы′гані, а то ўсе гра′ды зло′жыць. *Цял.*

КО′БАРАМ (ко′барам) *прысл.* Кулём. Іва′н раве′сьнік Фэ′люся, а во звалі′ўся і забі′ўся. Ко′барам паляце′ў і ду′ху не ўказа′ў. *Сав.*

КО′БЫТА (ко′быта) *злуч.* Быццам бы. Я заву′, а ён ко′быта і ня чу′е, ідзе′ сабе′. *Кар.*

КО′ЗАЧКА (ко′зачка) *жан.* Невялікая лавачка пад ногі. Бабу′ля на′ша но′гі на ко′зачку паста′віць, акуля′ры надзе′ніць і вя′жа. *Воз.*

КО′ЗЛЫТ (ко′злыт) *мужч.* Козыт. Ні чапа′й мяне′, я ве′льмі ко′злыту баю′ся, магу′ абамле′ць, што рабі′ць тады′ бу′дзеш? *Ляхі.*

КО′ЛЬЧЫК (ко′льчык) *мужч.* Завушніца. Ве′льмі ж люблю′ насі′ць мале′нькія ко′льчыкі, купля′ю, дзе то′лькі ўба′чу. *Пуг.*

КО′МШЫЦЬ (ко′мшыць), -у, -ыш; *незак. тр.* 1. Мясіць. Мі′льту ко′мшуць і яду′ць. *Рат.* 2. Мяць. Не ко′мшы пла′цьця. *Рат.*

КО′НЧА (ко′нча) *прысл.* Абавязкова. Ці ко′нча гэ′та табе′ ісьці′? *Цял.*

КО′ПТАР (ко′птар) *мужч.* Верх (насыпаць з верхам). Насы′пала я′гады ў шкля′нку, дык з ко′птарам. *Пал.*

КО′РМНІК (ко′рмнік) *мужч.* Кормны парсюк. Не′шта ко′рмнік ня ўзёў е′сьці, хаця′ кап ня захварэ′ў. *Дук.*

КОТ (кот) *мужч.* Вечарынка. Ве′чарам бу′дзям гуля′ць ката′. *В. В.*

КО′ТКА (ко′тка) *мужч.* Кот. Пе′цька, атпусьці′ ко′тку, бо ён табе′ ўсе ру′кі паабдзіра′е. *Юр.*

КО′РБА (ко′рба) *жан.* Прылада, пры дапамозе якой дастаюць ваду са студні (круцёлка). Ко′рба на′тта ўжо скрыпі′ць, хоць бы падма′заў тро′ха. *Алях.*

КО′СЫ (ко′сы) *толькі ў мн.* Валасы. Пайду′ мы′цца, да на′да субіра′цца. Памы′ць ру′кі, но′гі, ко′сы зачаса′ць, заплясьці′ іх. *Бялар.*

КО′ЎТАЦЬ (ко′ўтаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Глытаць. Жуй до′бра, а то ця′шка бу′дзя ко′ўтаць. *Ляхі.*

КОЎШ (коўш) *мужч.* Драўляная пасудзіна піць ваду. Вазьмі′ коўш, прынясі′ чалаве′ку вады′, хай пап′е′ зь вялі′кай даро′гі. *В. В.*

КО′ШЫК (ко′шык) *мужч.* Гандола аэрастата. По′мню, у пятна′ццатым гаду′ такі′я шары′ бальшы′я пуска′лі, во′здухам наду′тыя. І на такі′х вяро′вачках ко′шык патчэ′плены, у гэ′тым ко′шыку чалаве′к сядзі′ць. От іньцярэ′сна было′. *Бялар.*

КРАПА′НІК (крапа′нік) *мужч.* Бульбяны піражок, начынены капустай. Ма′ці гэ′тыя крапа′нікі апэ′нтам ро′біць, зато′е апэ′нтам яны′ й зьніка′юць. *Вер.*

КРАПІ′ВА (крапі′ва) *жан.* Крапіва. Со′ня, ці ня тва′е гэ′та пыляня′та ў крапі′ве пішча′ць? *Дук.*

КРАПІ′ЦЬ (крапі′ць), -плю, -іш; *незак. тр.* Крапіцца, адчуваць сябе нядрэнна. Як ва′ша ма′ма, яшчэ крапі′ць? *Рат.*

КРАПЧА′К (крапча′к) *мужч.* Моцны спіртны напітак.— Вы з магазі′на ідзяце′? Ці ест там маско′ўска?— Нашто′ табе′ гэ′ты крапча′к, вінца′ яко′га купі′, так і абы′йдзесься. *Сав.*

КРАСАВІЧО′К (красавічо′к) *мужч.* Ранні баравік, што з'яўляецца ў пару красавання жыта. Як год мо′кры, у гэ′ту по′ру красавічкі′ быва′юць, баравічке′ ра′ньнія. *Сав.*

КРА′СКА (кра′ска) *жан.* Кветка. Ху′тка на′шы кра′скі распу′сьцяцца. *Дук.*

КРАСУ′ЛЯ (красу′ля) *жан.* Прыгажуня. Мая′ Хадо′рка така′я красу′ля, над усі′мі дзяўча′тамі ў раё′ня. *Дук.*

КРАШЭ′ЦЬ (крашэ′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Прыгажэць. У мае′ гады′, дзе′ткі, крашэ′ць ужо′ ні пара′. *Клет.*

КРО′ІЦЬ (кро′іць), -ю, -іш; *незак. тр.* Адразаць хлеб, пірог. Бу′дзя табе′ кро′іць гэ′ты хлеп, хо′піць ужо′. *Дук.*

КРОК (крок) *мужч.* Адкормлены кабан. Сё′лета до′бры крок у нас быў, сто′лькі ўсяго′ нарабі′лі. *Родз.*

КРУМКА′Ч (крумка′ч) *мужч.* Жаба. Вечара′мі крумкачы′ цэ′лыя канцэ′рты ствара′юць. *Чэрв.*

КРУНА′ (круна′) *жан.* Труна. Стары′ ўжо чалаве′к, не′кіх се′місят гот, хо′дзіць на ўко′лы, а не′кая яму′ жані′ба трэ′ба. Яму′ ўжо круна′ трэ′ба, а не жані′ба. *Бялар.*

КРУПЕ′РНЯ (крупе′рня) *жан.* Аддзел у млыне, дзе выpабляюць крупы. *Дук., Цял., Жор.* У на′шай ме′льніцы на′ват і крупе′рня есьць, мо′жна і круп нарабі′ць. *Тур.*

КРУЦЕ′ЙШАЯ (круце′йшая) *прым.* Больш спрытная, маладая. Я то′жа насі′ла прадава′ць зя′бру, калі′ была′ круце′йшая, а цяпе′р німа′ сі′лы. *Малм.*

КРУЦЁ′ЛКА (круцё′лка) *жан., зневаж.* Лёгкадумная. Ну і дала′ся ў зна′кі гэ′тая круцё′лка. *Клет.*

КРУ′ЦІКІ (кру′цікі) *толькі ў мн. Гл.* бугаі. Ат кру′цікаў галава′ кру′ціцца, як мно′га зьясі′. *Пр.*

КРУЧ (круч) *жан.* Вір. Там така́я круч — ніво́дзін плаве́ц не мо́жа ўтрыма́цца, зацяѓвае на дно́. *Уз.*

КРУ́ЧКА (кру́чка) *жан.* Бручка. Пад ве́чар уся́ на́ша сям'я́ цяга́ла кру́чку ў склеп. *Хож.*

КРУЧО́К (кручо́к) *мужч.* Мера вадкасці ў 250 гр. Вазьму́ць па кручку́ ўдваі́х і вы́п'юць. Аднаму́ і кручка́ хапа́е, а друго́му — два на́да. *Кальч.*

КРЫВО́Е СА́ЛА (крыво́я са́ла). Каўбаса. Заку́сувайця крывы́м са́лам. *Зеньк.*

КРЫШАНЫ́ (крышанэ́) *мужч.* Бульбяны суп. На абе́т паста́віла крышанэ́. *Дук.*

КРЭ́МІЦЦА (крэ́міцца), -млю-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Мазацца крэмам. Трэ́ба крэ́міцца, дак бу́дзяш до́ўга маладо́ю. *Дук.*

КРЭ́СКА (крэ́ска) *жан.* Метка. Крэ́скі зрабі́ на суке́нцы, а по́тым падру́бліваць бу́дзям. *Уз.*

КРЭЎНЯ́ЧКА (крэўня́чка) *жан.* Сваячка. А хто яна́ мне? Ці яна́ мне сусе́тка харо́шая бы́ўшая? Ці крэўня́чка, радство́ яко́е? Ба́ба, чужая ба́ба. *Сав.*

КУБЁ́ЛАК (кубё́лак) *мужч.* Кубелец. Сыто́е са́ла ў кубё́лак ле́пей класьць, а ў я́шчыку пло́ха ду́жа, со́лана за язы́к ро́біцца. *Бялар.*

КУБЛО́ (кубло́) *ніяк.* Гняздо птушкі. Кубло́ ў нас над во́кнамі пту́шкі зьвілі́. *Уз.*

КУДРА́Ш (кудра́ш) *мужч.* Гатунак лё́ну, які сеюць як масленічную культуру. Пад Га́раўцам кудраша́ пляц такі́. *Вар.*

КУДЫ́НАКА (куды́нака) *прысл.* Куды. Куды́нака цябе́ чорт панё́с, не ба́чыш, кура́м пасы́пала! Раскіда́ў усё! *Хож.*

КУДЗЕ́РКА (кудзе́рка) *жан.* Участак лесу. Хадзі́ў на ахо́ту ў кудзе́рку, за́йца забі́ў. *В. В.*

КУЗЯ́ЎКА (кузя́ўка) *жан.* Казюлька. Я прышла́ дадо́му, а не́шта над ву́хам шапо́ча й шапо́ча. Пама́-

цала, нічо′га німа′. Атвяза′ла ху′стку, а там така′я во кузя′ўка вялі′кая з вуса′мі. *Бялар.*

КУ′КЛА (ку′кла) *жан.* Знак забароны. Паста′ў ку′клы, кап каро′ў туды′ ні пуска′лі. *Ляхі.*

КУКАВА′ЦЬ (кукава′ць), -ю, -еш; *незак. тр., перан.* Плакаць. Як памё′р мужы′к, дак кукава′ла яна′, бе′дная. *Цял.*

КУКАВЕ′РКІ (кукаве′ркі) *толькі ў мн.* Галушкі. Ідзі′ паспыта′й, ці гато′вы кукаве′ркі, не′шта ж е′сьці хо′чацца, а яна′ ўсё кру′ціцца. *Ос.*

КУКУ′ЦЬ (куку′ць) *мужч.* Гліняная свісцёлка. Ён на куку′цю ігра′е, а дзе′ці малы′я гаво′раць, што сьві′шча, забаўля′ецца. *Кальч.*

КУЛА′К (кула′к) *мужч.* Жменя насення ці чаго-небудзь іншага сыпкага. Гэ′тых арэ′хаў ні мо′жна е′сьці мно′га: тры кулакі′ ні больш. *Рат.*

КУЛЁ′М (кулё′м) *прысл.* Шпарка. Як пачу′ла мая′ каро′ва хлеп, дык кулё′м ляці′ць да мяне′. *В. В.*

КУ′ЛЬБАЧКА (ку′льбачка) *жан.* Дуга. Не, гэ′ную вы′кіну, мне но′вую ку′льбачку зрабі′лі, на во′зе вунь ляжы′ць. *Вер.*

КУЛЯШЫ′ЦЦА (куляшы′цца) *незак. тр.* Рабіцца падобным на кулеш, клейкім. Як ні патсу′шыш заці′рку, дак яна куляшы′цца. *Рат.*

КУЛІ′ДЛА (кулі′дла) *жан.* Рашчына. Кулі′длу сё′ньня замясі′ць трэ′ба, а за′ўтра пады′дзе — хлеп пячы′ бу′дзем. *Уз.*

КУМУ′СЯ (куму′ся) *жан.* Кума. Учо′ра ў нас куму′ся была′, гуля′ць прыхо′дзіла. *В. В.*

КУНЕ′ШНЕ (куне′шне) *прысл.* Абавязкова. Гэ′та табе′ рабі′ць не куне′шне, сама′ хай зро′біць. *Пал.*

КУНШТАВА′ЦЬ (кунштава′ць), -ую, -еш; *незак. тр.* Грызці, данімаць. Ба′ба на′шага дзе′да ўсё куништу′е і куншту′е, як то′лькі ён з ё′ю жыве′? *Свер.*

КУПЛЁ′НЫ (куплё′ны) *дзеепрым.* Матэрыял фабрычнай вытворчасці. Палатно′ то′нкае, як куплё′нае. *Рат.*

КУРА′ВЫ (кура′вы) *прым.* Закураны. У ха′це німа′ нічо′га, то′лькі сьце′ны гэ′тыя кура′выя. *В. В.*

КУРАНЯ′ТУХА (кураня′туха) *жан.* Квактуха. Б′е′цца кураня′туха с кура′мі, німа′ дзе яе′ садзі′ць. *Сав.*

КУРАСА′ТКІ (кураса′ткі) *толькі ў мн.* Драбінкі на возе. Паку′ль не зраблю′ но′выя кураса′ткі, ніку′ды не пае′дзем. *Гальш.*

КУРДУ′ПЕЛЬ (курду′пель) *мужч., зневаж.* Малога росту. І ён ішчэ′ не′дзя пне′цца, курду′пель гэ′ты. *Дук.*

КУ′РНІК (ку′рнік) *мужч.* Хлевушок курам. Ране′й пат пе′чку гна′лі, а цяпе′р ку′рнік ёсьць, апце′пліш кастры′цай, глі′най абма′жыш. *Кальч.*

КУРО′САДНЕ (куро′саньне) *ніяк.* Седала. Мае′ куры′цы такі′я цяшкі′я былі′, я на куро′саньне сама′ іх садзі′ла. *Бялар.*

КУРСНА′ТКА (курсна′тка) *жан.* Галавешка. Хоць бы ўжо курсна′тку затушы′ла, не даду′малася, а ў ха′це ды′му по′ўна. *Пал.*

КУ′РТА (ку′рта) *жан., зневаж.* Жанчына невысокага росту. Чаго′ ты крычы′ш, ку′рта ты пранцава′тая? Чаго′ хо′чаш? *Цял.*

КУРТА′Ч (курта′ч) *мужч.* Карантыш (тут: пра парася). У про′шлум го′ду мае парася′та былі′ высо′кенькія, до′ўжанькія, але е′лі хай бох кры′я. А ў гэ′тум го′ду куртачэ′ не′кія, але чарава′ценькія, у япручка′ чэ′раўца па зямлі′ ця′гнецца, яду′ць до′бро, адно′ давай. *Сав.*

КУРЫ′ЦА (куры′ца) *жан.* Курыца. Ой, куры′ца зале′зла ў гра′ды, бяжы′ хучэ′й ды вы′гані. *М.*

КУСА′ШЧЫ (куса′шчы) *прым.* Куслівы. Дзе′ці, ня чапа′йце е′тага саба′кі, ён куса′шчы, шчэ пакуса′я. Ідзі′це сю′ды. *Дук.*

КУСО′К (кусо′к) *мужч.* Шклянка (чаю, вады, малака). Вы′пі, сы′нку, хоць кусо′к ча′ю, гэ′дак усё ж ле′пі, чым нічо′га. *Сяд.*

КУ′ХАН (ку′хан) *мужч.* Сухар. Кухано′ў вазьмі′ с сабо′й на даро′гу, паку′ль зае′дзіш. *Бр.*

КУ′ХЛІК (ку′хлік) *мужч.* Кубак. Кру′шка з глі′ны ку′хлік заве′цца. *Рат.*

КУХТАЛЯ′ НАДАВА′ЦЬ. Набіць кулаком. Падыйшла′ да мяне′ цё′тка ды надава′ла кухталя′ ў пле′чы. *Дук.*

КУШЫ′Н (кушы′н) *мужч.* Збан. Ды ці на′йдзеш цяпе′р до′бры кушы′н?! А гэ′ты, што з малако′м, няве′стка з Луко′мля прыве′зла. *Клет.*

КУШЭ′РКА (кушэ′рка) *жан.* Акушэрка. Ды нія′кая яна′ ні до′хтурка, Чэ′чыха — кушэ′рка, ро′ды прыма′е. *Клет.*

## Л

ЛАБЭ′ЦІНА (лабэ′ціна) *жан.* Лоб. Ды чаго′ лабэ′ціну вы′ставіла, валасы′ не прыбра′ла! *Клет.*

ЛАГО′ЖЫ (лаго′жы) *толькі ў мн.* Лёгкія сані. До′бра ім, каня′ ў лаго′жы запраглі′ і пае′халі. *Ян.*

ЛАГО′ШЫ (лаго′шы) *толькі ў мн.* Сані з надбудованай скрыняй перавозіць сыпкія харчы. Е′хала яна′ на са′нях, лаго′шы гэ′тыя, шта се′чку вазі′ць, дак конь пабе′х, а яна′ сту′кнулася і вы′біла руку′. *Сав.*

ЛАДЫ′ГА (лады′га) *жан.* Сцябло агуркоў без лісцяў. Не′йкія мо′шкі зье′лі ўсё лі′сьце агуро′чніка, што застала′ся то′лькі лады′га. *Кальч.*

ЛА′ДНЫ (ла′дны) *прым.* Харошы, прыгожы. Які ж ла′дны хло′пяц у цябе′, Матру′на. *В. В.*

ЛАЗБЕ′НЬ (лазьбе′нь) *мужч.* Чалавек з вялікім лобам. Ну і лазьбе′нь гэ′ты Ада′сь, лоп той, хоць парася′та бі. *Дук.*

ЛАЙНО′ (лайно′) *ніяк.* Адзенне. Беражы′це, дзе′ткі, лайно′, калі-то но′вая куплю′, так і бу′дзяцця хадзі′ць у стары′м. *Вяр.*

ЛАЙТРУ′ЖНІК (лайтру′жнік) *мужч.* П'яніца. Лайтру′жнік гэ′ты! Як нап'е′цца, дак жы′зьні німа′. *Ляхі.*

ЛАМЯНУ′ЦЬ (ламяну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Імгненна ўскочыць. А я як ламяну′ з магі′лы, і гэ′дак ляце′ла, а ён за мно′й. *Ніз., Уз.*

ЛАПТУ′Х (лапту′х) *мужч.* Мяшок для торфа. Патрэ′бна прыне′сці яшчэ′ адзі′н лапту′х то′рфу, але не бу′дзе, бо па шву лапту′х распо′ўсься. *Клет.*

ЛА′СТКА (ла′стка) *жан.* Закладка на хустцы. На чо′рта ты гэ′дыкую ла′стку зрабі′ла, і так уся паты′ліца го′лая. *Ляхі.*

ЛА′ТКА (ла′тка) *жан.* Гліняная міска. Схадзі′ пазы′ч у сусе′да ла′тку, не хапа′е адно′й на сала′т. *Нар.*

ЛАТУ′ШКА (лату′шка) *жан.* 1. Вялікая міска. По′ўну лату′шку наліла′ сыро′ваткі, не пашкадава′ла. *Ян.* 2. Макацёр. Знайшла′ лату′шку? Яна′ на ко′міне. *Мядз.*

ЛА′ЎКА (ла′ўка) *жан.* 1. Крама. Ла′ўка ў нас мале′нькая, ды і нічо′га ў ёй няма′. *В. В.* 2. Частка агароджы. Сь пяці′ ці шасна′ццаці ла′вак вяза′лі платы′. *В. В.*

ЛАХВА′ (лахва′) *прысл.* Добра. От яму лахва′: купі′ў сабе′ машы′ну і е′зьдзіць як пан. *Ляхі.*

ЛЕБЯДЗІ′ЦЬ (лебядзі′ць), -джу, -дзіш; *незак. тр.* Ліслівіць. Як у во′чы, дык лебядзі′ць, а за вочы′, дык брэ′ша. *Уз.*

ЛЯДА′ШЧЫЦА (ляда′шчыца) *жан.* Дрэнны чалавек. О, гэ′та така′я ляда′шчыца, што ні дай бо′жа. *Ляхі.*

ЛЕ′ПЕЙ (ле′пяй) *прысл.* Больш. Была′ я ў сы′на ме′сяц ці ле′пяй, ды й тро′хі дапамагла′ ім. *В. В.*

ЛІБІЗАВА′ЦЬ (лібізава′ць), -ую, -еш; *незак. тр.* Чытаць па складах. Ён то′лькі лібізава′ць ву′чыцца, калі то′е бу′дзя. *К.*

ЛІНЕ′ЙКА (лине′йка) *жан., устар.* Прадаўгаватая павозка ў выглядзе лінейкі на шырокіх колах. Не′калі на ліне′йца акано′м е′зьдзіў. *Дук.*

ЛІ′ПКІ (лі′пкі) *прым.* Прыхільны. Яны′ абе′дзьві ня лі′пкія да хло′пцаў. *Дук.*

ЛІСІ′ЦА (лісі′ца) *жан.* Драўляная плашка (звычайна іх дзве), з дапамогай якой выпростваюць сцяну будынка, калі апошняя выпучваецца. Вы′пучылася сьцяна′, на лісі′цу трэ′ба ўзя′ць, нічо′га іна′кш тут ні памо′жа. Лісі′ца бярэ′цца, калі′ сьцяна′ выпу′кваецца. *Сав.*

ЛІХА′РДЗІКІ (ліха′рдзікі) *толькі ў мн.* Смажонікі. То′лькі ве′дае ліха′рдзікі, няма′ што п стра′вы нае′сьціся. *Рат.*

ЛІХВЯ′Р (ліхвя′р) *мужч.* Чалавек, які прыносіць людзям няшчасце. Ну і ліхвя′р, як то′лькі ў клуп пры′дзе, дык абяза′цельна ў дра′ку на′до ўпе′рыцца. *Тур.*

ЛІХТУ′ГА (ліхту′га) *жан.* Перасыханне (рэчкі). Ліхту′га быва′е засу′шлівым ле′там. Плыты′ ганя′юць, а тут — ліхту′га. *Свер.*

ЛІ′ШНІЦА (лі′шніца) *жан.* Лішняе. У мяне′ німа′ чаго′ дава′ць. Лі′шніцы няма′. *Дук.*

ЛІШТВА′ (ліштва′) *жан.* Падкладка. Глядзі, у цябе′ ліштва′ ў са′чыку адарва′лася, а прышы′ць ня мо′жаш. *Сл.*

ЛО′ГВА (ло′гва) *ніяк.* Бярлога. Учо′ра ў ле′се мы на старо′е ло′гва мядзве′дзя набрылі′. *Клет.*

ЛО′ГВІНА (ло′гвіна) *жан.* Логавішча. Хадзі′ла ў я′гады, нарва′лася на дзі′кіх сьвінё′ў у Шыма′нскім ле′сі. То′лькі ву′хкаюць. Ло′гвіны павыклада′ныя, се′м'ямі дзе′ржацца. *Бялар.*

ЛО′ЖКА (ло′шка) *ніяк.* Ложак. Засьцялі′ ло′шка, а то бры′тка глядзе′ць. *Ляхі.*

ЛО′ЖНІК (ло′жнік) *мужч.* Несправядлівы чалавек. Ён ло′жнік, мой брат дваю′радны. Трусы′ ў яго′ ест ха-

ро′шай паро′ды, а я папрасі′ла, мне пазы′чыў труса′ про′стага заво′ду, а к′ажа, што харо′шай пароды. *Сав.*

ЛОМ (лом) *мужч.* Ламачча. Ло′мам і палю′ ў пе′-чы, то′рпу нія′к німа′. *Ляхі.*

ЛО′НАЧКА (ло′начка) *жан.* Радок. Пасадзі′ла ло′-начак ко′лькі мо′рквы, прарва′ць трэ′бо, а то то′нянька бу′дзя расьці′. *Сав.*

ЛО′НСКІ (ло′нскі) *прым.* Мінулагодні. Патрэ′бны ён табе′, як ло′нскі сьнех. *Сл.*

ЛО′ПАН (ло′пан) *мужч.* Управа. Ло′пана на яго′ ні-я′кага няма′, вот уе′ўся. *В. В.*

ЛО′ПАТ (ло′пат) *мужч.* Шум. А то надае′лі гэ′тыя гу′сі, такі′ ш ло′пат падніма′юць, хоць ву′шы заткні′. *В. В.*

ЛО′ПНУЦЬ (ло′пнуць) *зак. тр.* Адлегчы, паменшаць (пра мароз). Мне трэ′бо было′ закало′ць парсюка′ ме′-сяц наза′т, дак я ўсё цягну′ла. Але больш цягну′ць ні бу′ду. Як маро′с ло′пне, адра′зу закалю′. *Сав.*

ЛО′ЎЧЫ (ло′ўчы) *мужч.* Старшы ляснік. Ло′ўчы заў-сё′ды паці′ху так на кані′ лес аб′яжджа′е. *Хал.*

ЛО′ХНУЦЬ (ло′хнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Прагнуць, моцна жадаць чаго. Та′ню ні пуска′юць гуля′ць да дзя-це′й, ма′тка хо′ча, каб дзіця′ на ача′х было′. А яна′ аш ло′хня да дзяце′й, крычы′ць да дзяце′й. *Сав.*

ЛУ′БКА (лу′пка) *жан.* 1. Мера вагі ў 16 кг. Не, такі′х няма′, ня чуў, а лу′пка — гэ′ная ме′ра ёсьць, лу′пка — гэ′на 16 кілагра′маў. *Вішн.* 2. Калыска з лубу. Цяпе′р ні даўне′й, дзіця′ ў калы′ску ло′жаць, а ні ў лу′пку. *В. В.*

ЛУБЯ′НКА (лубя′нка) *жан.* Вялікая лубяная пасу-дзіна, куды сыплюць збожжа. Няма′, дзяўча′ткі, ча′су, по′тым пры′дзяцця, а то со′нца, трэ′ба жы′та з лубя′нкі пярасушы′ць. *В. В.*

ЛУГ (лух) *мужч.* Шчолак. *Цял., Хар., Жор.* Трэ′ба лу′гу зрабі′ць ды пла′цьця намачы′ць. *Дук.*

ЛУ′КІ (лу′кі) *толькі ў мн.* Луг пры сяле. Лу′кі гэ′тыя пачына′юцца пры са′мум сяле′. *В. В.*

ЛУПА′ТЫ (лупа′ты) *прым.* 1. Таўстагубы. Які′ ж лупа′ты! Страх гля′нуць. *Уз.* 2. Шурпаты. Як ні абдзярэ′ш до′бра кру′пы, дык яны бу′дуць лупа′тыя. *В. В.*

ЛУ′ТА (лу′та, лут) *жан.* Аснова лапця. Адзі′н гато′вы ла′паць ужо ста′іць, а друго′га лу′та ніяк не выхо′дзіць. *Тур.*

ЛУ′ТКА (лу′тка) *жан.* Вушак. Застало′ся то′лькі лу′тку ў гэ′ным вакне′ памы′ць. *Нем.*

ЛУ′ЧНІК (лу′чнік) *мужч.* Прыстасаванне, у якое ўтыкалі лучыну. У лу′чнік устаўля′лі смо′льныя трэ′скі (лучыну), найбо′льш ча′ста с смаляны′х карчо′ў, і палі′лі. *В. В.*

ЛУ′ЧЧА (лу′чча) *прысл.* Лепш. Чым ля′сы тачы′ць, лу′чча п вады′ прынё′с. *Люц.*

ЛЭ′ХА (лэ′ха) *жан., лаянк.* Пляткарка, языкатая жанчына. Кап хоць што ў яе′ на языку′ затрыма′лася, така′я ўжо лэ′ха. *Алях.*

ЛЭ′ХАЦЬ (лэ′хаць), -аю, -еш; *зак. тр. Гл.* гандзюрыць. Вось ужэ′ вы′піў, дык не лэ′хай чаго′ не трэ′ба, а то жа′хну па′лкай. *Пяр.*

ЛЮДСКАВА′ЦЦА (люцкава′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Апранаць у людзі, выхадное. Хто йта маё′ паліто′ кі′нуў на печ? Я ў ём люцку′юся, а яны′ на печ кіда′юць. *Сав.*

ЛЮ′ДСКІ (лю′цкі) *прым.* Чый-небудзь. Былі′ скля′пэ′ люцкі′я, дак ён там хаво′ўся. *Цял.*

ЛЮДЗІ′НЫ (людзі′ны) *прым.* Ядомы, прыдатны да яды. У нас ваўчы′ныя то′лькі грыбы, іх нямо′жна е′сьці, а людзі′ныя ашчэ′ ня вы′расьлі. *Бялар.*

ЛЮТАЕ′ЖЛІВЫ (лютае′жліві) *прым.* Чалавек, які дрэнна есць. Наш малы′ ве′льма лютае′жлівы, нічо′га ні хо′ча е′сьці. Напла′часься, по′куль пако′рміш яго. *Цял.*

ЛЮ′ФЦІК (лю′фцік) *мужч.* Фортка. У ва′шых во′кнах ёсць лю′фцікі? Во дак пра′вільна, што зрабі′лі лю′фцікі, а мы дак не. *Рум.*

ЛЯДА′ШНІ (ляда′шні) *прым.* Паношаны. То′жа быў касьцю′мчык не′йкі ляда′шні, але′ прышло′ся і яго′ дано′шваць. *В. В.*

ЛЯДА′ШЧЫ (ляда′шчы) *прым.* Стары. Така′я ўжо ляда′шчая мая′ ма′ці, але′ шчэ дзяржы′цца. Ці до′ўга то′лькі? *В. В.*

ЛЯДА′ШЧАНЬКІ (ляда′шчанькі) *прым., памянш. ад* лядашчы. Худы, тонкі. Мая дачу′шка така′я ляда′шчанькая, хварэ′ла до′ўга. Але′ нічо′га, ко′сьці ёсць, то мя′са бу′дзя. *В. В.*

ЛЯДНІ′К (лядні′к) *мужч.* Падбярозавік. Ма′ма, а ляднікі′ сяго′ньня бу′дзем браць? *Касц.*

ЛЯЖА′ЙКА (ляжа′йка) *жан.* Ляжанка. Як ні вы′палім ляжа′йкі, дак хо′ладна ў ха′ці. *Цял.*

ЛЯЖНЯ′ (ляжня′) *жан.* Ляжанне. З ляжні′ хле′ба не пад′ясі′,— гэ′та ты до′бра ве′даіш, але ро′біш усё′ не так. *Пяр.*

ЛЯ′ЛЬКА (ля′лька) *жан.* Частка явару ад кораня, якую любяць есьці дзеці. Трэ′ба было′ б зь я′вару ля′льку сарва′ць ды зье′сьці. *В. В.*

ЛЯМПЭ′РНІ (лямпэ′рні) *толькі ў мн.* Карнізы. Трэ′ба ўжо лямпэ′рні прыбі′ць і паве′сіць но′выя фіра′нкі. *Пуг.*

ЛЯНІ′ЎКА (ляні′ўка) *жан.* Страва са свежай капусты. Ідзі′ еш, а то ляні′ўка асты′не. *Ос.*

ЛЯНУ′ШКА (ляну′шка) *жан.* Пячурка. А ў ляну′шцы кот сьпіць, ад дзяце′й схава′ўся. *Ян.*

ЛЯ′ПА (ля′па) *жан.* 1. Капа сена. Мой сё′ньня Міко′ла заро′біць адну′ ля′пу се′на каро′ві. *В. В.* 2. *Мужч., зневаж.* Рот. Ну чаго′ ты тут цэ′лы дзень гарлапа′ніш, ля′пу разя′віўшы. *В. В.*

ЛЯ′ПНУЦЬ (ля′пнуць), -у, -еш; *зак. тр., перан.* Упасці. Учо′ра мы е′лі на по′лі, а жук як ля′пня ў мі′ску. *В. В.*

ЛЯ′СНУЦЬ (ля′снуць), -у, -еш; *незак. тр.* Ударыць. Ужо′ калі′ ля′сну, дык до′ўга по′мніць бу′дзеш. *Войр.*

ЛЯТА′ЦЬ (лята′ць), -ю-, -еш; *незак. тр., перан.* Хадзіць, бегаць без толку. Дзе′ўкі, як жаро′пкі малады′я, туды′-сюды′ лята′юць. *В. В.*

ЛЯ′ХА (ля′ха) *жан.* Рэха. По′йдзя з на′мі ў лес, зблу′дзіць, а гука′ям, дык яна′ ні на го′лас, а на ля′ху бяжы′ць. *В. В.*

## М

МАГАЗІ′Н (магазі′н) *мужч.* Рэзервуар у лямпе, у які наліваецца газа. Ля′мпу як пусьці′ў, дак шкло разьляце′лася, а магазі′н быў бляша′ны, дак цэ′лы засто′ўся. *Цял.*

МАГНА′Ч (магна′ч) *мужч.* Багаты чалавек. Вунь як гэ′тыя магначы′ бая′цца капе′йкай перадаражы′ць. *Калод.*

МАДЗЕ′ЦЬ (мадзе′ць), -ею, -еш; *незак. тр.* Мёрзнуць. Цэ′лы дзень мадзе′ла на ву′ліцы, паку′ль машы′ны дажда′лася. *Бр.*

МАЖА′РЫ (мажа′ры) *толькі ў мн.* Калёсы для звозкі снапоў і сена. Міко′ла, ты падраманту′й мажа′ры, бо пасьля′ абе′ду бу′дзем зво′зіць снапы′. *Юр.*

МАЖЛІ′ВА (мажлі′ва) *прысл.* Добра. У гэ′тым го′дзі бу′льба ў нас во як мажлі′ва вы′расла. *Калод.*

МА′ЖЫ (ма′жы) *толькі ў мн.* Доўгія шырокія драбіны, якія ставяцца на павозку пры перавозцы сена, саломы, вікі і інш. Ма′жы то′лькі вазі′ць се′на, сало′му. *Рат.*

МАЗГАВА′ЦЬ (мазгава′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Думаць. Мазгу′й, мазгу′й, мо′жа што і наду′маясься. *В. В.*

МАЗГАВІ′НА (мазгаві′на) *жан.* Галава. Атчапі′цеся ад мяне′, мазгаві′на мая′ за′рас ні рабо′тая. *Кухн.*

МАЗГАЎНЯ′ (мазгаўня′) *жан., лаянк.* Дурная галава. Мазгаўня′ ў цябе′ дурна′я, а ня галава′. *Дук.*

МАЗГЛЯКІ′ (мазглякі′) *толькі ў мн.* Адзенне і абутак разам. На твае′ мазглякі′, не сядзі′ го′лы-бо′сы, брыдо′це. *Юр.*

МАЙНА′ЧЫЦЬ (майна′чыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Бачыць здані, галюцыніраваць. А ле′тась, ты, зна′яш, дзета я была′, прышла′ позна, вячэ′раю на ку′хні. Ра′птам здало′сё, не′шта блі′снуло ў той ха′ці. Я прыгле′дзелася — нічо′га німа′. Да спало′халася, ду′маю, што гэ′то са мно′ю, мо′жа майна′чу, з галаво′й што ро′біцца. Кроў уны′ла — вядо′ма, ноч, нідзе′ ніко′га, адна′ ў ха′ці. *Сав.*

МАЛАДНЯ′К (маладня′к) *зборн.* Моладзь. Маладняку′ атусю′ль панаяжджа′ла: і са Скамаро′шак, і з Асі′паўшчыны. *Сав.*

МАЛЯВІ′ДЛА (маляві′дла) *ніяк.* Пэндзаль. У се′раду шко′лу малява′лі, то далі′ мне маляві′дла, а я крыжы′ на мо′гілках пакра′сіла. *Вішн.*

МАМЭ′РЛЯ (мамэ′рля) *толькі ў адз.* Павуцінне. На во′кнах гардзі′ны вісяʹць, а за і′мі паву′к мамэ′рлю наві′ў. *В. В.*

МАНЕ′Ж (мане′ш) *мужч.* Малатарня. А мы так з Алё′най стамі′ліся на мане′жы, што так ста′лі ру′кі мо′цна бале′ць. *Калод.*

МАНІ′СТА (мані′ста) *жан.* Нізка. До′брую мані′сту грыбо′ў насушы′ла. *Мік.*

МАНТЫЛЯ′ЦЦА (мантыля′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Хістацца. Ледзь ідзе′, мантыля′ецца, п'я′ніца гэ′ты. *Уз.*

МАРАКАВА′ЦЬ (маракава′ць), -кую, -куеш; *незак. тр.* Гневацца. Цё′тка мараку′я, на′ват гавары′ць ні хо′ча. *Цял.*

МАРАФЭ′ЦІЦЦА (марафэ′ціцца). *Гл.* чапурыцца. Намарафэ′ціцца і то′лькі яе й ба′чылі. Вось така′я й по′мач, ты тут до′ма адзі′н калупа′йся. *Клет.*

МАРГО′ЎНІК (марго′ўнік) *мужч.* Маркоўнік. Як марго′ўнік то′ўсты, дык і мо′ргава до′брая. Вось і за′рас така′я. *Ляшч.*

МАРДО′ЎНІК (мардо′ўнік) *мужч., бат. Гл.* блякотнік. Мно′гія мардо′ўнік свіньня′м даю′ць усухамя′тку, а я дык зава′рам абліва′ю. *Шут.*

МА′РНЫ (ма′рны) *прым.* Дрэнны, нялюбы. Дзе′сяць свато′ў сва′таліся, а пайшла′ за ма′рнага, не любі′ла, але бацькі′ аддалі′. *Вішн.*

МАРО′ЗІЦЬ (маро′зіць), -у, -іш; *незак. тр., перан.* Хлусіць. От дзе таўка′ч ты гэ′дакі, але ж маро′зіць абы′ што. *В. В.*

МАРСКАНУ′ЦЬ (марскану′ць), -уш, -еш; *зак. тр.* Штурхануць. Адыдзі′ся, а то як марскану′, дак і пако′цісься. *Ляхі.*

МАРСЯНУ′ЦЦА (марсяну′цца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Дацягнуцца. Яка′я ты ў мяне ўжо разу′мнінькая, марсяну′лася аж да зэ′дліка. *В. В.*

МАРХО′ЎНІК (мархо′ўнік) *мужч. Гл.* маргоўнік. Калі′ не пасьпе′ю, то про′ста мархо′ўніку нарву′ ды дам сьвіньня′м. *Так.*

МАРЦЫПЛЯ′СЫ (марцыпля′сы) *толькі ў мн.* Нешта незразумелае, розныя выкрутасы. Той рас як былі′, І′ра мне спо′рціла два канве′рты. Да гэ′ткія харо′шыя канве′рты! Я ду′мала, у По′льшчу пісьмо′ пашлю′ ў гэ′тых канве′ртах, а яна′ ўзяла′ дзе′ду Маро′зу бараду′ зялё′ную намалява′ла і яшчэ′ не′кіх марцыпля′саў наве′шала. Спо′рціла мне адно′ канве′рты. Цяпе′р ізно′ў ідзі′ на по′шту. *Сав.*

МАСА′РНЯ (маса′рня) *жан.* Кілбасная. Ён мо ш чатырна′ццаці гадо′ў у маса′рні ро′біць. *Сав.*

МАСЛЯ'НКА (масьля'нка) *жан., бат.* Зарніца. Масьля'нкі сабіра'юць і ёй мы'юць пасу'ду, куды' малако' цэ'дзяць, каб яно' не кі'сла. *Кальч.*

МАСЦЯ'РКА (масьця'рка) *жан.* Работніца, майстар сваёй справы. Быва'ла, калі' ў сям'і' было' шмат дзяўча'т, трэ было' ма'ці быць до'брай масьця'ркай, каб навучы'ць дачо'к уся'каму труду'. *В. В.*

МАТА'ЦЬ (мата'ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Бегчы, хутка ісці. Ду'мала, ў Вяле'йцы яго' ўві'джу, аж мата'іць сам, а стра'шны-стра'шны. *Малм.*

МАЎЧА'НІШЧА (маўча'нішча) *агульн., асудж.* Маўклівы чалавек. Маўча'нішча, як цялё' бо'жайе, ні гаво'ркі зь яго ні гамо'нкі. *Тур.*

МАХНЫ'ТКА (махны'тка) *жан.* Галавешка. Калі' гары'ць аго'нь, то застаю'цца махны'ткі, кусо'чкі дрэ'ва, які'я тле'юць. *Уз.*

МАХО'РЧЫК (махо'рчык) *мужч. Гл.* махра. Пачы'сьці ўсе махо'рчыкі ў мо'ркавы і складзі' вунь туды'. Я пато'м вазьму'. *Дук.*

МАХО'ТКА (махо'тка) *жан.* Гліняны гаршчочак для стравы. Карто'плі стушы'ла ў махо'тцы, вы'няла махо'тку з пе'чы, аж раскало'лася там, дзе была невялі'кая шчы'ліна. *Уз.*

МАХРА' (махра') *жан.* Бакавая тоненькая нітачка на моркве. Та'ня, абрэ'ш махру' на мо'ркаўцы ды нясі' сюды' дзяўча'ткам. *Ніз.*

МАЦІ'Х (маці'х) *мужч.* Матыў (песні). Цягні' ў маці'х, не цягні' ў другі' бок. *Тур.*

МАЧА'ЦЬ (мача'ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Мачыць (лён). А по'тым мача'лі лён. Дзьве нядзе'лі мок. До'бры лён атрыма'ўся. *Рат.*

МАЧО'НЫ ЛЁН. Лён, які мочаць. Лён без гало'вак, які мо'чаць у вадзе', называ'юць мачо'ны лён. Вунь ён ляжы'ць. *Рат.*

МАЧУ′ЛА (мачу′ла) *жан.* Сажалка. Мачу′ла заўсё′ды ці′най зялё′най пакры′тая, камары′ слу′пам стая′ць. *Зааз.*

МАШЫНО′ЎКА (машыно′ўка) *жан.* Інкубатарнае кураня. Вазі′лі нядо′ўна машыно′ўкі, я ўзяла′ дзе′сяць штук. *Бялар.*

МЕ′ЗЕНЫ ПА′ЛЕЦ (ме′зяны па′ляц). Мезенец. Ён паказо′ў ме′зяны па′ляц. *Цял.*

МЕ′КШЫЦЦА (ме′кшыцца) *незак. тр.* Рабіцца мяккім. Яна′ (мільта) ме′кшыцца і така′я сма′чная, мае′ ўсе′ лю′бяць. *Рат.*

МЕ′ЛІВА (ме′ліва) *ніяк.* Мліва. Заво′зьнікі ме′ліва прыве′зьлі, хутчэ′й канча′й. *Тур.*

МЕРАЖКАВА′ЦЬ (мярашкава′ць), -кую, -куеш; *незак. тр.* Вышываць. Глядзі′ ты, во як спадні′цу абмярашкава′ла, а васількі′ як жывы′я! *Кухц.*

МЕРКАВА′ЦЬ (меркава′ць), -ую, -еш; *незак. тр.* Разлічваць. Меркава′ла, што пры′йдзе ху′тка, ажно′ ашчэ′ й німа′. І калі′ то′лькі пры′йдзе? *Пяр.*

МЕ′СТА (ме′ста) *ніяк.* Мястэчка. *Дук., Хар.* Я іх ба′чыла ўчо′ра на ме′сьця. *Жор.*

МІЗ *прыназ.* Між. Міз іх сва′рка была′. *Цял.*

МІЛА′НАВЫ (міла′навы) *прым.* Нейлонавы. Глядзі′ця, кляё′нка празры′стая, як міла′навыя руба′шкі. *В. В.*

МІ′ЛЬТА (мі′льта) *жан.* Страва з аўсянай мукі. Авё′с па′руць у пе′чы, а по′тым су′шуць на пе′чы, аптаўка′юць у сту′пі і ро′бюцца зе′рнюшкі сушо′ныя. Пато′м вязу′ць у прут і ме′люць гэ′тыя на муку′. Яе се′юць, кап ні было касьцю′лкі с аўса′. Муку′ ко′мшуць і яду′ць гэту мі′льту. *Рат.*

МЛЯЧА′РНЯ (мляча′рня) *жан.* Малочнапрыёмны пункт. Мле′ка ня но′сіць, му′сіць, у мляча′рню, ма′сла ро′бяць, сы′ры яду′ць. *Сав.*

МІНУ′ЦЦА (міну′цца) *зак. тр.* Прайсці. Вялікдзень міне′цца, а там ско′ра й сё′муха. *В. В.*

МО′ДА (мода) *жан.* Матыў, мелодыя песні. Ох, і кра-сі′вая мо′да белару′скіх пе′сінь! *Малм.*

МОСТ (мост) *мужч.* Падлога. Мост у пярэ′дняй ха′-це быў вы′мыты, чы′сты, ступі′ць баі′шся, каб не засьля-дзі′ць. *Клет.*

МО′ЦКІ (мо′цкі) *прым.* Добры. Як хто мо′цкі, то даду′ць не′калькі ху′нтаў жы′та. *Кухц.*

МУДРЭ′Й (мудрэ′й) *прысл.* Лепш. *Цял., Кам.* І ця-пе′р мудрэ′й хто жыве′, дык пара′ды ці дапамо′гі і ні чака′й. *Кухц.*

МУЗЫКА′РСТВА (музыка′рства) *ніяк.* Музыка. До′бра, як чалаве′к здо′льны да музыка′рства. *Малм.*

МУЗЫ′ЧНІК (музы′чнік) *мужч.* Музыкант. Пачака′й-це, ху′тка музы′чнікі зьбяру′цца, паска′чаце з на′шымі дзе′ўкамі. *Мік.*

МУ′ЛЯЦЦА (му′ляцца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Ламацца, не згаджацца. Ён до′ўга му′ляўся, ня хаце′ў згаджа′цца е′хаць гэ′дак далё′ка па се′на, але мушчы′ны ўгавары′лі, пае′хаў. *Цял.*

ВЫ′МУРЗАЦЦА (вы′мурзацца), -ю-ся, -еш-ся; *не-зак. тр.* Запэцкацца. А мой ты хло′пчык! Дзе ш ты так вы′мурзаўся? *Войр.*

МУ′РАЎ (му′раў) *мужч.* Мурава. А пры′дзя жніво′, зажы′нкі гуля′лі. Хло′пцы во′зьмуць гармо′нікі, наста-я′шчую гуля′нку ўстро′яць. А му′раў зялё′нянькі (скаці′-на па дво′ру ня хо′дзіць, пастаўні′к для жывё′лы каля хлява′ быў), ска′чуць, сьмяю′цца. *Бялар.*

МУРЛА′ТЫ (мурла′ты) *толькі ў мн.* Бэлькі. Но′вую ха′ту ўжо зака′нчываем, мурла′ты кла′сьці трэ′ба і столь рабі′ць. *Кап.*

МУ′СІБЫЦЬ (му′сібыць) *пабочнае слова.* Мабыць. А ты, дачу′шка, му′сібыць, здалё′ку? *В. В.*

МУСЛІ′Н (мусьлі′н) *мужч.* Батыст. Цяпе′р мусьлі′н ні ў мо′дзі, усё′ шоўк то′лька. *Цял.*

МУСЛІНО′ВЫ (мусьліно′вы) *прым.* Батыставы. *Цял.* Мая′ мусьліно′вая ху′стка ўжо парва′лася. *Дук.*

МУСО′ВА (мусо′ва) *прысл.* Абавязкова. Хі′ба ш гэ′та мусо′ва на вясе′льля йсьці′? *Ляхі.*

МУЦІ′ЦЬ (муці′ць), -чу, -іш; *незак. тр.* Паласкаць бялізну. Пайду′ я бялі′зну муці′ць, дай мне лаха′нку с сабо′ю, чы′стае туды′ пакладу′. *Калод.*

МЫТНУ′ЦЦА (мытну′цца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Кінуцца. А саба′ка — сы′сьцік, як мытну′ўся да мяне′, ну, ду′маю, разарве′. *Ніз.*

МЫША′ (мыша′) *жан.* Мыш. Ай, мыша′ во! Ды ні дзяржы′ ты яе ў рука′х, яна′ ш цябе′ ўварве′. *Бялар.*

МЭ′НДАЛЬ (мэ′ндаль) *мужч.* Бабка. Жжа′лі, у мэ′ндалі паста′вілі. *Рат.*

МЭ′НДАЦЦА (мэ′ндацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Туляцца без справы. Хва′ціць мне тут мэ′ндацца, трэ′ба іці′ хлеп сь пе′чы вы′няць. *В. В.*

МЭ′НЬКА (мэ′нька) *жан.* Му′ка. Ну і мэ′нька мне з гэ′тым чалаве′кам! *Пал.*

МЭ′РАМ (мэ′рам) *злуч.* Быццам. Гэ′ты ко′лер мэ′рам ко′лер не′ба. *Свер.*

МЭ′РЛЯ (мэ′рля) *жан.* Марля. Не было′ куды′, дык вы′сыпала я′гады на мэ′рлю. А цяпе′р трэ′ба перасыпа′ць, а то мэ′рля шчарне′я, а мне ш малако′ адцэ′джваць. *Бялар.*

МЯ′ГНУЦЬ (мя′гнуць), -у, -еш; *незак. тр.* 1. Карпець. На′да было′ сядзе′ць, мя′гнуць, ро′біць усё гэ′та. *Рат.* 2. Стукнуць. Ну нашто′ ты гэ′тага мало′га мя′гнуў, ён жа тут са′мы ме′ншы, а ты вунь які! *Тхар.*

МЯ′ЛА (мя′ла) *жан., перан.* Непаваротлівая жанчына. А яна′ як мя′ла да рабо′ты, нічо′га ні зро′біць палю′цку. *Цял.*

МЯ′ЛІННЕ (мя′ліньне) *толькі ў адз.* Адыходы, якія атрымліваюцца, як труць лён. У варыўню′ нацяга′ла мя′ліньня зь лё′ну. *Акал.*

МЯ′ЛІЦЬ (мя′ліць), -ю, -іш; *незак. тр.* Цёрці лён. Спача′тку лён пасу′шаць, а по′тым мя′ляць. *В. В.*

МЯНТА′ШКА (мянта′шка) *жан., зневаж.* Чалавек, які многа гаворыць. Ба′ба яго′ така′я мянта′шка, цэ′лы дзень балбо′ча, і балбо′ча, і балбо′ча. *В. В.*

МЯНЦІ′ЦЬ (мяньці′ць), -чу, -іш; *незак. тр.* Есці. Вось далі′ табе′, дык і мяньці′ на здаро′ўе, не зява′й. *Пяр.*

МЯРНІ′ЧЫ (мярні′чы) *мужч.* Каморнік. Заме′р зямлі′ мярні′чы рабі′ў, трэ′ба было′ плаці′ць. Купі′ць сашні′к трэ′ба, заплаці′ пятна′ццаць зло′тых. А калё′сы! А хаму′т! За ўся′ку ўся′чыну заплаці′. Ражжыва′ліся тру′дно. *Сав.*

МЯТА′ЦЦА (мята′цца), -аю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Мільгаць. То′лькі гля′ну ў ціліві′зар, дык мне ўсё мята′ецца пя′рат вачмі′. *Пяр.*

МЯТРО′ЎКА (мятро′ўка) *жан.* Прылада для вымярэння плошчы. А там ужо′ і брыгадзё′р хо′дзіць з мятро′ўкаю. *Тур.*

МЯТУШЫ′ЦЦА (мятушы′цца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Мітусіцца. Э′та ш я ні магу′ глядзе′ць уза′т, тады′ мне ў вача′х мятушы′цца, мятушы′цца. Я як е′ду куды′, абіза′цельна, каб глядзе′ць упяро′т. *Сав.*

МАХ (мах) *мужч.* Веліч (пра высокага росту чалавека). Брыгадзі′р наш онь які′ мах, а ва′жыць усяго′ пяйся′т тры кі′лі. *Сав.*

## Н

На *прыназ.* У. *Дук., Хар., Жор., Кам.* Учо′ра ра′на на Узду′ хадзі′ла. *Кухц.*

НАБАБЭ'НІЦЬ (набабэ'ніць), -ю, -іш; *зак. тр.* Накласці. От то'лькі ня хо'чацца, а то я зале'з ба і такі' табе' воз набабэ'ніў ба, што ні пацягну'лі п і ко'ні. *Бялар.*

НАБАСЯКА' (набасяка') *прысл.* Басанож. А ле'там уве'сь час набасяка' хаджу', тут усе' так звы'клі, ды і нашто' цяпло'м ты'я бо'ты. *Уз.*

НАБГО'МКА (набго'мка) *жан.* Невялікая міска. Налі' кату' сырадо'ю ў набго'мку, хай пае'сьць крыху'. *Чэрв.*

НАБІ'ЦЦА (набі'цца), -ю-ся, еш-ся; *зак. тр., перан.* 1. Напрасіцца. Сам жа набі'ўся ёй, а цяпе'р шкаду'яш. *В. В.* 2. Прычапіцца, прыйсці. Ка'жуць, што яна' сама' набі'лася да хло'пца. *В. В.*

НАБО'ІШЧА (набо'ішча) *агульн.* Той, хто набіваецца. Такі' ўжэ набо'ішча гэ'ты Пятро'к. Аграно'м гавары'ць зь ім ня хо'ча, а ён усё' набіва'яцца. Ну і што зь ім рабі'ць? *Дук.*

НАБО'ХАЦЬ (набо'хаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Наліць чаго-небудзь вельмі многа. Набо'хала по'ўную вялі'кую мі'су, страх, дзе ж я зьем. *Уз.*

НАБРА'ЦЦА (набра'цца), -у-ся, -эш-ся; *зак. тр., перан.* Моцна напіцца. Мой учо'ра так набра'ўся, што ледзь даха'ты прывало'кся. *В. В.*

НАГА'МЫ (нага'мы) *прысл.* Пешшу. Нічо'га не зро'біш, пры'йдзіцца ісьці' нага'мы, бо падве'сьці німа' каму'. *Клет.*

НАВАЗЮ'РЫЦЬ (навазю'рыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Разліць, размазаць. Ах, і навазю'рыў ты на стале', вот нязгра'бны. *Калод.*

НАВА'ЛЬНЫ (нава'льны) *прым.* Праліўны навальнічны (пра дождж). Пе'рад ва'шым прые'здам драсава'ла гарбузэ', а по'тым до'жджык нава'льны пралі'ў, лапушы'стыя ста'лі які'я. *Сав.*

НАВІДАВО′К (навідаво′к) *прысл.* Навіду. Навідаво′к пол памы′я, а глянь у куто′к, дык там пыл ляжы′ць. *В. В.*

НАВО′ЗАМ (наво′зам) *прысл.* Загуменнем, задамі; сцяжынкай за вёскай. Наво′зам по′йдам, бо ў вё′сцы ня вы′лясьці, а наво′зам гэ′дак элега′нцко йсьці, канюшы′нка расьце′. *Сав.*

НАВУРЫ′ЦЦА (навуры′цца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Наесціся. Я так навуры′лася рулё′ў, што і ўстаць не магу′. *Мядз.*

НАВЫ′ГАНКІ (навы′ганкі) *прысл.* Навыперадкі. Дзе′ці бе′глі навы′ганкі: хто хутчэ′й, таго′ й пахва′ляць. *Уз.*

НАГАНАШЫ′ЦЬ (наганашы′ць), -у, -ыш; *зак. тр.* Нарваць. Наганашы′ла травы′ на цэ′лаю нядзе′лю. *Дук.*

НАГА′НЫ (нага′ны) *прым.* Дрэнны. Не′шта ры′ба не падаба′ецца мне, нага′ная яна′. *Марк.*

НАГДОЁ′ (нагдоё′) *прысл.* Пазаўчора. Нагдоё′ ў кра′ме была′, ты ве′даеш, су′мку купі′ла. Ба′чыла таку′ю? *Пан.*

НА′ГЛЫ (на′глы) *прым.* Нахабны. Вот дзе на′глы чалаве′к! Ты яго′ праганя′еш, а ён ле′зя, як та′я каро′ста прыстае′. *Цял.*

НА ГО′СЦІ (на го′сьці). У госці. А ма′ма с па′пай пае′халі ў Бары′сава на го′сьці. *Клет.*

НАДЗЕ′ЦЬ (надзе′ць), -ну, -неш; *зак. тр.* Начыніць. Ку′ру зарэ′зала. Асмалі′ць хо′рашанько, цё′плаю вадо′ю вы′мыць, кі′шкі вы′пусціць, надзе′ць і ўжа′рыць, от уку′с, што за ўку′с. *Сав.*

НАДО′Е (надо′е) *прысл.* Нядаўна. Надо′е сын прые′хаў у го′сьці. *Ляхі.*

НАДЫ′СЬ (склады′сь) *прысл.* Надоечы. Ён нады′сь хадзі′ў у дупцэ′. *Дук.*

НАЙГРАВА′ЦЦА (найграва′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Здзеквацца. От з гэ′тага чалаве′ка ўсе̄ найграва′юцца, сьме′шкі стро′яць. *Сав.*

НА′ЙДА (на′йда) *агульн.* Прайдзісвет. Гэ′та на′йда ве′дая, дзе што ро′біцца. *Дук.*

НАЙСЦІ′СЯ (найсьці′ся), -ду-ся, дзеш-ся; *зак. тр.* Нарадзіцца. Прас гот у нас зь ім і найшо′ўся ма′льчык, Пе′ця назва′лі, і я забале′ла. *Шут.*

НАКАЗА′ЦЬ (наказа′ць), -жу, -жаш; *зак. тр.* Нагаварыць. Яна′ наказа′ла мно′га, а то′лку ма′ла. *В. В.*

НАКАЛПА′К (накалпа′к) *прысл.* Завязаць хустку абы як. Ні прыфранці′лася й ху′стку накалпа′к завіза′ла. *Раб.*

НАКАНАВА′ЦЬ (наканава′ць), -ную, -нуеш; *зак. тр.* Нарыхтаваць. Стары′я гавары′лі, што зіма′ хало′дная бу′дзе, так трэ′ба больш дроў на зіму′ наканава′ць. *Кап.*

НАКІ′ДАЦЬ (накі′даць), -ю, -еш; *зак. тр.* Наліць густога чаго-небудзь. Звары′ла я заці′ркі ды й накі′дала ў мі′ску, але′ то′лькі чаты′ры лы′шкі зье′ла. *В. В.*

НАКО′ПІЧ (нако′піч) *мужч.* Бункер (саломы). Ле′тась я пае′хала па сало′му, брыгадзі′р ка′жа: «Бярэ′ця ты′я два нако′пічы, два бу′нкяры, а ў бу′нкяры па-дзяржа′ўнаму пяцьдзеся′т кіль палага′яцца». *Сав.*

НАКРАПА′ЦЬ (накрапа′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Зрабіць (каўбасу). Ве′чарам рабо′та бу′дзя, паві′нны каўбасы′ накрапа′ць. *Вяр.*

НАЛЫ′КАЦЦА (налы′кацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Выпіць лішняе. Во налы′каўся як сьвіня′ і сло′ва сказа′ць ні мо′жа. *Клет.*

НАЛЮДНЕ′ЦЦА (налюдне′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Стаць такім, як іншыя. Тро′ха падужэ′ла гусянё′, паглядзі′, як до′бра бяжы′ць. Хаця′ п тро′ха налюдне′лася, кі′нала б усё′ і адне′сла да сястры′, там у яе′ гу′сі ё. *Бялар.*

НАЛЯГА′ЦЬ (наляга′ць), -ю, -еш; *незак. тр., перан.* Нападаць. Не′калі на нас во′рагі наляга′лі, от стра′шна было′! *В. В.*

НА′МАЧЫ (на′мачы) *займ.* Нам. Даро′га к на′мачы нялё′хкая была′, у ту′ю пару′ ўсё ле′сам ды бало′там хадзі′лі пяшко′м. *Кухц.*

НАПАКАВА′ЦЦА (напакава′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Наесціся ўволю.— Сяда′й, Гіле′на, з на′мі палу′днаваць.— Не, сусе′тка, дзя′куй. До′ма напакава′лася. *Сл.*

НА′ПАЛ (на′пал) *прысл.* Папалам. *Хар., Жор.* Тале′рка так ро′ўна раскало′лася на′пал, уся′ ро′ўна як хто адрэ′заў. *Дук.*

НАПА′СІЦЬ (напа′сіць), -у, -іш; *зак. тр.* Угнаіць зямлю. Німа′ скаці′ны ў нас і зямлю′ німа′ чым напа′сіць. *В. В.*

НА ПАПРАДУ′ХІ (на папраду′хі) *прысл.* У госці. Да мяне′ на папраду′хі прые′хаў брат, даўно′, ой, даўно′ не ба′чыліся, дык я аж запла′кала. *Марк.*

НАПЕ′РАД (напе′рат) *прысл.* Раней. Напе′рат лепш было′ ма′ці, а ціпе′р горш. *В. В.*

НАПО′РНЫ (напо′рны) *прым.* Напружаны. За′рас у іх там са′мы напо′рны мо′мант, вунь як раскрыча′ліся, і ўсе да дзірэ′ктара. *Тхар.*

НАПРО′ЦІЎ (напро′ціў) *прысл.* Насупраць. Напро′ціў вунь на другі′м баку′ ву′ліцы на′ша шко′ла зь бе′лымі акані′цамі. *Мядз.*

НАПЯКА′ЦЬ (напяка′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Напячы. Зо′ўтра напяка′ю бліно′ў. Калі′ лю′біця, то ўстава′йця, бу′дзям ма′заць. *В. В.*

НАРАВІ′ЦЦА (нараві′цца), -ўлю-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Гнуцца. Сьпіна′ ве′льма балі′ць, то я ўсё нараўлю′ся, дык урачы′ ка′жуць, што сьпіна′ ўжо сагну′лася ў міне′. *В. В.*

НАРА′ДКА (нара′тка) *жан.* Павозка, у якой возяць гной. У нара′ццы во′зяць гной, а ў драбі′нах во′зяць се′на. *Свер.*

НАРУГА′ЦЦА (наруга′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Дражніцца. Хо′піць табе′ ўжо наруга′цца, увё′ў дзе′ўку ў кра′ску. *Люц.*

НАСПЛЯТА′ЦЦА (насплята′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Нагаварыцца. Ты бач, ба′бы ўжо′ насплята′ліся, лі′ха іх галаве′. *Тур.*

НАСТАЯ′ШЧА (настая′шча) *прысл.* Поўнасцю. Ужо′ настая′шча пастро′ілі двухвета′жны дом, гэ′на клуб бу′дзя. *Сяд.*

НАСТО′ЛЬНІЦА (насто′льніца) *жан.* Абрус. У міне′ шчэ насто′льніца, што дзе′ўкаю тка′ла. *Цял.*

НАСТО′ЛЕНА (насто′ляна) *дзеепрым.* Накладзена на столь (пра запас). А ў яго′ ш до′шак-до′шак насто′ляна. *Сав.*

НАСТРА′МАК (настра′мак) *мужч.* Невялікі вазок. На′ша Лысу′ха дык за дзень зьяда′я настра′мак се′на. *В. В.*

НАСТЫРА′ЦЦА (настыра′цца); -ю-ся, -еш-ся: *незак. тр.* Псаваць адносіны. *Хар., Жор.* Ты, Гэ′лька, і ні ду′май, ня бу′дзя яна′ з-за цябе′ настыра′цца зь людзьмі′. *Дук.*

НАСЕ′ВАК (насе′вак) *мужч.* Насенне. Сё′лята мы агуркі′ садзі′лі сваі′м насе′ўкам. *Ляшч.*

НА′СЬКІ (на′ські) *займ.* Наш (беларускі). А мно′га ў Мі′нску не на′ськіх людзе′й? *Сяд.*

НАТРЭ′ТНЫ (натрэ′тны) *прым.* Назойлівы, надакучлівы. Це′хніка цяпе′р здо′раво спаса′я. Гэ′тако цяпе′р натрэ′тно ле′то было′, запо′зьняно, і ўсё прыбра′лі — ба′бы ле′там гуля′лі. *Сав.*

НАЎБО′ЧУ (наўбо′чу) *прысл.* Збоку. Што ш ты, Я′начка, се′ла наўбо′чу? Патсо′вайся. *Сав.*

НАЎРЭ′ЦЦА (наўрэ′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Напаткацца. Ду′мала, ба′бачкі, ні дайду′— така′я це′мінь. До′бра, што хло′пец Гэ′льчын наўрэ′ўся, дык батарэ′йкай сьвяці′ў. *Сл.*

НАЎСЯГДЫ′ (наўсягды′) *прысл.* Назаўсёды. Наўсягды′ засто′ўся тут жыць, дык і е′хаў сюды′ с такі′м намярэ′ньнем. *Сяд.*

НАХАПУ′ (нахапу′) *прысл.* На скорую руку. Яна′ ве′чна нахапу′ ўсё ро′біць, бы′ццам ча′су не хапа′е. *Касц.*

НАЦЕРАБІ′ЦЦА (нацярабі′цца), -блю-ся, -іш-ся; *зак. тр., перан.* Наесціся, добра пад'есці. Спача′тку до′бра нацярабі′ся, а по′тым і ап пра′цы ду′май, больш зро′біш. *Сак.*

НАЦУ′БІЦЬ (нацу′біць), -блю, -іш; *зак. тр.* Накласці многа чаго-небудзь. Во нацу′біла по′сьцілку, што ле′дзьве пане′сла. *Цял.*

НАЧЛЯГАВА′ЦЬ (начлягава′ць), -гую, -гуеш; *незак. тр.* Пасвіць коні ноччу. Начле′жнікі так с ко′ньмі і начлягу′юць у по′лі, і я калі′сь е′зьдзіў, ды стары′ ўжо. *Кальч.*

НАШАТЭ′РЫЦЦА (нашатэ′рыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Надзьмуцца. Чуць што скажы′ яму′ ні так, дык адра′зу нашатэ′рыцца. *В. В.*

НАШНІ′ЦА (нашні′ца) *жан., бат.* Паўночнік. Дзяце′й, які′я но′ччу ні сьпяць, купа′юць у нашні′цах, па′руць. *Папл.*

НЕДАТЫ′КА (нідаты′ка) *жан.* Незачэпа. Нідаты′ка гэ′дакая нашла′ся. *Ляхі.*

НЕДАЛЭ′НГАВАТЫ, (нідалэ′нгаваты) *прым.* Нязграбны, няўдалы. У нас падла′сянько, чо′рнянько, ры′жанько, тры жо′ўцянькія, адно′ страка′цянько, адно′ крыво′ё, нідалэ′нгавато не′ко, но′гі атстаўля′е, кале′чка не′ка — во ко′лькі кураня′так. *Сав.*

НЕЗАПАМІНА′ЙКА (незапаміна′йка) *жан.* Незабудка. Нарва′ўшы незапаміна′йкаў, палажы′ць у тале′рку з вадо′й, і яны′ бу′дуць расьці′. *Варн.*

НЕ′КАЛІСЬ (не′калісь) *прысл.* Некалі. Не′калісь тут былі′ непрахо′дныя лясы′, так мой дзед яшчэ′ гавары′ў. *Верх.*

НЕ′МАЧ (не′мач) *жан.* Хвароба. *Дук, Хар., Жор., Кам., Сак., Кухц.* Вот га′дасьць гэ′та, нія′кай не′мачы на яго′ німа′. *Цял.*

НЕ′СМАК (не′смак) *мужч.* Нясмачнае што. Мару′ся палучы′ла мно′го карто′флі, я ўзяла′ ў яе ко′шычак, папро′бувала, то й ні е′ла. Ні разва′рваяцца, адна′ вада′, не′смак, аддала′ сьвіня′м. *Сав.*

НЕЎМІРУ′ШЧЫ (няўміру′шчы) *дзеепрым.* Неўміручы. Ёсьць такі′я кве′ткі няўміру′шчыя — бясьсьме′ртнікі заву′цца. *Дук.*

НЕ′ШКА (не′шка) *жан.* Чырвоная шурпатая буйная бульба. А мне дык не′шка на ўкус больш нра′віцца, чым бе′лая. *Сл.*

НЕК (нек) *прысл.* Неяк. Нек пае′хала я да сваі′х у Узду на гэ′тых днях. *Сак.*

НЕМАГУ′ШЧЫ (німагу′шчы) *дзеепрым.* Слабы. *Кам., Сак., Кухц.* Ён німагу′шчы, ні хо′дзіць на рабо′ту. І я ўжо ні магу′. *Цял.*

НІБЯДЫ′ (нібяды′) *прысл.* Добра.— Была′ ў бальні′цы? Як жа здаро′ўе ма′ці?— Нібяды′, ху′тка і дадо′му вы′пішуць. *Касц.*

НІГО′Д (ніго′т) *прысл.* Ніколі, ні адзін год. Така′я ўжо дрэ′нная мо′рква сё′лета ў гаро′дзе, ніго′т тако′й ні было′. *В. В.*

НІГО′ДНЫ (ніго′дны) *займ.* Ніводзін. Ніго′дны чалаве′к цяпе′р дарэ′мна працава′ць ні бу′дзя. *В. В.*

НІШТО′ (нішто′) *займ.* Нічога. Пайшла′ ў магазі′н і ні ўзяла′ там нішто′. *В. В.*

НО′ЧЧЫ (но′ччы) *прысл.* Ноччу. Но′ччы быў на′тта мо′цны маро′с, чуць жывы′ аста′ўся, паку′ль да ахто′буса дабра′ўся. *Сяд.*

НО′ШЫ (но′шы) *толькі ў мн.* Насілкі. А тады′ бяро′м хво′рага на но′шы і нясё′м. *Вішн.*

НУЛЕ′ (нуле′) *сцвярджальная часціца.* Але. Нуле′, гэ′та ш трэ′ба яму′ забі′цца. *Ляхі.*

НУЛІ′ (нулі′) *Гл.* нуле′. Нулі, я по′мню, што гэ′такія былі′ саро′чкі. *Рат.*

НУ′РАЧКА (ну′рачка) *жан.* Невялікі кавалак хлеба. Прынясі′ хоць ну′рачку хле′ба, я ш е′сьці хачу′. *В. В.*

НУТРО′НЫ (нутро′ны) *прым.* Унутраны. На яго′ тва′ры віда′ць нутро′нае пракана′ньне ў сваё′й здо′льнасці. *Мядз.*

НЫ′ГАЦЬ (ны′гаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Есці спяшаючыся, не сеўшы за стол. Ны′гае, ны′гае, не зна′е, за што пе′ршае ўзя′цца — за хлеп ці агуро′к. Сеў бы, пад′е′ў і пайшо′ў. Усё′ ро′ўна скарэ′й не бу′дзе. *Уз.*

НЭ′НДЗЛЫ (нэ′ндзлы) *прым.* Плаксівы. Ой, нэ′ндзлае дзіця′, ве′чна яму′ чаго′-не′будзь не хапа′е. *Алях.*

НЮ′ХМАРКА (ню′хмарка) *жан., зневаж.* Нос. Ню′хмарку ўсю чы′сто разьбі′лі, кроў так і йдзе. *Алях.*

НЯБО′ГА (нябо′га) *жан.* Пляменніца. *Цял., Кам., Хар., Жор.* Да нас зо′ўтра пры′дзя мая′ нябо′га. *Дук.*

НЯБО′Ж (нябо′ш) *мужч.* Пляменнік. Мой нябо′ш сё′лята канча′я дзе′сяць кла′саў. *Дук.*

НЯВЫ′ВАЛКА (нявы′валка) *мужч., неадабр.* Абыякавы да ўсяго чалавек. Ці ён, пра′ўда, такі′ нявы′валка, ці то′лькі прытвара′ецца? *Малм.*

НЯГЕ′ГЛІК (няге′глік) *мужч., лаянк.* Чалавек, які нічога не ўмее рабіць. Ах ты няге′глік, нічо′га сам зрабі′ць ня мо′жыш. *Рат.*

НЯГЕ′ГЛЫ (няге′глы) *прым.* Кволы. Яе′ хло′пец не′кі няге′глы. *Цял.*

НЯГЕ′ГА (няге′га) *агульн.* Чалавек слабага здароўя. Мужы′к мой такі′ ўжо няге′га, ле′дзьве ліпе′е. *Верх.*

НЯПЭ′ЎНЫ (няпэ′ўны) *прым.* Недабраякаснае насенне. Насе′ньне гурко′ў папа′лася няпэ′ўнае, зусі′м не прарасло′. *В. В.*

НЯМА′ШЧЫКА (няма′шчыка) *безасаб.* Няма. Нямашчыка спако′ю мне, зноў не′йдзя начава′ў мой хло′пец, а не гаво′ра дзе. *Сяд.*

НЯЎДА′ЛЯ (няўда′ля) *агульн., зневаж.* Неакуратны чалавек. Ну й няўда′ля ш, дзе ні сту′піць — не′шта зло′міць. *Клет.*

НЯЎЛО′МАК (няўло′мак) *мужч.* Здаровы чалавек, які прыкідваецца слабым. Ды й ты ш няўло′мак, мо′жаш прыне′сьці но′шкі дзьве се′на. *Дук.*

НЯХО′ТА (няхо′та) *жан.* Неахвота. *Пяр.* Тако′е ш хлябаці′ньне на ву′ліцы, што й выхо′дзіць няхо′та. *Клет.*

## О

О′БРАЗЬ (о′брась) *жан., зборн.* Паабразанае мяса, кусочкі такога мяса. Зайду′ ў магазі′н, мя′со прадаю′ць, о′брась называ′яцца. У о′бразі ест пле′вы, але′ папада′яцца і харо′шо мя′ско, пірашкі′ мо′жно зрабі′ць, катле′ты. *Сав.*

ОТО′ (ото′) *прысл.* Зараз. Я ото′ пайду′ на рабо′ту, то′лькі ха′ту тро′хі падмяту′. *Смал.*

## П

ПАБА′ВІЦЦА (паба′віцца), -ўлю-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Пабыць, пасядзець. Дзе′вачкі, паба′ўцяся каля′ нас, стары′х, мо′жа што-не′буць ціка′вая раска′жам. *В. В.*

ПАБУНТАВА′ЦЬ (пабунтава′ць), -тую, -туеш; *зак. тр.* Зблытаць. Во, цё′тачка, я вас пабунтава′ла з Мары′ляй. *В. В.*

ПАБЫ′ЦЦА (пабы′цца), -ду-ся, -дзеш-ся; *зак. тр.* Пабыць. Хай цяпе′р вайны′ не бу′дзе, пабы′лíся і ў ле′се, і ў скле′пах, хай жа бу′дзе ўсё до′бра. *Вішн.*

ПАБЭ′РЛАЦЬ (пабэ′рлаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Узараць. Пабэ′рлалі гэ′тае бало′та тут у нас і нічо′га до′брага не атрыма′лася. *Сак.*

ПАВЕ′СНА (паве′сна) *жан.* Павесма. Лён патрапа′лі, у паве′сны павяза′лі. *Мільчы.*

ПАВІТУ′ХА (павіту′ха) *жан. Гл.* вітушка. Каля′ вакна′ вунь у мяне′ павіту′ха расьце′ць, дачка′ пасадзі′ла. *Шут.*

ПАВЫПІХА′ЦЬ (павыпіха′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Павыдаваць замуж. У нас анна′ жэ′ншчына ме′ла тры дачкі′, усе′ тры ўзро′слыя То, вы зна′яце, мянці′ла языко′м і ні сьціха′ла: «Гэ′та ў мяне′ за′леж, ні′як ні павыпіха′ю». А тады′ пашці′ на анны′м гадзе′ ўсіх траі′х і вы′дала за′муш. *Бялар.*

ПАГАТО′Ў (пагато′ў) *пабочнае слова.* Напэўна. О, Іва′н, пагато′ў, ні пае′дзя на торп. *Цял.*

ПАГЛЯ′Д (пагля′т) *мужч.* Выгляд. Зь дзевяцьсо′т шасто′га го′да, а на пагля′т як кавале′р: зу′бы ўсе ро′ўнянькія, адзі′н у адзі′н, кі′нуў куры′ць, тоў′сты зрабі′ўся, харо′шы. *Сав.*

ПАГО′Н (паго′н) *мужч.* 1. Паша. Прыдзі′ця тро′хі пазьне′й па малако′. Каро′ўкі на паго′ні бу′дуць, так часо′ў да дзевяці′. *В. В.* 2. Выган. Малы′ быў, а рабо′та была′, ганя′ў сьвіне′й на паго′н. *В. В.*

ПА-ДА′ЎНАМУ (па-да′ўнаму) *прысл.* Па-даўнейшаму. Па-да′ўнаму Навасё′лкі і вё′ска заве′цца. *Рат.*

ПА′ДАЦЬ (па′даць) *незак. тр.* Лезці (пра валасы). Валасы′ ў мяне′ па′даць ста′лі, і што рабі′ць — ні зна′ю.

Муштрава′ла іх па-ро′знаму, начо′с дзё′ргала, вот яны′ й па′даюць. *Бялар.*

ПАДБАРО′ДАВІЧ (падбаро′давіч) *мужч.* Падбарадак. — Ну як жывём?— До′бро.— Каб ні до′бро, то ні было′ п падбаро′давіча, ня вы′рас бы падбаро′давіч. *Сав.*

ПАДВЕ′Й (падве′й) *мужч.* Ліха, бяда. Не дава′й мало′му запа′лкі — падве′й зда′рыцца. *Кап.*

ПАДВЯРНУ′ЦЬ (падвярну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Перавярнуць. Ду′мала, што се′на пасушу′ ды й канюшы′ну падвярну′, адно′ дошч улупі′ў. *В. В.*

ПАДЗЯ′КУЙ (падзя′куй) *мужч.* Падзяка, удзячнасць. Ці ты до′бра рабі′, ці ты дрэ′нна, адзін падзя′куй. Вот ат таго′ й ру′кі ні ўзьніма′ліся. *Бялар.*

ПАДДЖЫ′ГНУЦЬ (падджы′гнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Падскочыць. Кот вунь як высо′ка падджы′гнуў, каб даста′ць му′ху з вакна′. *Калод.*

ПАДКА′РНІ (патка′рні) *толькі ў мн.* Маленькія саначкі, якія прычэпліваюцца да санак пры перавозцы бярвення. Патка′рні прычапля′юцца к са′нкам. *Рат.*

ПАДКАЧА′ЦЬ (паткача′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Падгадаваць, падрасціць. Парася′ куплю′, паткача′ю яго′ да вясны′, а вясно′ю куплю′ друго′га. *Сак.*

ПАДЛЁ′ГКА (падлё′хка) *жан.* Палёгка, дапамога. Дзі′ва што, падлё′хка ёсьць, дык ру′кі ні баля′ць. *В. В.*

ПАДМУРО′ЎКА (падмуро′ўка) *жан.* Падмурак. На′ша ха′та ні′ская, але′ падмуро′ўка вялі′кая, дак і ха′та здае′цца вялі′каю. *Цял.*

ПАДНЯ′ЦЦА (падня′цца), -му-ся, -меш-ся; *зак. тр., перан.* Падрасці. Я тро′шкі падня′ўся з малы′х яшчэ′ да а′рміі ды й пача′ў дом дабудо′ўваць. *В. В.*

ПАДНЯ′ЦЬ (падня′ць), -му, -меш; *зак. тр., перан.* Пабудзіць. Яна′ ж яго′ ні пады′мя, як ён засьне′ цяпе′р. *В. В.*

ПАДПАДА′ЦЬ (патпада′ць) *незак. тр.* Прыставаць (аб хваробе). Зна′еце, дзе′ткі, ат стра′ху ўся′кія хваро′бы патпада′юць. *Гіл.*

ПАДПА′САВІЧ (патпа′савіч′) *мужч.* Падпасак. Лажы′ся спаць, сыно′к, ты ж зо′ўтра ў падпа′савічы по′йдзеш. *Тур.*

ПАДПІРА′ЦЦА (патпіра′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр., перан.* Падлізвацца. Чаго′ мне да яе′ патпіра′цца? На чо′рта яна′ мне здала′ся. *Дук.*

ПАДРУЧА′ЦЦА (падруча′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Згаджацца. Нашто′ яму′ было′ падруча′цца гэ′тага гумна′ пільнава′ць? *Сав.*

ПАДРЫЛЯВА′ЦЬ (падрылява′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Хутка пайсці. Ой, хло′пцы, й шпа′рка ж дзе′ўкі падрылява′лі на та′нцы. *В. В.*

ПАДСНАВА′ЦЦА (патснава′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Паддобрыцца. Яна′ як патснуе′цца да яго′, і той усе′ гро′шы адда′сьць. *Алях.*

ПАДСО′СКА (патсо′ска) *жан.* Падсочка. Патсо′ску дзе′лаюць с хво′і, у смаля′рні по′тым го′нюць смалу′. *Бялар.*

ПАДХВА′ТНІК (патхва′тнік) *мужч.* Харыст. Патхва′тнікі хо′раша пяю′ць, усе′ так ця′гнуць. *Тур.*

ПАДХУ′ПІЦЦА (патху′піцца), -плю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Падахвоціцца. Дзе′ўкі як патху′піліся, дак за дзень паўтары′ но′рмы апало′лі бурако′ў. *Дук.*

ПАДЧАЧУ′РКА (патчачу′рка) *жан.* Дзяўчына-падростак. І пе′р′я дзе′ўкам на паду′шкі ёсьць — вун расту′ць жа ў мяне′ патчачу′ркі, аш тры. *Акал.*

ПАДУ′ЧКА (паду′чка) *жан.* Эпілепсія. Куды′ ты кі′даяш, кап цябе′ паду′чка кі′дала. *Дук.*

ПАДХАХУ′ЛІЦЦА (патхаху′ліцца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Прыбрацца. Трэ′ба патхаху′ліцца, пайду′ на та′нцы. *Ляхі.*

ПАДЫМА′ЦЬ (падыма′ць) (лён), -ю, -еш; *незак. тр.* Сабіраць лён са сцелішча і вязаць яго ў снапы. Брыгадзі′р каза′ў, што за′ўтра по′йдзем лён падыма′ць. А калі′ дошч? *Вар.*

ПАДЭ′РВЫ (падэ′рвы) *толькі ў мн.* Смех. Ну й падэ′рвы зь яе′, сьмяхо′цьце ды й го′ддзя. *Дук.*

ПАДЫХА′Е (падыха′я) (ве′цер) *незак. тр.* Дзьме. Такі′ ш хало′дны ве′цяр падыха′е, што гуркі′ ні расту′ць. *В. В.*

ПАЖДА′ЦЬ (пажда′ць), -у-, -джэш; *незак. тр.* Пачакаць. Пажджы′ мяне′, по′йдам ра′зам. *Дук.*

ПАЗАЁ′ЛАЧЧУ (пазаё′лаччу) *прысл.* Ззаду за ёлкамі. Ця′шка бу′дзе дабра′цца вам да Асі′паўшчыны (назва чыгуначнага паўстанка), пры пуці′ даро′гі няма, замяло′. Мо′жа хіба′ пазаё′лаччу там машы′на якая′ працерабі′ла даро′гу. *Сав.*

ПАЗАЙМА′НЫ (пазайма′ны) *дзеепрым.* Заняты. Іх тут по′ўна было′, парціза′н, усе′ лясы′ пазайма′ны былі′ і′мі. *Ніз.*

ПАЗАЛЕ′ТАСЬ (пазале′тась) *прысл.* Два гады назад. Пазале′тась урадлі′вы быў гот на я′гады. *Дук.*

ПАЗА′ЎТРА (пазо′ўтра) *прысл.* Паслязаўтра. Пазо′ўтра мушчы′ны пае′дуць па дро′ва. *Дук.*

ПАЗАЎЧО′РА (пазаўчо′ра) *прысл.* Два дні назад. Пазаўчо′ра была′ вялі′кая сьпяко′та. *Дук.*

ПАЗІРА′ДЛА (пазіра′дла) *ніяк.* Люстэрка. Прые′хала з андуля′цыяй на галаве′, дык усё′ ў пазіра′дла глядзі′цца з са′май ра′ніцы. *Ос.*

ПАЗНА′ЦЦА (пазна′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Пазнаёміцца. А То′ля пазно′ўся з не′йкай маладо′й, пасьля′ шко′лы, дзяўчы′нкай і пажані′ліся. *Гіл.*

ПАЗНА′ЦЬ (пазна′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Разабраць, разумець. Як вы′п'я, дак я ня пазна′ю, што ён гаво′рыць. *Цял.*

ПАЗУРЫ′ (пазурэ′) *адз.* пазур. Ногці. І што за дурні′ца, нама′зала не′йкай га′дасьцю чырво′най пазурэ′, што га′тка глядзе′ць. *В. В.*

ПАЗЫГАВА′ЦЬ (пазыгава′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Ісці шпаркім крокам. Дзе на′шы ба′бы пазыгава′лі? А во, аш ву′ньдзяка ўжо, то′лькі спаньні′цы матну′ліся. Даганя′й цяпе′р. *Бялар.*

ПА′ЙДА (па′йда) *жан.* Пляткарка. Таку′ю па′йду, як Гэ′ля Краўцо′ва, нідзе′ ня зно′йдзяш. *Суд.*

ПАЙСЦІ′ Ў РОСТ *незак. тр.* 1. Шпарка расці. Ну і пайшлі′ мае′ бураке′ ў рост. *В. В.* 2. Пайсці, *зак. тр., перан.* Расці, пусціць косы ў разоры. Гарбузы′ пайшлі′ ў разо′ру. *В. В.* 3. Пайсці, -ду, -дзеш; *зак. тр., перан.* Кінуць каго-небудзь. Чаму′ ты пайшо′ў ад сваі′х дзяце′й і жо′нкі, аду′майся. *В. В.*

ПАКАВА′ЦЬ (пакава′ць), -ую, -еш; *незак. тр., перан.* Запасіць, складаць (грошы). Жылі′ до′бро, лі′шнія гро′шы былі′, яна′ ўсё пакава′ла на по′шту. І ма′сло, і я′йкі, са′ло вазі′ла про′дала, і ўсё пакава′ла на по′шту, і ўсё пакава′ла. А во вайна′ ў чаты′рнаццатум гаду′. І сяго′ньня ты′я гро′шы там! *Сав.*

ПЛЯСКА′Ч (пляска′ч) *мужч.* Пранік. Пляскачо′м абіва′ім лён. *Вар.*

ПА′КАСНЫ (па′касны) *прым.* Нядобры чалавек. Анто′сь такі′ па′касны, так і стара′яцца, кап каму′ шко′ду зрабі′ць. *Цял.*

ПАКІШЭ′ННІК (пакішэ′ньнік) *мужч.* Ашуканец. Я і ня ве′даю, чаму′ пакішэ′ньнікам заву′ць. Прывы′клі так ужо′. *Тур.*

ПАКО′МЧАНЫ (пако′мчаны) *дзеепрым.* Пакамечаны. Уй, пако′мчаны які′ ўціра′ньнік, не магла′ другі′ які′ даць! *Рат.*

ПАКО′С (пако′с) *мужч.* Пракос. Як ко′сюць се′на, дак раткі′— гэ′та пако′сы. *Рат.*

ПАКО′ПІШЧА (пако′пішча) *ніяк., мн. няма*. Месца, дзе стаялі копы сена. Трэ′ба ісьці′ пако′пішчы падграба′ць. *В. В.*

ПАКРЭ′ПНУЦЬ (пакрэ′пнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Памерзнуць. Бьва′ла, як іду′ з Узды′ дадому, а маро′с, маро′с! І ру′кі і но′гі пакрэ′пнуць. *Кухц.*

ПАЛАЖЫ′ЦЬ (палажы′ць), -у, -ыш; *зак. тр., перан.* Забіць. Палажы′лі тады′ на′шы не′мцаў про′цьму. *В. В.*

ПАЛА′ТКІ (пала′ткі) *толькі ў мн.* Вяроўкі, на якіх носяць сена. Пабра′лі пала′ткі ды пайшлі′ канюшы′ну ў па′на кра′сьці′. *Жор.*

ПА′ЛІКІ (па′лікі) *толькі ў мн.* Гестка. Не′калі шы′лі саро′чкі іс па′лікамі, па′лікі ўшыва′ліся, саро′чка забіра′лася і прышыва′лася к па′лікам. *Рат.*

ПАЛІВА′НЫ (паліва′ны) *прым.* Глазураваны, пакрыты глазураю. *Жор., Хар., Цял., Кам., Кухц.* Збанке′ лепш купля′ць паліва′ныя, бо няпаліва′ныя мно′га малака′ ўпіту′юць. *Дук.*

ПАЛУПІ′ЦЬ (палупі′ць), -плю-, -іш; *зак. тр., перан.* Парваць. Ах ты, гі′цаль, но′выя штанэ′ палупі′ў! *Цял.*

ПАЛЭ′ПАЦЬ (палэ′паць), -ю, -еш; *зак. тр.* Палопаць. Ён палэ′паў мяне′ па плячу′ і сказа′ў: ець. *Дук.*

ПАЛЯЦЕ′ЦЬ (паляце′ць), -чу, -іш; *зак. тр., перан.* Шпарка пабегчы. Адна′ дзяўчы′на паляце′ла разо′раю, а друга′я сярэ′дзінаю. *В. В.*

ПАМАГА′ЧКА (памага′чка) *жан.* Памочніца. Во памага′чка расьце′ ў мяне′, а паку′ль я ўсё раблю′ за яе′. *Малм.*

ПА-МАЕ′МУ (па-мае′му) *прысл.* Па-мойму. Па-мае′му ні вы′шла. *Цял.*

ПАМЕ′НЕЦЬ (паме′няць), -ею, -еш; *зак. тр.* 1. Паменшацць. Каро′ва паме′няла малака′ на тры лі′тры. *Дук.* 2. Стаць меншым (ростам). Іва′н паме′няў, стоў намно′га менш, стапто′ўся, небара′ка, за 93 гады′. *Дук.*

ПАМЯСІ′ЦЬ (памясі′ць), -шу, -іш; *зак. тр., перан.* Патаптаць. З Мі′нску як папрыяжджа′юць, дык усе′ я′гады паме′сяць, усё′ бе′гаюць па ле′сі. *В. В.*

ПАНАВА′ЦЬ (панава′ць), -ную, -нуеш; *незак. тр.* Жыць у дастатку. Мая′ дачка′ вы′шла за′муш і ні жыве′ цяпе′р, а пану′я! *В. В.*

ПАНЕ′НКА (пане′нка) *жан.* Жанчына, да якой заляцаюцца. Ён і цяпе′р хо′дзіць к пане′нцы. Я сама′ ба′чыла. *Цял.*

ПАНІ′КЛІВЫ (пані′клівы) *дзеепрым.* Блізарукі. Калі′ яму′ вы′гадна, то ён стано′віцца пані′клівым, а так усё′ ба′чыць. *Вішн.*

ПАНО′ША (пано′ша) *жан.* Цяжарнасць. Я по′мню хазя′іна, што ў жо′нкі яго′ тры пано′шы былі′ блізьня′тачкі. *Бялар.*

ПАНЮ′СЯ (паню′ся) *жан., неадабр.* Пра кабету з замашкамі на раскошу, але якая ўхіляецца ад работы. А Ва′лек?! Што ён вытвара′ў! Узя′ў не′кую паню′сю, рабі′ць ні хаце′ла, з ма′ткай дрэ′нна жылі′, атсудзі′ў паўха′ты і спалі′ў. От які′ быў хазя′ін! *Сав.*

ПАНЯВУ′КА (паняву′ка) *агульн.* Чалавек нерашучы, няўпэўнены. Над другі′мі ма′е мане′ру кпіць, а як само′му што рашы′ць — паняву′ка. *Верх.*

ПА НЯДЗЕ′ЛІ (па нядзе′лі) *прысл.* Пасля нядзелі, у панядзелак ці аўторак. Калі′ ж гэ′та Мі′ша прые′дзе, абяца′ў па нядзе′лі, а няма′. *Дзяр.*

ПАПАЖЫНА′ЦЬ (папажына′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Многа жаць. Ко′лькі я лю′дзям папажына′ла жы′та, ні ве′рыцца само′й. *В. В.*

ПАПАЛАВІ′ЧЫЦЬ (папалаві′чыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Папалавініць, падзяліць папалам. Яго′ брат нажы′ў састая′нё, але′ быў бязьдзе′тны, дак усё, што меў, адказа′ў яму′. А дваю′радныя браты′ хаце′лі папалаві′чыць гэ′то бага′цё, але′ ні ўдало′сё. *Сав.*

ПАПЛАВЕ′Ц (паплаве′ц) *мужч.* Луг. На паплаўцы′ сё′лята вы′расла вялі′кая трава′, до′брая бу′дзя се′на. *В. В.*

ПАПЛЕ′ЦІНА (папле′ціна) *жан.* Тонкі прадаўгаваты кавалак дрэва. Я вось як схаплю′ папле′ціну ды як апяражу′, дак ху′ценька супако′ісься. *Дук.*

ПАПО′ТЧАВАЦЬ (папо′тчуваць), -чую, -чуеш; *зак. тр.* Пачаставаць. Дзе′ўкі, ідзе′ця, я вас папо′тчую парэ′ч-камі. *Цял.*

ПАПУ′ШЫНКА (папу′шынка) *жан.* Звязка лісцяў тытуню. Лі′сьця навяза′ла папу′шынку, хай бярэ′, калі′ трэ′ба. *Тур.*

ПАПЯКА′ЦЬ (папяка′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Напячы. Зо′ўтра хле′ба папяка′ю, хлеб на храно′вых лі′сьцях. *В. В.*

ПАПРО′СЬКА (папро′ська) *жан.* Папрашайка. Ня со′рам табе′ прасі′ць закуры′ць ко′жны рас. Вот дзе ўжо папро′ська, ве′чна ўсё про′сіш. *Дук.*

ПАР (пар) *мужч.* Папар. На пару′ ата′ўка до′брая вы′расла, от бы каро′ў сюды′ прыгна′ць. *Бялар.*

ПАРАЗБЫ′ЦЦА (паразбы′цца), -ду-ся, -дзеш-ся; *зак. тр.* Распаўнець. Жыць до′бра ста′ла, усе′ ба′бы паразбы′ліся. *Кам.*

ПАРУБЕ′НЬ (парубе′нь) *мужч.* Рубель уціскаць салому, сена на возе. У нас ка′жуць парубе′нь, і′ншы рас жэрць. А нябо′шчык Ігна′т каза′ў быва′ла: «Падай гнёт». *Бялар.*

ПАРУШО′К (парушо′к) *мужч.* Парушынка. Вынь парушо′к з во′ка, а то ве′льмі рэ′жа, глядзе′ць бо′льна. *Уз.*

ПАСАДЗІ′ЦЬ (пасадзі′ць), -джу, -дзіш; *зак. тр.* Павешаць снапы лёну ў лазні на жэрдкі, каб высах і добра цёрся. Лён паднялі′, як ён вы′ляжаўся, на ё′ўню пасадзі′лі. *Рат.*

ПАСЕ′КЧЫ (пасе′кчы), -ку, -чэш; *зак. тр., перан.* Апячы крапівой. Трэ′ба крапівы′ нарва′ць ды нагу′ пасе′кчы, кап ні бале′ла. *В. В.*

ПАСЁ′ЛКАВЕЦ (пасё′лкавец) *мужч.* Жыхар пасёлка. Сё′літа тро′хі пасё′лкаўцаў папудры′лі, вазі′ўшы се′на, а то жылі′ як у бо′га за дзьвяры′ма. Німазмо′жна, ко′лькі пыльля′ ўсю′ды. *Бялар.*

ПАСКРО′БАК (паскро′бак) *мужч.* Апошняе дзіця ў сям'і. Анто′сяў паскро′бак дагно′ў ужо′ старэ′йшага. *Дук.*

ПАСКУ′ПВАЦЬ (паску′пваць), -пую, -пуеш; *зак. тр.* Пакупаць. Загно′ў у рэ′ку ды паску′пуваў дзяце′й. *В. В.*

ПАСО′ЛЬНІК (пасо′льнік) *мужч.* Сцяблы абмалочанай фасолі. Пасо′льнік сушы′лі і ўзімо′ю рэ′залі се′чку каро′ві. *Цял.*

ПАСТРАБУ′ЧЫЦЬ (пастрабу′чыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Кінуць. Пастрабу′чыў сьне′шкай у акно′, а сам зьбех. *Кальз.*

ПАСТУ′Х (пасту′х) *мужч.* Статак. Унь на′ша каро′ва ў пасту′х пайшла′, бо до′ма се′на ўжэ ко′нчылася. *Пяр.*

ПА′СТВА (па′ства) *жан.* Паша. У нас каро′вы на па′стве хо′дзяць, там до′бра. *Малм.*

ПАСЦЕБУЛЯ′ЦЬ (пасьцебуля′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Пашыць абы-як. Трэ′ба было′ не сьпяша′цца, до′бра пашы′ць ко′фту, а то пасьцебуля′ла абы′-як. *Мач.*

ПА′СВІСТКА (па′зьвістка) *жан. Гл.* паства. Каро′вы цэ′лы дзень на па′зьвісцэ, і мы спако′йныя. *Малм.*

ПАСЬЦІ′ (пасьці′) *прысл.* Амаль. Ні два′й больш парсюку′, ён ужэ′ пасьці′ вядро′ зьеў. *Цял.*

ПА′ТАЦІТАК (па′тацітак) *мужч.* Густое рэшата для прасейвання мукі. На па′тацітак прасе′й, каб нічо′га не застало′ся. *Нал.*

ПА-ТВАЕ′МУ (па-твае′му) *прысл.* Па-твойму. Ні крычы′ ты, усё′ ро′ўна ні вы′дзя па-твае′му. *Цял.*

ПАТРАКТАВА′ЦЬ (патрактава′ць), -тую, -туеш; *зак. тр. Гл.* папотчаваць. Я сваі′х гасьце′й до′бра патрактава′ла, кры′ўдзіцца ня бу′дуць. *Цял.*

ПАТРА′ЎКА (патро′ўка) *жан.* Рэдкая страва з мукі. Мой хоць патро′ўку лю′біць. *Цял.*

ПАТРО′БАВАЦЬ (патро′баваць), -ю, -еш; *зак. тр.* Пакаштаваць. Дай ты мне сваё′й капу′сты патро′баваць. *Мядз.*

ПАТРУСІ′ЦЬ (патрусі′ць), -шу, -іш; *зак. тр.* Патрэсці, растрэсці. А ку′жаль тро′шкі патру′сіш і ро′біш кудзе′льку. *Рат.*

ПАТЦІНА′ЦЬ (патціна′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Спяваць прыпеўкі. Ма′нька што, цэ′лы дзень патціна′ць мо′жа, атку′ль сло′вы бяру′цца. *Вішн.*

ПАТЦІ′НКА (патці′нка) *жан. Гл.* браднюшка. Я не сто′лькі ве′даю патці′нак, ко′лькі Ма′нька, яна′ і сама′ ўме′е склада′ць. *Вішн.*

ПАЎДЗЁ′Н (паўдзё′н) *мужч.* Поўдня. Сё′ньня то′лька паўдзё′н на рабо′ця бу′ду, а па абе′дзі схаджу′ ў малі′ны. *Бялар.*

ПАЎМЕ′ЖАК (паўме′жак) *мужч.* Узмежак. Кмен рва′ла там ля бу′льбы, ля бе′рага, ля паўме′шку, ён такі′ буйны′. *Бялар.*

ПАЎСТА′ЦЬ (паўста′ць), -ну, -неш; *зак. тр.* Пачацца. У 1914 го′дзя паўста′ла вайна′ зь не′мцам. *Шут.*

ПАХА′ТУХА (паха′туха) *жан., лаянк.* Жанчына, якая любіць хадзіць па хатах. Яна′ гэ′дакая паха′туха, што паку′ль усе′ ха′ты ні абабяжы′ць, жы′ва ні бу′дзя. *Ляхі.*

ПАХВАЦІ′ЦЬ (пахваці′ць), -чу, -іш; *зак. тр.* Падхапіць. Бо і тады, калі′ мы малады′я былі′, то′жа ш яку′ю мо′ду пахва′цяць, дык усё′ пераве′рнуць. *Кухц.*

ПАХНЮ′ЧЫ (пахню′чы) *прым.* Пахучы. Ну і мы′ла ў цябе′ пахню′чае! У нас купі′ла? *Яз.*

ПАЦ (пац) *мужч. Гл.* бац. Пац можа ката′ загры′сьці. *Дук.*

ПАЦЯГА′НКА (пацяга′нка) *жан.* Куртка, абцягнутая матэрыяй. Гэ′тую пацяга′нку трэ′ба прада′ць, не пасьпе′ў знасі′ць, як вы′рас зь яе′. *Сл.*

ПАЦЯПЕ′НЬКА (пацяпе′нька) *жан., зневаж.* Неахайная жанчына. Вось дык пацяпе′нька ўдала′ся, што ні зро′біць, дык усё′ не так, як трэ′ба. *Пал.*

ПАЧА′СКІ (пача′скі) *толькі ў мн.* Адыходы валакна пры часанні лёну. А як чэ′шым лён, гэ′та пача′скі атхо′дзюць. *Рат.*

ПА′ЧКА (па′чка) *жан.* Пасылка. Во дак сыно′к, зноў Мары′ля па′чку ад яго′ атрыма′ла. *Яз.*

ПАЧНЮ′СІЦЦА (пачню′сіцца), -шу-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Пэцкацца. Твой сын уве′сь дзень на ву′ліцы пачню′сіцца, паклі′ч ты яго′. Мядз.

ПАЧТА′Р (пачта′р) *мужч.* Паштальён. Пачтар разно′сіць газе′ты і пі′сьма. *Дук.*

ПАЧУВА′ЦЦА (пачува′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Адчуваць. Яшчэ′ нек ґадо′ў два наза′д, дак здава′ласё, што і ніпра′ўды, што ста′расьць надыхо′дзіць, ду′мала, ні падда′мсё ста′расьці. А гэ′то ўсё. Ужо′ пачува′юся, што слабе′ю, галава′ мая′ балі′ць, сэ′рцо сла′баё. *Сав.*

ПАЧЫКІЛЯ′ЦЬ (пачыкіля′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Пайсці кульгаючы. Трэ′ба пайсьці′ праве′рыць, як Пе′ця пачыкіля′ў дамо′ў. *В. В.*

ПАЧЫ′СТКА (пачы′стка) *жан.* Высечка абазначаных меткай дрэў. Пасьля′ пачы′сткі ле′су застаю′цца то′лькі пні адны′. *В. В.*

ПАШАЛАМА′ЦІЦЦА (пашалама′ціцца), -чу-ся, -ціш-ся; *незак. тр.* Заблудзіць. Пашалама′ціліся ў грыбо′х ды й вы′йсьці зь ле′су ні мо′жам. *В. В.*

ПАШЧЭ′МАК (пашчэ′мак) *мужч.* Сківіца. Так жа зу′бы баля′ць, што да пашчэ′мак ні дакрану′цца. *Хож.*

ПАШЧЭ′НАК (пашчэ′нак). *Гл.* пашчэмак. Ён быў ра′няны ў галаву′, дак пашчэ′нак скрыві′ла. *Цял.*

ПАШЫ′ЦЬ ПАШВО′Й. Пашыць рукамі. Пашы′ла пашво′й спаньні′цу. *Рат.*

ПАШЫ′ЦЬ У ПО′ЛКІ. З цэлых палотнішчаў. Мо′жна пашы′ць спаньні′цу ў по′лкі. *Рат.*

ПЕРАБІ′ЦЬ (перабі′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Паразбіваць грудкі ці камякі зямлі, як робіш грады. Папе′радзі перабі′ла, паскарадзі′ла і граду′ зро′біла. *Рат.*

ПЕРАГАВАРЫ′ЦЦА (перагавары′цца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* 1. Паспрачацца, палаяцца. Серафі′на ня хо′дзіць на вячо′ркі да іх. Не′як шчэ як перабіра′ліся сюды′ да перагавары′ліся за я′блыню, дак і цяпе′р ня хо′дзяць адно′ да аднаго′. *Сав.* 2. Дамовіцца. Мы ў ха′ці сядзі′м, а яны′ вы′йшлі на ву′ліцу, перагавары′ліся аб не′чым і зноў прыйшлі′ к нам. *В. В.*

ПЕРАГАВО′РШЧЫК (перагаво′ршчык) *мужч.* Перакладчык. До′бра, што перагаво′ршчык нарво′ўся, а так бы не′мяц мяне′ прыбі′ў чы′ста. *В. В.*

ПЕРАДО′К (перадо′к) *мужч.* Невялікая лаўка. Пасадзі′, Іва′н, сусе′да на перадо′к, чаго′ стаі′ш? *Кап.*

ПЕРАКІ′НУЦЦА (перакі′нуцца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр., перан.* Памерці. До′бра, што ма′тка ёсьць, а кап перакі′нулася? *В. В.*

ПЕРАЛЁ′Т (пералё′т) *мужч. Гл.* боцікі. Пералё′т па бару′. Гэ′та зе′льля ат пярэ′палаху, яго′ па′раць і п'юць. *Малм.*

ПЕРАРО′ДА (пераро′да) *жан.* Пакаленне. Як друга′я пераро′да по′йдзя, хто бу′дзя глядзе′ць за ты′мі па′мятнікамі, хто іх бу′дзя паткра′шваць да апраўля′ць? *Сав.*

ПЕРАСПІКУЛЬНУ′ЦЬ (пераспікульну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Даць звыш нормы. Перасьпікульну′ла, ма′быць, табе′ гэ′тага пе′рца. *Сак.*

ПЕРАСТАРЭ′КАВАЦЬ (перастарэ′каваць), -аю, -аеш; *незак. тр.* Пярэчыць. Не перастарэ′кавала бы ты, а за дзе′ла ўзяла′ся. *Нар.*

ПЕРАТО′ЧА (пярато′ча) *жан.* Месца ў гумне, дзе стаяла малатарня. У пярато′чы стая′ла малаці′ўка. *Цял.*

ПЕ′РЫЦЬ (дождж) *незак. тр.* Ісці. Такі′ ш дошч пе′рыць на на′шу ско′шанаю канюшы′ну. *В. В.*

ПЕ′ТАВАЦЦА (пе′туваца), -тую-ся, -туеш-ся; *незак. тр.* Многа цяжка працаваць. Ня бяры′ ты е′тулькі лё′ну, бо бу′дзяш пе′туваца цэ′лая ле′та. *Дук.*

ПЕРАЛО′М (перало′м) *мужч.* Рэзкая змена ў ходзе чаго-небудзь, неабходнасць мяняць уклад жыцця, звычкі. Зяць ха′ту хо′чуць купіць у Сьве′ржні, то і дзіця′ бу′дзе зь і′мі — сем год дзе′ўчыне, по′йдзе ў шко′лу, перало′му дзіця′ці не бу′дзе, там дзе′сяць клас у Сьве′ржні. *Сав.*

ПЕРАПА′СТА (перапа′ста) *жан.* Адпасванне чаргі. Уста′нь ты, кабе′тка, трэ′ба патхо′дзіцца, да паганю′ я каро′ву на перапа′сту. *Сав.*

ПЕРАХО′ДКА (перахо′тка) *жан.* Пераходная з'ява, заражэнне. З гэ′тымі го′рламі не′кая перахо′тка. Сын ска′рдзіцца на го′рло, і я карто′флі капа′ла, пачува′юся, што зава′львае, што зава′лкі гэ′тыя заклада′е. *Саз.*

ПЕ′СТА (пе′ста) *жан., толькі ў адз.* Распешчанае дзіця. Мая′ ш така′я ўжэ пе′ста, з рук і ні зла′зіць. *Цял.*

ПЕХАДРА′ЛА (пехадра′ла) *прысл., іран.* Пеша, хуткім крокам. Мы з Ру′дзянска пехадра′лам прысаката′лі. *Дук.*

ПЕ′ЧЫВА (пе′чыва) *ніяк., толькі ў адз.* 1. Усё, што выпякаецца з мукі. Пірагe′, хлеп, суха′рыкі — усё′ гэ′та пе′чывам заве′цца. *Дук.* 2. Адна выпечка хлеба. За два дні дзе′ці цэ′лая пе′чыва хле′ба зье′лі. *Цял.*

ПІ′ВА (пі′ва) *ніяк.* Гулянне ў вёсцы. Хутка ў Худаўца′х, гэ′та ў нас, зна′чыцца, пі′ва бу′дзя. *Худ.*

ПІГУ′ЛКА (пігу′лка) *жан.* Гузік. І дзе цябе′ чэ′рці ўне′сьлі, што павыдзіра′ў пігу′лкі зь мя′сам. *Мядз.*

ПІ′ЖМА (пі′жма) *прысл.* Пішчом. Пі′жма ле′зя. *Рат.*

ПІЛІ′КАЦЬ (пілі′каць), -ю, -еш; *незак. тр.* 1. Гаварыць незразумела. Пілі′кая ўсё не′шта, а што — і сам ні ве′дая. *В. В.* 2. Гаварыць адно і тое ж. Ты ко′жны дзень пілі′каяш адно′ і то′я, упы′нку на цябе′ няма′. *В. В.*

ПІ′ЛІЦЬ (пі′ліць), -ю, -іш; *незак. тр.* Ездзіць. Пі′ліць тут трэ′ба пама′лу, бо прае′хаць ця′шка. *Вер.*

ПІЛЯНА′ (піляна′) *жан.* Падол. Калі′ няма′ ўжо куды′, дык бу′дзеш сабіра′ць у піляну′. *Даўж.*

ПІ′ПКА (пі′пка) *жан.* Пепінка. А ко′лькі на пі′пках было′ цьве′ту ле′тась! *В. В.*

ПІСКЛЯ′ (піскля′) *жан.* Піскуха. Піскля′ не′кая, а ні дзіця′, як завядзе′, дак і пішчы′ць прас цэ′лы дзень. *Цял.*

ПІСЯ′Г (піся′х) *мужч.* Крывавая паласа ад удараў папругай. Паліца′й так хло′пца зрэ′заў вяро′ўкаю, што ўсё це′ла ў пісяго′х. *Цял.*

ПІТА′ (піта′) *жан.* Пітво. Дзе′ці на ра′ніцу ала′дак нае′ліся, ні грыпко′ў, на′ват ры′пкі ні захаце′лі. Нае′ліся до′бро, ні піты′, ні яды′ ні хо′чуць. *Сав.*

ПІЎНІ′ЦА (піўні′ца) *жан.* Склеп. До′бра ў вё′сцы мець піўні′цу, ле′там там хо′ладна для праду′ктаў. *В. В.*

ПІ′ХЦЕЛЬ (пі′хцель) *мужч.* Кашэль для носкі сена. Ба′цька пі′хцель на пле′чы ды хутчэ′й упе′рат пайшо′ў. *Мядз.*

ПІШЧАНІ′ЦАЙ (пішчані′цай) *прысл. Гл.* пі′жма. Але′ ш гэ′тыя дзе′ці ле′зуць пішчані′цай. *Самахв.*

ПЛАКЛІ′ВЫ (плаклі′вы) *прым.* Плаксівы. Тако′е дзіця′ плаклі′вае, уве′сь час пішчы′ць не′шта, му′сіць, нездаро′віцца. *Вішн.*

ПЛАМЕ′ТА (пламе′та) *прысл.* Вельмі многа. Як навалі′лася гэ′тая пламе′та, дак усё′ разабралі′. *Ляхі.*

ПЛА′ЦЦЕ (пла′цьця) *ніяк.* Бялізна. *Цял., Кам., Кухц., Сак., Хар., Жор.* Я зо′ўтра бу′ду пла′цьця паласка′ць, сё′ньня ўжо ня ўсьпе′ю, бо шчэ мыць по′ўна. *Дук.*

ПЛАСЦІ′ЦЬ (пласьці′ць), -шчу, -іш; *незак. тр.* Пластаваць. Пласьці′ць се′на, як ў ко′пы кла′сьці. *Рат.*

ПЛЕ′МЯ (пле′мя) *ніяк.* Радство, родныя. Быў зрабі′ў трэ′баванё, але′ ні пусьці′лі іх сюды′. У мілі′цыі сказа′лі, што нія′кага пле′мя яму′ тут няма′, і ні пусьці′лі зя′ця Юзэ′фінага. *Сав.*

ПЛУ′ХА (плу′ха) *жан.* Палена, якое па даўжыні блізкае да памераў дроў для атаплення, але больш тоўстае. Хай бы ты плу′хі пакало′ў, а то валя′юцца, марну′юцца, пако′латымі мо′жна палі′ць, як прасо′хнуць. *Уз.*

ПЛЮ′СКА (плю′ска) *жан.* Клоп. Глянь, яка′я вялі′зная плю′ска паўзе′! Атку′ль яна′ то′лькі ўзяла′ся! *Цв.*

ПЛЮСКА′ЎКА (плюска′ўка) *жан.* Кнопка. Вазьмі′ плюска′ўку і прыжмі′ вунь да гэ′най сьцяны′. *Дайж.*

ПЛЮ′ЦЫ (плю′цы) *толькі ў мн.* Лёгкія. Пайдзі′ да ўрача′, то ён ня зна′е, што гэ′та плю′цы, а лё′хкія — то зна′е. *Кальч.*

ПЛЯ′ЙСТРАЧКА (пля′йстрачка) *жан., памянш. ад* пляйстра. Пласт, слой. Быва′ло, гавя′дзіну купля′яш, пля′йстрачка жы′ру харо′шага жо′ўцянькаго, а гэ′то го′лаё мя′со, ні ка′плі жы′ру. *Сав.*

ПЛЯСАВА′ЦЬ (плясава′ць), -сую, -суеш; *незак. тр.* Скакаць (танцы). Трэ′ба плясава′ць, калі′ на танцу′лькі прышо′ў. *Тур.*

ПЛЯ′СНУЦЬ (пля′снуць). *Гл.* ляснуць. Адыйдзі′, бо за′раз як пля′сну, то ни абра′дуешся. *Войр.*

ПО′ЗНАЧ (по′знач) *жан.* Позні час. І куды′ вы ў таку′ю по′знач по′йдзеце, начу′йце ў нас. *Люц.*

ПО′КАЗКА (по′каска) *жан.* Прыказка. Як по′казка ка′жа «Хто по′зна хо′дзіць — той сам сабе′ шко′дзіць». *Уз.*

ПО′КУЛЬ (по′куль) *прысл.* Пакуль. По′куль мы сабра′ліся, дак і кірма′ш раз'е′хаўся. *Цял.*

ПО′ЛАХ (по′лах) *мужч.* Страх, спалох. Мне такі′ вялі′кі по′лах быў, што не мог зру′хацца з ме′сца. *Кальч.*

ПО′ПЕЛ (по′пял) *мужч.* Папялішча. Застала′ся на по′пялі адна′ з дзі′цям, усё′ сама′ забудава′ла. *В. В.*

ПО′ПЫРСАЧКА (по′пырсачка) *жан., памянш. ад* попырска. Як страсяне′ вуша′мі, дак по′пырсачкі ляця′ць. Усю′ мяне′ зага′дзіў парсю′к. *Сав.*

ПО′ПЫРСКА (по′пырска) *жан.* Дробная кропелька чаго-небудзь вадкага. Не′што мой кабано′к не ста′ў е′сьці, каб ні захварэ′ў хаця′. То ўлі′ю, хоп-хоп, адно′ по′пыркі ляця′ць, а гэ′то цэ′дзіць праз зу′бы. *Сав.*

ПО′СІК (по′сік) *мужч.* Мачавы пузыр у жывёлы. *Дук., Хар., Жор., Кам., Сак., Кухц.* Як зако′лям парсюка′, дак дзе′ці надзьму′ць по′сік і гуля′юць. *Цял.*

ПО′СІЛКА (по′сілка) *жан.* Дужка ў вядры. Трэ′ба зрабі′ць но′ваю по′сілку ў вядры′, а то не′льга вады′ прыне′сьці. *Цял.*

ПО′СПАЛЬ (по′спаль) *прысл.* Побач. Вот по′спаль на′шы ха′ты ране′й стая′лі. *Калод.*

ПО′ЎНЫ (по′ўны) *прым.* Дабраякаснае насенне. На′ша насе′ньне по′ўнае, гэ′та я до′бра ве′даю. *Кальч.*

ПО′ШТА (по′шта) *жан., неадабр., перан.* Чалавек, які разносіць чуткі. Што ні скажы′, по′шта гэ′тая адра′зу разьнясе′. *Сл.*

ПО′ШУЛКА (по′шулка) *жан.* Навалачка. По′шулкі зьмяні′ць трэ′ба, і про′сьціна загразьні′лася. *Ян.*

ПРАБЕ′ГЛЫ (прабе′глы) *прым.* Бывалы, вопытны. О-о-о, гэ′та Во′лячка прабе′глая! Ні глядзі′ць красаты′, а стара′ецца дзе′цям наву′ку даць. Чацьвё′рко дзе′так, а стара′яцца ўсіх вучы′ць. *Сав.*

ПРАБІТНІ′К (прабітні′к) *мужч.* Непаседлівы чалавек. Кру′ціцца цэ′лы дзень, як прабітні′к які′. *Тур.*

ПРАВАРЫ′НА (праварыʹна) *жан.* Прыбудова. Пастоʹў калёʹса ў праварыʹне. *Цял.*

ПРАʹВІЦЬ (праʹвіць), -ўлю, -іш; *незак. тр.* Гаварыць многа аб чым-небудзь. Гоʹдзі табеʹ праз гэʹту хаʹту праʹвіць. *Цял.*

ПРАГАʹПІЦЬ (прагаʹпіць), -плю, -іш; *зак. тр.* Празяваць, прапусціць. «Мы прагаʹпілі»,— во што яныʹ заʹрас гавоʹраць. *Сав.*

ПРАГЛЫʹПНЫ (праглыʹпны) *прым.* Скупы. Праглыʹпны, кап тоʹлькі ямуʹ ўсё даваʹлі, а ён — нікоʹму на маʹкава зеʹрне нічоʹга. *Тур.*

ПРАГОʹН (прагоʹн) *мужч.* Дарога. У нас прагоʹн прыгоʹжы, паабаʹпал строʹйныя дрэʹўцы пасадзіʹлі. *Кап.*

ПРАʹДЗІВА (праʹдзіва) *ніяк., толькі ў адз.* 1. Тое, што трэба спрасці. У нас сёʹлета мноʹга праʹдзіва. *Цял.* 2. Час, калі прадуць. Зімоʹю саʹмая праʹдзіва, вячарэʹ доʹўгія. *Цял.*

ПРАДЗЯЛЕʹННЕ (прадзялеʹньне) *ніяк.* Уяўленне, паняцце. Ня маʹю ніяʹкага прадзялеʹньня, дзе ён жывеʹ. *Асіп.*

ПРАЗДРАʹВІЦЬ (праздраʹвіць), -ўл-ю, -іш; *зак. тр.* Павіншаваць. Маяʹ дык і ўнуʹка і мянеʹ праздраʹвіць не забыʹлася. *Пяр.*

ПРАЗЭНТАВАʹЦЦА (празэнтаваʹцца), -тую-ся, -туеш-ся; *незак. тр.* Здзеквацца, мучыць. Даніʹлка, што ты нат кацянёʹм празэнтуʹешся, выʹпусьці хутчэʹй. *Кап.*

ПРАЙДАʹК (прайдаʹк) *агульн., неадабр.* Прайдоха. Што за дзеʹўка, што за прайдаʹк, гоʹлаў чоʹрту злоʹміць. *Ляхі.*

ПРАЙДАʹХА (прайдаʹха) *жан. Гл.* прайдак. Неʹка прайдаʹха з усёʹ сьвеʹту няреʹстка Цьвіʹрчыхі. Нап'еʹцца, самаʹ йграʹя, самаʹ й сьпяваʹя. *Сав.*

ПРАЙДУʹХА (прайдуʹха) *жан. Гл.* прайдак. Вот прайдуʹха гэʹта, усюʹды янаʹ дапнеʹ. *Цял.*

ПРАКАНА′ННЕ (пракана′ньне) *ніяк.* Перакананне. У яго′ пракана′ньне, што грыбе′ ту′така ёсьць, і ўжо так гадзі′ны дзьве клы′паем. *Мядз.*

ПРА′ЛКА (пра′лка) *жан.* Калаўрот. Праду′ць на пра′лку, дак на шпуло′ ўе′цца. *Рат.*

ПРАМА′ЗАЦЬ (прама′заць), -жу, -жаш; *зак. тр.* Растраціць на абы-што. Палучы′ў палу′чку да за ты′дзень прама′заў яе. *В. В.*

ПРАМУ′ДА (прамуда) *жан.* Шчыліна паміж печчу і сцяною. Палажы′ рукаві′цы ў праму′ду, каб за ноч прасо′хлі. *Чаша.*

ПРАНЦАВА′ТЫ (пранцава′ты) *прым.* Нягодны (чалавек). Ён быў такі′ пранцава′ты, што як памё′р, дак ніхто′ і сьлязі′нкі ні пусьці′ў. *Цял.*

ПРАСІ′ЦІЦЦА (прасі′ціцца) *зак. тр.* Працерціся (на локці). Ну што рабі′ць, калі′ так прасі′ціліся рукавы′, зала′піць ці што? *Малм.*

ПРАСНО′К (прасно′к) *мужч.* Праснак. Пайду′ па муку′, прасно′к сьпяку′; а то гэ′тай сьнегаві′цай у магазі′н не загрэ′пціся, і хле′ба малава′та. *Сав.*

ПРАСТО′ЙКА (прасто′йка) *жан., толькі ў адз.* Вяршок на малацэ, як яно састоіцца. Прасто′йка,— як малако′ састаі′цца, дак вяршо′к. *Рат.*

ПРА′ТАЦЬ (пра′таць), -ю, -еш; *незак. тр.* Патрашыць рыбу. Ло′вяць на′шы мужыкі′ ры′бу ву′ткай, трызу′біцай, а мы пра′таем. *Кальч.*

ПРАЎДЗІ′ВЕЦ (праўдзі′вец) *мужч.* Баравік. Мала′я са мно′ю хадзі′ла, дык і яна′ праўдзі′вец знайшла′, ну а я — дык по′ўненькую лату′шку. *Ос.*

ПРАХАЛАДЖА′ЦЦА (прахаладжа′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Прахалоджвацца. От ба′бы на′шы працу′юць: сюды′ пры′дуць, паляжа′ць, у той кане′ц по′йдуць, пла′стам ля′гуць. Гэ′та Фе′цькі сё′ньня няма′, дык яны′ выляга′юцца, той ні дасьць ім прахаладжа′цца. *Бялар.*

ПРО′БУВАЦЬ (про′бувацъ), -бу-ю, -бу-еш; *незак. тр.* Правярацъ. Я ду′маю, што яна′ мяне′ про′буя, ці ўсю рэ′шту я аддаю′. *Цял.*

ПРО′ЖЫР (про′жыр) *мужч.* Абжора. Вот про′жыр, ко′лькі ня дай, дак усё′ зьесьць і шчэ про′сіць. *Дук.*

ПРО′ЛУБКА (про′лупка) *жан.* Палонка. А ты ідзі′ адзе′жу палашчы′ ў про′лупку. *Мядз.*

ПРО′МАЧКА (про′мачка) *жан.* Прымочка. До′ктар доў про′мачкі, дак я прыклада′ла да ра′ны. *Цял.*

ПРО′ТВЕНЬ (про′твень) *мужч.* Скаварада. Насма′жылі цэ′лы про′твень се′мак. *Клет.*

ПРУГМЕ′НЬ (пругме′нь) *мужч.* Загуменне. Прагані′ каро′ву на пругме′нь. *Ляхі.*

ПРУД (прут) *мужч.* Млын. Авё′с во′зюць мало′ць у прут. *Рат.*

ПРУ′ТКІ (пру′ткі) *прым.* Дужы. Гэ′ты стары′ яшчэ′ пру′ткі: цэ′лы мех карто′плі падня′ў. *Ляхі.*

ПРЫБІРА′ЦЬ (прыбіра′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Звязвацъ плыты. Мой ба′цька яшчэ′ мне раска′зваў, як яны′ плыты′ прыбіра′лі, а я ўжо і не по′мню. *Малм.*

ПРЫ′ВАЛАК (пры′валак) *мужч.* Дошка, прыбітая ля печы. У нас, каб на печ узьле′сьці, спача′тку на пры′валак стано′вяцца. *Жур.*

ПРЫ′ВЯН (пры′вян) *мужч.* Сенцы. Вазьмі′ малако′ ў зба′не, стаі′ць у вядры′ на ла′ве ў пры′вяне. *Мядз.*

ПРЫГА′РКА (прыга′рка) *жан.* Падгарэлая частка бульбіны. Мае′ дзе′ці на′тта лю′бяць прыга′ркі, чуць ня б'ю′цца за іх. *Цял.*

ПРЫГЛЕ′МА (прыгле′ма) *жан.* Праблема. Вот прыгле′ма каро′ву спу′таць, не дае′цца зара′за. І про′стую ня пу′сьціш — шко′да круго′м. *Гіл.*

ПРЫГРЭ′БКА (прыгрэ′пка) *жан.* Пограб. Ко′тра Я′сява до′брую прыгрэ′пку зрабі′ла: і карто′плю мо′жна сы′пацъ, і бураке′. *Ляхі.*

ПРЫГРЭ′БНІК (прыгрэ′бнік) *мужч.* Памяшканне над пограбам. У прыгрэ′бніку гуркі′ стая′ць у бо′чцы і пах чува′ць аж на дварэ′. *Мік.*

ПРЫЗЫВА′ЦЬ (прызыва′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Запрашаць. Нас прызыва′лі на каля′ды на ё′лку ў дом па′нскі. *Кухц.*

ПРЫ′КАЛАТКА (пры′калатка) *жан., толькі ў адз.* Мачанка. Зь яе′ц пяку′ць пры′калатку. *Рат.*

ПРЫ′КАРАЦЬ (пры′караць) *прысл.* Караткавата. Ба′чыш, от пры′караць. Па ко′лькі яна′ бра′ла на фіра′нкі? *Сав.*

ПРЫ′КЛАДНА (пры′кладна) *прысл.* Складна. Ох, як яна′ пры′кладна гаво′рыць. *В. В.*

ПРЫКЛЫ′ПАЦЬ (прыклы′паць), -ю, -еш; *зак. тр.* Прыйсці. Нахадзі′ўся па ле′се, што лець прыклы′паў. *Уз.*

ПРЫКУШМЭ′РЫЦЦА (прыкушмэ′рыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Падхадзіцца, упыніцца з дамашняй работай. Я тро′хі прыкушмэ′руся, і трэ′бо перабе′хчы на Жа′цяраў (назва вёскі на Стаўбцоўшчыне) — дзе′ло ест. *Сав.*

ПРЫЛАБУ′НІЦЬ (прылабу′ніць), -ю, -іш; *зак. тр.* Пашкадаваць сардэчна, па-бацькоўску. Прылабу′нілі яны′ Ка′цьку, апрану′лі, накармі′лі, сірата′ ж яна′. *Уз.*

ПРЫЛУ′КА (прылу′ка) *жан.* Здарэнне. Бес прылу′к ты нія′к не абы′дзешся: то затрыма′еш каго′, то паб'е′шся без наго′ды. *Уз.*

ПРЫМА′КА (прыма′ка) *жан.* Прымак. Што гэ′та за прыма′ка такі′ няўда′лы? Ходзь бы што ўмеў рабі′ць, дык жа да′жа за страі′цяля ні наўчы′ўся. *Бялар.*

ПРЫМЕ′ЦЬ (прыме′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Мець магчымасць. Ты ш кап прыме′ў, дак бы гэ′тых дзяце′й пае′ў. *Цял.*

ПРЫМІРО′ЎКА (прыміро′ўка) *жан.* Прэмія. Цяля′тніцам к 8 Ма′рту прыміро′ўку далі′. *Пяр.*

ПРЫМО′ЧКА (прымо′чка) *жан.* Прамакатка. Ой, дзе ш твая′ прымо′чка? Унь як чарні′ла пацякло′! *Пяр.*

ПРЫНІ′КА (прыні′ка) *агульн.* Чалавек, які дрэнна бачыць. Ё ту′така адзі′н такі′, дык такі′ ўжо прыні′ка! *Турэц.*

ПРЫНЯ′ЦЦА (прыня′цца), -му-ся, -меш-ся; *зак. тр., перан.* З глыбокай уразлівасцю ўспрыняць што.— І што ён, гэ′ты Павэ′лак, хварэ′ў до′ўго?— Не, не′што з галаво′й ста′ло. Ма′быць, прыня′ўся сы′нам, мо′цно сы′на шкадава′ў (сын малады ў аўтамабільнай катастрофі загінуў). *Сав.*

ПРЫПЁ′ЛАК (прыпё′лак) *мужч.* Прыпечак. Дзе ты шука′яш? Чыгу′н жа на прыпё′лку. *Сял.*

ПРЫПО′МНІЦЬ (прыпо′мніць), -ю, -іш; *зак. тр.* Адплаціць, адпомсціць. Абяца′ў, абяца′ў ды і прыпо′мніў яму′ за ўсё. *Малм.*

ПРЫПУСКА′ЦЬ (прыпуска′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Даваць малако (аб карове). Вы′ме тако′е вялі′кае было′, а малака′ не прыпуска′ла. Паку′ль бу′льбу есьць — прыпу′сьціць, як з′е′ла — і малака′ німа′. *Гіл.*

ПРЫРА′ІЦЬ (прыра′іць), -ю, -іш; *зак. тр.* Параіць. Ба′пка прыра′іла да ра′ны падаро′жнік прылажы′ць. *Мядз.*

ПРЫСАКАТА′ЦЬ (прысаката′ць), -чу, -чаш; *зак. тр.* Прыбегчы. Як пачу′ў, што ба′цька хво′ры, дак у той жа дзень прысакато′ў. *Дук.*

ПРЫСЕ′ДУВАЦЬ (прысе′дуваць), -дую, -дуеш; *незак. тр.* Рабіць без адпачынку. Я сё′ньня шчэ ні прысе′дувала, усё за гэ′таю рабо′таю. *Цял.*

ПРЫСЕ′ЛЛЕ (прысе′льле) *ніяк.* Ваколіца. У нас прысе′льле харо′шае: лес круго′м, рэ′чка, альшэ′ўнік. У лесе грыбо′ў, я′гат мно′га. *Бялар.*

ПРЫСЁ′ЛАК (прысё′лак) *мужч.* Пасёлак. У гэ′ты бок прысё′лкі ўсё малы′я. *Рат.*

ПРЫСПА′ЦЬ (прыспа′ць), -плю, -іш; *зак. тр.* Нагуляць (дзіця). Гэ′та дзе′ўка дзіця′ прыспа′ла, а цяпе′р пла′ча. *В. В.*

ПРЫСТА′НАК (прыста′нак) *мужч.* Чыгуначны прыпынак.— Ужэ′ Мінск?— Не, шчэ прыста′нак «Тава′рная», а тады′ Мінск.— Мо з два′ццаць прыста′нкаў да таго′ Мі′нску. *Сав.*

ПРЫСУКА′ЦЦА (прысука′цца), -аю-ся, еш-ся; *зак. тр., перан.* Прычапіцца. Чаго′ ты прысуко′ўся да мяне′, я ш цябе′ ня чапа′ю? *Дук.*

ПРЫТУ′ХШЫ (прыту′хшы) *дзеепрым.* Прытухлы. Вы′нясі хутчэ′й гэ′ны кош на двор, я′йкі зусі′м прыту′хшыя, не дагле′дзіла. *Так.*

ПРЫХУ′ТАЦЬ (прыху′таць), -ю, -еш; *зак. тр., з адценнем зламоўнасці.* Пахаваць. Ма′ню прыху′тая і другу′ю во′зьмя. Ажэ′ніцца, удаўцо′м ня бу′дзя. *Сав.*

ПРЫЦІ′СНУЦЬ (прыці′снуць), -у, -еш; *зак. тр.* Прымусіць. Мяне′ як прыці′снулі не′мцы — кажы′ дзе партіза′ны,— дык мне хоць ты плач. *Сак.*

ПРЫЦІ′ШЫЦЦА (прыці′шыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Прытаіцца, прыціхнуць. Чу′ю, не′хта сту′кая, я прыслу′халася, прыці′шылася... Сту′кая. *Ніз.*

ПРЫШТРЭ′ПАЦЬ (прыштрэ′пацъ), -ю, -еш; *зак. тр.* Прыгатаваць. А што яна′ ро′біць? Прыштрэ′пая сьняда′нку і пайшла′ па дамо′х языко′м мяньці′ць. Ка′ждага ўба′чыць, дзе′ хто паве′рняцца. *Цял.*

ПРЫШЫ′БЦІ (прышы′пці), -бу, -беш; *зак. тр.* Забіць. Хло′пчыка прышы′бла ў ту′ю бу′ру, сядзе′ў каля′ рызе′ткі. *В. В.*

ПСТРЫ′КНУЦЬ (пстры′кнуць), -у-, -еш; *зак. тр.* 1. Рэзка штурхнуць нагой. Конь як пстры′кнуў мне наго′й, дык я чуць жывы′ засто′ўся. *В. В.* 2. Ускочыць. А кот сабе′ пстры′кнуў на вы′шкі ды й уцё′к. Дагані′ яго′ паспрабу′й. *В. В.*

ПУ′ГАЦЬ, -ю, -еш; *незак. тр.* Многа піць. *Дук, Хар., Жор., Кам., В. В., Кухц., Сак.* Кінь ты пу′гаць гэ′ту ваду′. *Цял.*

ПУ′ДАЛА (пу′дала) *ніяк.* Пудзіла. На карто′флі пу′дала паста′віў, бо ад гэ′тых дзіко′ў не адагна′цца. *Руд.*

ПУДЭ′ЛАК (пудэ′лак) *мужч.* Пенал. Купі′ла хло′пцу пудэ′лак, трэ′ба ж у шко′лу ўжо сабіра′ць. *Крус.*

ПУЖА′ЙЛА (пужа′йла) *агульн., перан. Гл.* пудала. Ну і мо′да цяпе′рака пашла′, папрыяжджа′лі дзе′ўкі з го′рада, страхо′цьці не′кія, пужа′йлы. *Тур.*

ПУЖАЎНО′ (пужаўно′) *ніяк.* Пугаўё. Вазьмі′ вось пужаўно′ ды зажэ′нь каро′ву на па′шу. *Пал.*

ПУЗЫ′Р (пузы′р) *мужч.* Хмара. А ты, со′нца, ні хава′йся за пузыры′, а сушы′ траву′. *В. В.*

ПУЗЫ′РЫЦЦА (пузы′рыцца), -у-ся, -ыш-ся; *незак. тр.* Злавацца. Чаго′ ты пузы′рысься, хі′ба я табе′ няпро′ўду сказо′ў ці прыду′маў гэ′та? *В. В.*

ПУК (пук) *мужч.* Почка на сцябле, з якой выходзіць колас. С пу′ка каласо′к выхо′джавая. *Рат.*

ПУКА′ТЫ (пука′ты) *прым.* Выпуклы. У на′шум цілі-ві′зары шкло пука′тая. *Цял.*

ПУЛЬНУ′ЦЬ (пульну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Шпурнуць. Узяла′ суха′р, хаце′ла пульну′ць яму′ ў лоп, але′ ён пасьпе′ў схава′цца. *Сак.*

ПУ′ПЛІК (пу′плік) *мужч.* Бутон. Вяргі′ня ско′ра зацьвіце′, пу′плікі ўжо вялі′кія. *Дук.*

ПУНКТ (пункт) *мужч.* Куплет. Бада′й яго′ хале′ра, забы′ўся пункт гэ′ты, ня по′мню ні′як. *Кальч.*

ПУПЁ′Л (пупё′л) *мужч.* Маленькі агурок, ад якога адпала кветка. Ужо′ ё′сьціка пуплы′ ў гра′дах, ідзі′ глянь. *Заб.*

ПУПО′К (пупо′к) *мужч. Гл.* пупёл. На гаро′дзі пупко′ў мно′га, эх, і паядзё′м агурко′ў уво′лю, як падрасту′ць! *Хож.*

ПУСТАДО′МАК (пустадо′мак) *мужч.* Чалавек, які ні пра што не клапоціцца. Гэ′ты пустадо′мак ні пра што ні дба′я. *Ляхі.*

ПУСТЫ′ (пусты′) *прым., перан.* Бесталковы. Ні ўсё ш пусты′я лю′дзі на сьве′ця, ёсьць і талко′выя. *В. В.*

ПУСТЫ′НЯ (пусты′ня) *жан.* Пустэча (тут: запушчаныя, парослыя травой соткі). Два′ццаць штук, больш як два′ццаць — два′ццаць тры шту′кі бы′дла ўпруць на гэ′ты пусты′ агаро′т, на гэ′ту пусты′ню — спа′сьвілі мне ўсю карто′флю. *Сав.*

ПУХА′ (пуха′) *жан.* Тупы канец яйка. Бі пухо′й, мо яна′ цьвярдзе′йшая. *Малм.*

ПУ′ХНУЦЬ (пу′хнуць), -у, -еш; *незак. тр.* Многа спаць Не′шта я сё′ньня цэ′лы дзень пу′хну, пу′хну, а ўсё хачу′ спаць. *В. В.*

ПУХО′ВЫ ХЛЕБ (пухо′вы). Хлеб з мукі, з мякінай. Пухо′вы хлеп — гэ′та калі′ з грэ′цкай ды й з аржано′й мякі′най сьпе′чаны, у вайну′ такі′ е′лі. *В. В.*

ПУ′ЧКА (пу′чка) *жан.* Костачка на ступні нагі. Пале′на з рук вы′пала і пу′чкі на назе′ палама′ла, до′ўга лячы′ўся, хадзі′ць не мох, ляжа′ць не мох. *Уз.*

ПУ′ШАЧКА (пу′шачка) *жан.* Плецены кошык для захавання лекавых зёлак. Мой мужы′к пу′шачку мне сплёў, а ў ёй нічо′га по′куль няма′. *Малм.*

ПЫ′РГАЦЬ (пы′ргаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Скакаць. А мы сё′ньня на фіскульту′ры пы′ргалі ўверх. *Клет.*

ПЫСЦІ′ (пысьці′), -ду, дзеш; *зак. тр.* Пайсці. Пышо′ў вэнь той дыро′гай за сяло′. *Паг.*

ПЫТЛЯ′Р (пытля′р) *мужч.* Чалавек, які пытлюе муку. Ай, ён пытляро′м ро′біць, кі′нуў вучы′цца, пашо′ў на свой хлеп. *Тур.*

ПЫХЦЯ′ЧЫ (пыхця′чы) *прым.* Запальчывы, порсткі. Што рабі′ць? І баю′ся сказа′ць сы′ну, бо ён пыхця′чы, ба′цькаў хара′кцяр ма′е, зазлуе′. *Сав.*

ПЫ′ШКІ (пы′шкі) *адз.* пы′шка. Мёрзлая бульба. У вайну′ на по′лі пы′шкі зьбіра′лі, е′лі, хлеп зь іх пяклі′. *Кухц.*

ПЭ′ЛЯХ (пэ′лях) *мужч.* Вантробы. Зье′лі ваўке′ саба′ку й пэ′ляхаў ні астало′ся. *Ляхі.*

ПЭ′НДЗІЦЬ (пэ′ньдзіць), -джу, -дзіш; *незак. тр.* Гнаць. Пэ′ньдзі вон саба′ку, ву′ньдзіка куды′ забро′ўся. *Сяд.*

ПЭ′ЎНЫ (пэ′ўны) *прым. Гл.* по′ўны. Садзі′ла мо′ркву, ду′мала, што благо′я насе′ньне, аж нічо′га, аказа′лася пэ′ўная. *Варн.*

ПЯКО′ТА (пяко′та) *жан.* Пякотка. Я, му′сіць, не′шта зье′ла нідо′брая, бо на′тта ш пяко′та пячэ′. *Цял.*

ПЯКУ′ШЧЫ (пяку′шчы) *прым.* Пякучы. Ляка′рства ве′льма пяку′шчая. *Цял.*

ПЯЛУ′Н (пялу′н) *мужч.* Палын. Калі′ цяля′ты хвара′юць, то ба′бы пялу′н ва′рацць і даю′ць ім. *Ляшч.*

ПЯНЁ′ЎЕ (пянё′ўе) *ніяк., толькі ў адз.* Маладое пер'е ў птушак. Забі′ла пятуха′, а ён уве′сь у пянё′ўі. *Мядз.*

ПЯРВО′СЦІНКА (пярво′сьцінка) *жан.* Карова, цельная першы раз. На′ша каро′ва малада′я — пярво′сьцінка. *Цял.*

ПЯРША′ЧКА (пярша′чка) *жан.* Карова першым целем.— Мая′ так ма′ла малака′ дае′ і бры′каіцца.— А ты хаце′ла, кап пярша′чка дава′ла табе′ нівядо′ма ско′лька. *Бялар.*

ПЯРЭ′ЛІЎКІ (пярэ′ліўкі) *толькі ў мн.* Неспрыяльныя абставіны. Я ба′чу, што ні пярэ′ліўкі, ды дай бох но′гі. *Цял.*

ПЯРЭ′БРЫНЫ (пярэ′брыны) *адз.* пярэ′брына. Рэбры. Мой хло′пяц такі′ худы′, пярэ′брыны мо′жна палічы′ць. *Цял.*

ПЯРЭ′ДАЙКА (пярэ′дайка) *жан.* Карова не цельная. Яе′ каро′ва до′брая, але′ сё′лята пярэ′дайка. *Цял.*

ПЯРЭ′ДНЯ (пярэ′дня) *жан.* Вяроўка, што прымацоўваецца да пярэдняй часткі воза, каб увязаць сена, салому. Зьнімі′ рубе′ль, прывяжы′ пярэ′дню і падкінь каню′ се′на. *Сав.*

ПЯРЭ′СМУРЖКІ (пярэ′смуршкі) *толькі ў мн.* Адыходы валакна пры часанні лёну грэбенем. Што смо′ргаіш,. дак палуча′іцца ку′жаль і пярэ′смаршкі. С кужэ′льнага палатна′ шы′юць саро′чкі, сы зрэ′бнага штаны′, сь пярэ′смыжак спаньні′цы. *Рат.*

ПЯСТУ′НКА (пясту′нка) *жан. Гл.* драндушка. Я-то нямно′га пясту′нак зна′ю, забы′лася ўжо, па′мяць ма′я така′я. *Тур.*

ПЯТЛІ′ЧКА (пятлі′чка) *жан., памянш. ад* пятля. А′плік за пятлі′чку чапля′іцца. *Рат.*

ПЯЎЧЫ′ЦА (пяўчы′ца) *жан.* Спявачка. Сьпява′я яна′ до′бра, вучы′лася на пяўчы′цу, бу′дзя до′брая мне жо′нка. *В. В.*

ПЯХО′ТАМ (пяхо′там) *прысл.* Пешшу. Ране′й хадзі′лі пяхо′там, а цяпе′р кіламе′тру ні про′йдуць пяшко′м. *В. В.*

ПЯЧА′ЙКА (пяча′йка) *жан. Гл.* пякота. Мне нідо′бра, пяча′йка сма′ліць, аж, здэ′цца, дым з ро′ту йдзе. *Цял.*

ПЯЧКУ′Р (пячку′р) *мужч.* Пячнік. Пячку′р с свае′ вё′скі мне печ паста′віў. *В. В.*

ПЯЧО′РКА (пячо′рка) *жан.* Шампіньён. На по′лі, о′зь дзе о на гэ′тым папа′ры, пячо′рак — хоць касу′ заклада′й. *Сав.*

ПЯЮ′ННЯ (пяю′ньня). *Гл.* пяўчыца. Пяю′нь у на′шым сяле′ не так і мно′га. До′брая пяю′ньня Пара′ска, то′лькі слу′хай. *Малм.*

ПЯЯ′ЦЬ (пяя′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Спяваць. Хаця′ ма′ла дзяўча′т астало′ся, а пяя′ць сла′ўна мо′гуць. *Малм.*

П'ЯНІ'ЦЫ (п'яні'цы). *Гл.* бугаі. П'яні'цы ў нас растуць там, дзе багу'н сьмярдзё'нцы расьце', а як ясі' п'яні'цы, то ап'яне'іш ад іх. *Так.*

П'ЯНТО'С (п'янто'с) *мужч., лаянк.* П'яніца. П'янто'с ты няшча'сны, жыцьця' ат цябе' няма', куды' то'лькі падзе'цца! *Слаб.*

# Р

РАБІ'НКА (рабі'нка) *жан.* Сінюха. Рабі'нкі мно'га ў нас на лу'зя, я яе' ўчо'ра жа'ла. Ліст зялё'нянькі такі', ні крэ'пка бальшы'. *Малм.*

РАБІ'ЦЬ (рабі'ць), -блю, -іш: *незак. тр.* 1. Касіць (сена). Як Іва'н ішо'ў у а'рмію, дык се'на ці ата'ву рабі'лі. *В. В.* 2. Працаваць. Яны' або'я ро'бяць шта'тнымі. *Дук.*

РАДАБУ'ДЗІНА (радабу'дзіна) *жан.* Дрэннае, старое збудаванне. Ваш хлеў стаі'ць, як радабу'дзіна яка'я, пабуры'лі б ле'пей яго'. *Калод.*

РА'ДЗІВА (ра'дзіва) *ніяк.* Радыё. Па ра'дзіву перадава'лі канцэ'рт маста'цкай самадзе'йнасьці. *Клет.*

РАДЗЫ'НКА (радзы'нка) *жан.* Разынка. Мне мо'жно пасыла'ць два кі'лі радзы'нак, чаты'ры кілба'с сваі'х, два кіло' са'ла. *Сав.*

РАЗБРА'ТАЦЦА (разбра'тацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Учыніць расправу над кім-небудзь. Што ж бы гэ'то было', каб мае' трусэ' раскаша'ліся ў Мару'сі Малянчуко'вае агаро'дзі. Яна' б бы'стро разбра'талася зь і'мі. *Сав.*

РАЗБУМА'ЖЫЦЦА (разбума'жыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Выхваляцца, выказвацца пра сябе, пра сваіх з залішняй пахвалой. А ба'цько лю'біць пахвалі'цца, ся'дзе за стало'м і пляце' язько'м абы'-што. Яшчэ' дачка' прые'дзя, ска'жа яму' што, а ён ужо' тады' разбума'жыцца за стало'м: «Мая' І'рка, мая' І'рка». *Сав.*

РАЗВЕ′ТРАЦЬ (разьве′траць) *зак. тр.* Ачысціцца ад хмар. І ве′тру німа′, нічо′га нідзе′ ні ды′хае, а пато′м жа разьве′трае не′ба. *Бялар.*

РАЗВІ′ЦЦА (разьві′цца) *зак. тр.* Распухнуць. Ай, ру′чачка мая′, разьвіла′ся ад жме′ні. *Рат.*

РАЗГА′Ч (разга′ч) *мужч.* Галінка, адростак (на дрэве). Я′блынька разга′тая расла′, разгачэ′ гэ′тыя ўбаке′ раздалі′ся, а сьнех ве′лькі ў гэ′тум го′ду, стаў асяда′ць і разадра′ў я′блыньку. *Сав.*

РАЗГУКА′ЦЦА (разгука′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Распытаць, даведацца аб усім.— Атку′ль, дзе′ўка?— Ш Чаву′ш (Чавусаў).— За′муш хо′чыш?— А чаму′ ш?— А ткаць, пра′сьці ўме′іш?— Во, аб усё′ ты разгука′ўся. *Рат.*

РАЗЁ′ВА (разё′ва) *агульн.* Разява. Не трэ′ба разё′вай быць, то ў цябе′ былі′ п такі′я до′шкі, як у мяне′. *Уз.*

РАЗЛАЖЫ′ЦЬ (разлажы′ць), -у, -ыш; *зак. тр.* Раскласці. Невядо′ма, на ско′лька разло′жаць гэ′тыя ўзно′сы. *Дук.*

РАЗЛУЧА′ЦЦА (разлуча′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Разводзіцца. Ле′тась мая′ дачка′ разлучы′лася з му′жам, не′шта ні пала′дзілі. *В. В.*

РАЗМАІ′ТАСЦЬ (размаі′тасць) *жан.* Сумесь, сукупнасць (пра вырабы з мяса). Даўне′й, за По′льшчу пры′дзеш у магазі′н: «Дайця мне размаі′тасьці». А во сыча′с машы′нкай нарэ′жа калба′скі, вяндлі′нкі, усяго′ патро′шкі, адве′сіць, і гэ′то называ′лася размаі′тасьць. *Сав.*

РАЗРУ′МЗАЦЦА (разру′мзацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Расплакацца. Ну чаго′ ты зноў разру′мзаўся, вы′тры во′чы, успако′йся. *Клет.*

РАКАЧКО′М (ракачко′м) *прысл.* На карачках, ракам. Адзе′ў ва′тныя по′рткі і ракачко′м, ракачко′м па пад′ё′лкамі, як ба′чыш, карзі′ну грыбо′ў нясу′. *Сав.*

РАМАНЁ′К (раманё′к) *мужч.* Рамонак. Раманё′к пахню′чы крэ′пка, тут ёсь і каля′ пло′ту, сам бе′лы, у сярэ′дзіні жо′ўты. *Малм.*

РАМАЦІ′ЗМ (рамаці′зм) *мужч.* Рэўматызм. Гэ′та ш, дзе′ткі, мяне′ рамаці′зм ужо′ два′ццаць гадо′ў му′чае. *Клет.*

РАМАШО′К (рамашо′к) *мужч. Гл.* раманёк. Такі′ ш прыго′жы буке′т атрыма′ўся ў Але′нкі з рамашко′ў і васілё′чкаў! *Хож.*

РАМШТУ′К (рамшту′к) *мужч.* Плінтус. Рамшту′к прыбіва′ецца, як ужо′ падло′га пасла′на. *Бялар.*

РАПУ′ХА (рапу′ха) *жан. Гл.* вярэпаўка. У нас пад га′нкам вадзі′ліся рапу′хі, вялі′кія такі′я. Як кране′ш яе, дак чуць по′ўзая. *Дук.*

РАСАМА′КА (расама′ка) *жан., заал.* Расамаха. Расама′ка жыве′ ў кано′плях, а руса′лка ў ва′дзе. *Руд.*

РАСАМА′КА (расама′ка) *жан., перан.* Неахайная жанчына. Пра′ма я і не зна′ю, што зь ё′ю рабі′ць, расама′кай гэ′тай, усё′ параськіда′ла. *Касц.*

РАСКАШТАВА′ЦЦА (раскаштава′цца), -тую-ся, -туеш-ся; *зак. тр.* Спрабавацца, каштавацца (на смак). Малака′ ко′шка ні хо′ча, хо′ча пагрубе′й чаго′, а тады′ ўжо малака′. Гэ′дако сма′шно малачко′, раскашту′йся, кап ты здо′хла! *Сав.*

РАСКА′ШЫЦЦА (раска′шыцца) *зак. тр.* Разварыцца, рабіцца празмерна мяккім. Рыс гато′вы, бач, як раска′шыўся. Заліва′й малачко′м, прыпа′рым. *Сав.*

РАСКЕ′ПАЦЬ (раске′паць), -ю, -еш; *зак. тр.* Зразумець, здагадацца. І то′лькі по′тым раске′пала, што э′та ш кры′шка вінава′та, шта мае′ грыпке′ го′ркія. Кры′шка са смало′вага дрэ′ва, адна′ смаліна′. *Сав.*

РАСКІ′ДАЦЦА (раскі′дацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Абрадзіцца. Га′нна ско′ра раскі′даяцца, бо то′ўстая, як капа′. *Цял.*

РАСКІ′ДКА (раскі′тка) *жан.* Пасцілка для сена. Му′сіць, трэ′ба прыне′сьці яшчэ′ адну′ раскі′тку се′на, бо пае′дзем надо′ўга, а што каро′ва бу′дзе е′сьці. *Клет.*

РАСКУДЗЕ′ЛІЦЦА (раскудзе′ліцца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр., перан.* Разгуляцца. Што гэ′та ваш малы′ раскудзе′ліўся, усю′ ноч не спаў. *Мач.*

РАСПАСЭ′РЫЦЦА (распасэ′рыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Раздурыцца. Трэ′ба сказа′ць, што лю′дзі цяпе′р распасэ′рыліся на я′ду, са′ла е′сьці ні хо′чуць. *В. В.*

РАССТО′ЯЦЦА (рассто′яцца) *безасаб.*; *зак. тр.* Распагодзіцца. Нек хму′рна, ці рассто′іцца, ці дош по′йдзя. Захму′рылася, мо′жа дош бу′дзе. *Бялар.*

РАССЫПА′ЦЦА (рассыпа′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Горка плакаць з прычыны якой бяды, няшчасця. А ба′цько до′бры быў, ні на адну′ нічо′го ні сказа′ў, апро′ч до′браго, пры′краго ніко′му ні зрабі′ў, дак усе′ ра′вуць па ём, рассыпа′юцца. *Сав.*

РАСТРО′ПНЫ (растро′пны) *прым.* Увішны, умелы. Лю′цік Мікі′цкі дык мно′га што ўме′е і ве′ршыкі зна′е, такі′ мужы′к, адны′м сло′вам, растро′пны чалаве′к. *Гіл.*

РАСТРУХА′НКА (раструха′нка) *жан., лаянк.* Растропаная жанчына. Хай бы ты зачаса′ла свае′ ку′длы, а то хо′дзіш, як раструха′нка. *Цял.*

РАСХАЛЕ′РЫЦЦА (расхале′рыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Моцна раззлавацца. Чаго′ так ён расхале′рыўсі? Нічо′га ж не случы′ласі. *Тур.*

РАСХО′ДАЦЬ (расхо′даць), -ю, -еш; *зак. тр.* Растраціць. Няўжэ′ яны′ ўсе гро′шы расхо′далі? *Цял.*

РАСШАЛО′ПАЦЬ (расшало′паць), -ю, -еш; *зак. тр.* Зразумець. По′куль я расшало′пала, што да чаго′, дак яны′ і ўцяклі′. *Дук.*

РА′СЯ (ра′ся) *жан. Гл.* расама′ха. Хто яе′ ве′дая, чаму′ така′я ра′ся ўрадзі′лася, ніко′лі ня мы′ецца, ня ба′чыла. *Алях.*

РА′ТА (ра′та) *жан.* Чарга. На дзьве′ ра′ты пасё′м, бо па′шы адра′зу на ўсіх не хапа′е, адзі′н пасту′х адну′ ра′ту пасе′ ў гэ′тым канцы′, а друга′я ра′та — вунь дзе. *Кальч.*

РАТУ′НАК (рату′нак) *мужч.* Плач. У іх з до′му заўсё′ды рату′нак дано′сіцца, мало′е дзіця′! *Кап.*

РАЎГЕ′НЯ (раўге′ня) *жан.* Хлебны квас. Вы′піця ж на даро′гу раўге′ні, сьве′жанькая, укусьненькая. *Ос.*

РАХТА′ЦЬ (рахта′ць), -чу, -чаш; *незак. тр.* Рагатаць. Вот дзе гультае′, цэ′лы дзень рэ′хчуць. *Цял.*

РО′БІЦЬ (ро′біць), -блю, -іш; *незак. тр.* Рабіць. Але′ што ро′біць, муш пагі′п. *Рат.*

РОД (рот) *мужч.* Ураджай. У про′шлум го′ду ні ўрадзі′ла капу′ста, а цяпе′р рот на яе′. Каб ба′чылі, яка′я капу′ста парасла′! *Сав.*

РО′ЛЬНІК (ро′льнік) *мужч.* Земляроб. Цяпе′р я ні магу′ е′хаць у ту′ю По′льшчу. Ро′льніку німа′ як е′хаць вясно′й ці ле′там, трэ′ба падбіра′ць зі′мнюю по′ру. *Саз.*

РО′ЦЬКА (ро′цька) *неадабр.* Няўважлівы чалавек. Ах ты, ро′цька! Я ўсё′ пыта′юся, ве′ля кашту′е твая′ суке′начка. *Суд.*

РУ′БЕЛЬ (ру′бель) *мужч.* Жэрдзіна, якой прыціскаюць сена на возе. Ба′цька вы′сек у ле′сі до′бры ру′бель, а то стары′ злама′ўся, а без яго′ не′льга. *Чэрв.*

РУБІ′ХІ (рубі′хі) *толькі ў мн. Гл.* качалкі. У некато′рых рубі′хі заву′ць, а ў нас кача′лкі. *Рат.*

РУБО′ЧАК (рубо′чак) *мужч.* Кавалачак. У ха′це рубо′чка ні аста′ў, бо ўсё падбяру′ць. *Малм.*

РУДА′ (руда′) *жан.* 1. Кроў. У мяне′ сла′бы нос, ча′ста руда′ ідзе. *Дук.* 2. Рудая вада на тарфяным балоце. Ба′цька, як касі′ў, дак за штанэ′ руда′ пабра′лася, ня атмыва′яцца. *Дук.*

РУ′ЖА (ру′жа) *жан.*, *мед.* Рожа. У мяне′ ру′жа як убі′лася ў твар, дак чуць вы′лячыла. *Цял.*

РУЖЫ′ЦА (ружы′ца) *жан. Гл.* ружа. У сусе′ткі сьвіня′ захварэ′ла на ружы′цу, да′лі ўко′лаў па′ру, уро′дзі нічо′га. *Сав.*

РУКАВО′ (рукаво′) *ніяк.* Рукаў. Сто′лькі мае′ дзяўча′та перапо′рцілі мацяр'я′лу, сто′лькі пла′цьцяў вісі′ць і німа′ чаго′ адзе′ць: то паясьні′ца караба′ціцца, то рукаво′ ўшы′та няпра′вільна. *Бялар.*

РУКАВО′ЧАК (рукаво′чак) *мужч., памянш.* Рукаўчык. Паглядзі′, така′я харо′шая ко′фтачка, але′ што ш, каро′цянькія рукаво′чкі! Куды′ ж гэ′ты рукаво′чак! *Сав.*

РУКА′ЦЦА (рука′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Вітацца за руку. Аграно′м цё′нгля рука′яцца з мужчы′намі, а ба′бам то′лькі галаво′ю кіўне′. *Цял.*

РУЛІ′ (рулі′) *толькі ў мн.* Цура. Хто рулі′ ка′жыць, хто цуры′, як хлеп у ваду′ кры′шуць. *Рат.*

РУМЯ′НКА (румя′нка) *жан. Гл.* раманёк. Румя′нка і як ляка′рства, яе′ па′рацЬ і по′яць малы′х дзяце′й. *Ляшч.*

РУ′ПАР (ру′пар) *мужч., перан.* Крыклівая баба. Цэ′лы дзень крычы′ць то на мужыка′, то на дзяце′й, ру′пар ды й то′лькі. *Слаб.*

РЫС (рыс) *мужч.* Радок. А хто тут гроп, а? Чаму′ прапусьці′лі рыс? *Бялар.*

РЫ′СЦІК (ры′сьцік) *прысл.* Хутка. Прыбе′гла сусе′тка, пакруці′лася, паглядзе′ла, што ро′біцца ў ха′ці, і ры′сьцік да друго′й. *Рум.*

РУ′ТА (ру′та) *жан.* Мята. Ён прынё′с мне вяза′нку ру′ты і са зло′сьцю сказо′ў: «Нюхай!» *В. В.*

РУЧЫ′ЦЦА (ручы′цца) *незак. тр.* Не паддавацца, не «ісці ў руку». Мо′жа, гаспада′р каро′ву шкадаво′ў, як прадаво′ў, што яна′ ў нас не ручы′лася. *Гіл.*

РЫЗО′ЎКА (рызо′ўка) *жан.* Посцілка, вытканая з істужак. Гэ′тулькі тра′пак стары′х было′. Дык парва′ла і во сяджу′ і тку рызо′ўкі. *Акал.*

РЫЗІ′НАВІКІ (рызі′навікі) *адз.* рызі′навік. Рызінавы абутак. У рызі′навіках хало′дна ўзімо′ю. *Цял.*

РЭ′ДЧЫК (рэ′тчык) *мужч.* Рэдка сатканая тканіна. Мне рэ′тчыкі ад ма′ці асталі′ся, і ло′жак мо′жна засла′ць, і гра′тку заве′сіць. *Сл.*

РЭ′ЗАННЕ (рэ′заньне) *ніяк.* Сварка. А вот із-за ме′лачы яко′й спляту′цца і пашло′ рэ′заньне. *Тур.*

РЭ′ПКА (рэ′пка) *жан.* Каленная чашка. Ба′цька папо′ў у ава′рыю, дак яму′ раздрабі′ла рэ′пку, ён ні мо′жа хадзі′ць. *Цял.*

## С

САВЯ′К (савя′к) *мужч.* Падасінавік. Грыбо′ў нямно′га назьбіла′ла, але′ адны′ савякі′. *Ос.*

САГЛА′С (сагла′с) *мужч.* Згода. Му′сіць жа, сагла′с у іх быў, калі′ пажані′ліся. *Ляхі.*

САКА′ (сака′) *жан.* Асака. У каго′ сі′ла была′, дык вунь аж да са′мага сьне′га касі′лі саку′. *Пяр.*

САКАТА′ЦЬ (саката′ць), -чу, -чаш; *незак. тр., перан.* Смяяцца. Як рассако′чыцца, дык ледзь супако′іш, а было′ п хоць што сьме′шнае. *Уз.*

САКАТУ′ХА (сакату′ха) *жан., неадабр.* Жанчына, якая хутка гаворыць. Ну й сакату′ха Мары′ля, як с пулямё′та стро′чыць. *Дук.*

СА′ЛА (са′ло) *ніяк.* Курыны тлушч. О ку′ра, дак ку′ра! Кіло′ тры заця′гне. Ба′чыш, са′ла ко′лькі, здо′ру, кі′шкі жы′рныя-жы′рныя. *Сав.*

САЛАДУ′ХА (саладу′ха) *жан.* Саладкаватая кашка з аржаной мукі. Разьвяду′ць саладу′ху і ста′вяць, каб укі′сла, на ла′ўцы або на пе′чы. Укісьня саладу′ха і яе′ яду′ць. *Бялар.*

САЛО′МКА (сало′мка) *жан.* Траста. Сало′мку адра′зу на каня′ грузі′лі і зво′зілі на сьце′лішча. *Рат.*

СА′ЛЯ (са′ля) *жан.* Пакой. Як у бальні′цы працава′ла, дак усё′ рабі′ла: дзяжу′рыла, малы′х купа′ла, калідо′ры замята′ла, са′лі ўсе замята′ла, чы′сьціла. *Вішн.*

САЛЯ′НКА (саля′нка) *жан.* 1. Сальніца. Учо′ра прые′хала дачка′ з го′рада, прыве′зла фа′рфаравую саля′нку. *В. В.* 2. «Чортава вока» на балоце. Саграба′ў се′на ды ў саля′нку правалі′ўся. До′бра, што ня хо′ладна было′. *Крус.*

САМАГРЭ′ЛЬНІК (самагрэ′льнік) *мужч.* Электрычны чайнік. Майму′ дзе′веру на сьвя′та дык самагрэ′льнік падары′лі. *Суд.*

САМА′Н (сама′н) *мужч.* Ферма. Не′дзе ж у сама′н пайшла′ да каро′ў. А ці вам патрэ′бна яна? Дык вунь туды′ вам. *Даўж.*

САМАРО′САК (самаро′сак) *мужч.* Табак-самасад. Я стары′ ўжо, мне сігарэ′ты слабы′я, дык я свой куру′ самаро′сак. *В. В.*

САМАСЕ′ЙКА (самасе′йка) *жан.* 1. Табак, які вырошчваецца індывідуальна. Мой дак ку′рыць самасе′йку. 2. Байструк. Што байстру′к, што самасе′йка — гэ′та ўся ро′ўна. *Цял.*

САМАСУ′ШКА (самасу′шка) *жан.* Сухастоіна. Самасу′шка, када′рае вы′сахшы стаі′ць дзе′рава, сухапасто′й шчэ ка′жуць. *Бялар.*

САМО′ХАЦЬ (само′хаць) *прысл.* Сваім одумам. Мая′ ш само′хаць кі′нула рабо′ту, ба′цьку нічо′га ня сказа′ла. *Дук.*

САРВА′ЦЬ (сарва′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Падарваць. Я пла′кала, дак сэ′рца сарва′ла. *Цял.*

САСТУПІ′ЦЬ (саступі′ць), -плю, -іш; *зак. тр.* Уступіць. Я шчо′тую, што ле′пяй саступі′ць, чым свары′цца. *Цял.*

САЎГУНЫ′ (саўгуны′) *адз.* саўгу′н. Бліны. Ну, Зо′ся, саўгуны′ ўдалі′ся як ніко′лі. *Бор.*

САЎЛЫ′ГА (саўлы′га) *агульн., неадабр.* Чалавек, які робіць абы-як. У на′шай вё′сцы брыгадзі′р ёсьць, дык саўлы′га-саўлы′гай. *Суд.*

САХА′ (саха′) *жан.* Калодзежны вочап. Ах, бра′тка, саха′ адарва′лася, і вядро′ зноў у ваду′ шугану′ла. *Маст.*

САЧО′К (сачо′к) *мужч., зневаж.* Гультай. Гэ′ты сачо′к сё′ньня зу′сім нічо′га не зрабі′ў. *Хал.*

САШЧАПІ′ЦЦА (сашчапі′цца), -плю-ся, -іш- ся; *зак. тр.* Завесціся сварыцца. Сашчапі′лася свары′цца зь Лі′даю. *Цял.*

СВАЯЎСТВО′ (сваяўство′) *ніяк.* Сваяцтва. Я ні прызнаю′ тако′га сваяўства′, бо яны′ е′дуць то′лька, як ім трэ′ба што. *Цял.*

СВЕ′ТАЧ (сьве′тач) *мужч.* Жалезнае прыстасаванне трымаць запаленую лучыну. Газо′вачка рэ′тка ў каго′ была′, а былі′ сьве′тачы: па′лка, на па′лцы дзьве жале′скі, у жале′скі ўтыка′лі лучы′ну. Сьве′тач прыбіва′лі дзене′будзь ля пе′чы. *Бялар.*

СВЕ′ТЫШ (сьве′тыш) *мужч.* Лучына. Я ўсягды′, як хаджу′ ў істо′пку, дык запа′льваю сьве′тыш. *Калод.*

СВІНЦІЯ′НСКАЕ ЗЕ′ЛЛЯ (сьвінція′нская зельля). Зверабой. Пайду′ ў аптэ′ку ды й усё′ прашу′ даць мне сьвінція′нская зе′льля, а яны′ ні ве′далі, чаго′ я хачу′. *В. В.*

СВІНЯ′К (сьвіня′к) *толькі ў адз.* Свінні. То сьвіня′к па′сьвіў, то каро′ў я па′сьвіў у дзяці′нстве. *Сак.*

СВІ′СНУЦЬ (сьві′снуць), -у, -еш; *зак. тр., перан.* Украсці. Трэ′ба сьві′снуць аха′пак се′на каро′ві. *В. В.*

СВОЙ (свой) *мужч.* Палатно, скручанае ў трубку. Свой палатна′ малада′я litdary′ла сьвякру′сі. *Цял.*

СВЭ′ДАР (свэ′дэр) *мужч.* Світар. А ўчо′ра я свайму′ свэ′дэр купі′ла ш чы′стай во′ўны з высо′кім варатніко′м. *Клет.*

СЕ′ЛІЦА (се′ліца) *жан.* Сухі луг. На се′ліцы така′я ш до′брая трава′ расьце′. *В. В.*

СЕ′МАЧКІ (се′мачкі) *толькі ў мн.* Семя сланечніка, гарбузоў. Не′калі на ко′ляды была′ мо′да е′сьці се′мачкі. *Цял.*

СЕ′ЧАНКА (се′чанка) *жан.* 1. Падушка з сечанага пер'я. Ціпе′р паду′шкі ску′бяныя, а не′калі се′чанкі рабі′лі. *Цял.* 2. Сечаная бульба ці гародніна. Трэ′ба каро′вя даць се′чанкі бура′чнай. *Дук.*

СІБЕ′РНЫ (сібе′рны) *прым.* Вялікі. Лясё′нка ве′льма сібе′рная, трэ′ба пашы′ць ме′ншаю. *Цял.*

СІГАНУ′ЦЬ (сігану′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Пабегчы хутка. Ён так сігану′ў праз сяло′, што то′лькі яго′ і ба′чылі. *В. В.*

СІНА′ЛЬКА (сіна′лька) *жан.* Ліманад. Учо′ра ў ла′зьні бутэ′льку сіна′лькі вы′піў, а до′ма яшчэ′ і кусо′к саладу′хі. *Пуг.*

СКАЛАГУ′ДЗІЦЬ (скалагу′дзіць), -джу, -дзіш; *зак. тр.* Пабудаваць. Не хвалю′йся. Мальві′на Харыто′наўна, ху′тка такі′ сьвіна′рнік скалагу′дзім — уся′ во′бласць а′хне. *Юр.*

СКАЛО′ЦІН (скало′цін) *мужч.* Маслёнка. Дзе′ці, сяда′йце за стол на бу′льбу са скало′ціным. *Мац.*

СКАЛО′ЦІНЫ (скало′ціны) *толькі ў мн. Гл.* скалоцін. Во, да бу′льбы і скало′ціны ёсьць, бу′дзем, зна′чыцца, е′сьці. *Ос.*

СКАЛО′ЧЫНЫ (скало′чыны). *Гл.* скалоцін. Як ма′сла саб'ю′ць, та′ды палуча′юцца скало′чыны. *Рат.*

СКА′НЦЫ (ска′нцы) *толькі ў мн.* Бульбяныя піражкі, начыненыя капустай. Не ве′даеце, што тако′е ска′нцы? У нас на абе′т сёньня бу′дуць. *Вер.*

СКА′ПАВІЧ (ска′павіч) *мужч.* Вілкі з двума зубамі, якімі скідаюць гной. Што наво′с з во′за скіда′юць — гэ′та ска′павіч. *Рат.*

СКАПЫ′ЦІЦЦА (скапы′ціцца), -чу-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Спаткнуцца. Вот хале′рая на яго′, на ро′ўнум ме′сьці скапы′ціўся і нагу′ зламо′ў. *Цял.*

СКАРА′ВІЦЬ (скара′віць), -ўлю, -іш; *зак. тр.* Забрудзіць. І дзе так мо′жна было′ вато′ўку скара′віць, ад гразі′ гу′зікаў не віда′ць. *Клет.*

СКАРАКО′Л (скарако′л) *мужч.* Дзве ніткі, скручаныя ў адну. Скарако′л у палатно′ ўватка′ла, як пра′ла. *Тур.*

СКАРА′Ч (скара′ч) *мужч.* Абрус. Такі′я прыго′жыя скарачы′ прыве′зьлі ў магазі′н, на′да ку′піць, а то ў мяне′ ўжо няма′ чым на бясе′ду стол засла′ць. *Гальш.*

СКАСЦЯ′ШЫЦЬ (скасьця′шыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Прапасці, загінуць. Каб яго′скасьця′шыла, даў бох мі′лянькі! Як скруці′ўся ў той Сальск, дак ні ху′ху ні ду′ху. І пісьма′ ні напі′ша. *Сав.*

СКАЦЕ′РКА-ШАСЦІНІТО′ЎКА *жан.* Скацерць, вытканая ў шэсць нітоў. Ска′церкі-шасцініто′ўкі тка′ліся ў шэсьць ніто′ў. *Рат.*

СКАЦЁ′РКА (скацё′рка) *жан.* Абрус. Пасця′лі чы′стаю скацё′рку на стол, абе′даць бу′дзем. *Клет.*

СКВАРУ′ХА (сквару′ха) *жан.* Скварка. От цяпе′р до′бра кусану′ў ба, да′жа яку′ю сквару′ху зьеў ба,— прагалада′ўся до′бра. *Бялар.*

СКІ′НУЦЬ (скі′нуць), -у, -еш; *зак. тр., перан.* Зняць з работы. Цябе′ ж ужо′, Та′ня, скі′нулі з рабо′ты. *В. В.*

СКЛА′ДКА (скла′тка) *жан.* Складчына. Скла′тку рабі′лі, дык і мы былі′, пілі′, е′лі, сьпява′лі. *Уз.*

СКЛЁМ (склём) *мужч.* Холад. Ох, і мо′цны склём на ву′ліцы, заме′рзла зусі′м. *Хал.*

СКНЭРАВА′ТЫ (скнэрава′ты) *прым., з адценнем незадав.* Скнарлівы. Яна′ скупава′тая. Як ба′цько. Той быў скнэрава′ты. Здарэ′ перасы′пле со′лью, палаві′ну со′лі, і як адраза′е, со′лі не вы′ме, так с со′лью і прадае′. *Сав.*

СКО′КА (ско′ка) *прысл.* Колькі. Гавары′ то′лкам, не лэ′хай, гавары′, ско′ка табе′ паста′віць? *Пяр.*

СКО′ЧКА (ско′чка) *жан. Гл.* багатка. Ско′чкі на магі′лах са′дзяць. Ка′жуць, як адну′ ско′чку вы′рвяш, ды ўсе і зьгі′нуць. *Мік.*

СКРАЙЗО′ЛІЦЬ (скрайзо′ліць), -ю, -іш; *зак. тр.* Скрэсліць. Дзе′ці, як былі′ ле′там, злама′лі мне ру′чку. Пі′шуць і пі′шуць, скрайзо′лілі верталё′цікамі тры сшы′ткі ў кле′тачку, пакрэ′йзалі. *Сав.*

С КРАЕ′ЧКУ (с крае′чку) *прысл.* З краю. Хлеп ляжы′ць с крае′чку. *Цял.*

СКЫ′БАЧКА (скы′бачка) *жан.* Скібачка. Адрэ′ш і мне скы′бачку са′ла, так хо′чацца, хоць і не мо′жна. *Клет.*

СКРЫПІ′СТ (скрыпі′ст) *мужч.* Скрыпач. Скрыпі′ст Анто′сь до′бра ігра′е. *Кальч.*

СКРЫ′ПНІК (скры′пнік) *мужч. Гл.* скрыпіст. Куды′ скры′пнік падзе′ўся? Без яго′ і вясе′льля няма′. *Мік.*

СКУ′БЦІ (ску′пці) (пер'е), -у, -еш; *незак. тр.* Дзе′ўкі мае′ ўзімо′ю пе′р'я бу′дуць ску′пці. *Цял.*

СКУ′ЛЛЯ (ску′льля) *толькі ў адз., зборн.* Скулы. У яго′ не′йкія ску′льля былі′ на галаве′. *Дук.*

СКУ′РВАЦЬ (ску′рваць), -ю, -еш; *незак. тр., перан.* Рваць. Удзе′нь лебяду′ ў гаро′дзі ску′рвала сьвіня′м. *В. В.*

СЛАБАВІ′ТЫ (слабаві′ты) *прым.* Слабы. Здаро′ўе ў мяне′ зусі′м ўжо слабаві′тае, ды і што каза′ць, калі′ гадо′ў мно′га. *Шут.*

СЛА′НЕЦ (сла′нец) *мужч.* Лён, які сцелюць. Сла′нец сьце′люць. У яго′ гало′ўкі абіва′юць. *Рат.*

СЛАНІ′НА (слані′на) *жан.* Несалёнае сала. Трэ′ба кры′ху пакі′нуць і на слані′ну, мой дык салё′нага ня лю′біць. *Сл.*

СЛІНКА′Ч (сьлінка′ч) *мужч., лаянк.* Слінявы чалавек. Хто п ужэ сьмяё′ўся, а ні гэ′ты сьлінка′ч. Хай лепш сьлі′ну вы′тра з гуп. *Цял.*

СЛІ′НІЦЬ (сьлі′ніць), -ю, -іш; *незак. тр.* Плакаць. Пяраста′нь ты сьлі′ніць, нідзе′ ні дзе′няцца твой мужы′к. *Цял.*

СЛОН (слон) *мужч.* Сланечнік. Ма′ма, паслу′хай то′лькі, што ён гаво′ра! Ці ж я не так гавару′, як ён — слон? *Плец.*

СЛУГАВА′ЦЬ (слугава′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Дагаджаць. Мой мужы′к лю′біць, кап я яму′ слугава′ла, і слугу′ю, раблю′ так, як ён хо′ча. *Цял.*

СЛУ′ЖКА (слу′шка) *жан., перан.* Нявестка. Глядзі′, слу′шка, ма′тцы ні запару′швай во′ка. *Кухц.*

СЛЫ′ШМА (слы′шма) *жан.* Слых. Ця′шка мне было′ адно′й у вайну′ без гаспадара′ з малы′мі дзе′цьмі, аш слы′шма пацяра′ла ад вялі′кага го′ра. І цяпе′р до′бра ня чу′ю. *Сак.*

СЛЯПЕ′НЬ (сьляпе′нь) *мужч., лаянк.* Чалавек, які нечага не ўбачыў. Ну і сляпе′нь. Не ві′дзіш, на што стаў? *Малм.*

СЛЯСА′К (сьляса′к) *мужч.* Частка клямкі, на якую націскаюць, каб адчыніліся дзверы. Міха′сю, наці′зьні на сьляса′к, аччыні′ дзьве′ры. *В. В.*

СМАЧКАЕ′ДЫ (смачкае′ды) *толькі ў мн.* Ласунак. Табе′ то′лькі смачкае′ды сьня′цца. *Уз.*

СМЕ′ЦІШЧА (сьме′цішча) *ніяк.* Сметнік. Ды вы′кінь ты яго′ на сьме′цішча, нашто′ табе′ гэ′та лама′чча ў ха′це. *Клет.*

СМЕ′ШНІК (сьме′шнік) *мужч.* Чалавек, які ўмее смяшыць. Ён і пако′йніка заста′віць сьмяя′цца, сьме′шнік гэ′ты. *Уз.*

СМІГАНУ′ЦЬ (сьмігану′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Пакурыць. Дай сьмігану′ць, вунь жа ў цябе′ яшчэ′ застало′ся. *Касц.*

СМО′ЛКА (смо′лка) *жан.* Смала. Во, кап табе′ смо′лкі, напі′ўся ўжо! *В. В.*

СМО′РГАЦЬ (смо′ргаць), -ю, -еш; *незак. тр.* 1. Рваць лён. Зь зямлі′ лён смо′ргалі. *Рат.* 2. Часаць лён на грэбень. Як патрэ′піш лён, тады′ на грэ′бінь смо′ргаіш. *Рат.* 3. Шморгаць носам. Ні смо′ргай ты гэ′тым но′сам, вы′смаркайся. *Цял.*

СМУГА′ (смуга′) *жан.* Самагон. Нагна′лі смугі′, піць за′раз бу′дуць, а по′тым што? *Алях.*

СМУЦІ′ЦЦА (смуці′цца), -чу-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Сумаваць. Смуці′цца яна′ ў го′радзе без бацько′ў. Няве′села ёй. *Граб.*

СМЭ′РГУЛЬ (смэ′ргуль) *мужч., лаянк.* Смаркаты чалавек. Смэ′ргуль ты, вы′тры смаркачэ′, тады′ бе′гай за дзе′ўкамі. *Дук.*

СМЯРДЗЮ′ШЧЫ (сьмярдзю′шчы) *прым.* Смярдзючы. Не′кі але′й сьмярдзю′шчы, ці ні сапсаво′ўся ён? Мо′жа ні браць? *Цял.*

СМЯРТЭ′ЛЬНІК (сьмяртэ′льнік) *мужч., бат. Гл.* незапамінайка. Уве′сь лух пакры′ты сьмяртэ′льнікамі, мно′га вы′расла ў гэ′ты гот. *Ляшч.*

СМЯТА′НА (сьміта′на) *жан.* Белая густая маса, якая атрымліваецца, як труць канаплянае семя. С канапе′ль ро′білі сьміта′ну. *Рат.*

СНІГУ′ФЦЫ (сьнігу′фцы) *толькі ў мн.* Кароткія жаночыя боцікі. Купі′ла сабе′ сьнігу′фцы за′ра, так фа′йна хадзі′ць. *Пран.*

СНО′ЎДАЦЦА (сно′ўдацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Сланяцца без справы. Хло′пцы такі′я ляны′я, сно′ўдаюцца цэ′лы дзень па мястэ′чку. *Дук.*

СНЯГО′ВІЦА (сьняго′віца) *жан.* Снегапад. Хаце′ла каба′нчыка закало′ць, дак гэ′та сьняго′віца, німа′ як. Са′дзіць і са′дзіць сьнех, ве′дамо, зіма. *Сав.*

СО′ЎКАЦЬ (со′ўкаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Калыхаць. Пасо′ўкай, дзіця′тка, І′рку на рука′х, бо я не магу′ больш со′ўкаць ўжо. *Малм.*

СО′ЎНЕЙКА (со′ўнейка) *ніяк.* Сонейка. То′лькі со′ўнейка ста′не захо′дзіць, сьцямне′іцца, а ты дрыжы′ш. *Малм.*

СПАВА′ЖНЫ (спава′жны) *прым.* Павольны. Яна′ гэ′дакая спава′жная, чуць вару′шыцца на ву′ліцы. *Цял.*

СПАДЛО′Б′Я (спадло′б′я) *прысл.* Спадылба. Ён ніко′лі пра′ма ні глядзі′ць, усё′ не′як спадло′б′я. *Клет.*

СПАНА′ТРЫЦЬ (спана′трыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Унадзіцца. Як спана′трылі хадзі′ць на та′нцы, дак нічо′га рабі′ць ні хо′чуць. *Цял.*

СПАРЫ′ЦЬ (спары′ць) *зак. тр.* Добра расці (аб збожжы). Спары′ла жы′та, вунь яко′е вы′расла, дык у нас яно′ ама′ль усягды′ тако′е. *Калод.*

СПА′СЛЫ (спа′слы) *прым.* Тлусты. І чалаве′к, які′ ні ўбіва′яцца па дзе′цях ці па гаспада′рцы, то ён бу′дзя спа′слы. *В. В.*

СПАРЫЖАВА′ЦЬ (спарыжава′ць) *зак. тр.* Паралізаваць. *Дук., Хар, Жор., Кам., Кухц., Сак.* Яго′ ле′тась спарыжава′ла. *Цял.*

СПІ′ТКІ (сьпі′ткі) *толькі ў мн.* Недапітае што-небудзь. Нам то′лька сьпі′ткі засталі′ся, бо мы по′зна прышлі′. *Цял.*

СПЛЁ′ТКА (сплё′тка) *жан.* Плётка. Яна′ то′лькі і ве′дае, што разво′дзіць сплё′ткі, а до′брай гаво′ркі зь яе няма′. *Тур.*

СПУ′ШЫЦЬ (спу′шыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Пабіць. Ды за гэ′та табе′ мо′рду спу′шыць ма′ла, забіць трэ′ба. *Клет.*

СПЛЫ′ЦІЦЦА (сплы′ціцца) *зак. тр.* Пераплесціся галінкамі, лапкамі (пра расліну). Кроп павырыва′ць трэба, а то гу′сто, по′тым сплы′ніцца, цыбу′ля ні парасьце′. *Сав.*

СПРАВА′ДЗІЦЬ (справа′дзіць), -джу, -дзіш; *зак. тр.* Пабіць. Нашто′ ж гэ′та трэ′ба было′ яго′ так справа′дзіць? *Раб.*

СПРАВУ′НКІ (справу′нкі) *толькі ў мн.* Пакупка, абноўка. Тут: усё неабходнае на нябожчыка. Дзяўча′та пае′халі па справу′нкі, а до′ма адны′ свае′ (сваякі) пла′чуць, крыча′ць. *Сав.*

СПРАЗЕНТАВА′ЦЬ (спразентава′ць), -тую, -туеш; *зак. тр.* Падараваць. Мне радня′ спразентава′ла гро′шай, як пагарэ′лі. *Цял.*

СПРАКУ′ДЗІЦЦА (спраку′дзіцца), -джу-ся, -дзішся; *зак. тр.* Памыліцца. Яна′ спраку′дзілася, што сарвала′ся з рабо′ты. *Цял.*

СПРА′ЎНЫ (спра′ўны) *прым.* Рухавы. А яшчэ′ спра′ўныя цяпе′рашнія пенсіяне′ры. *Сяд.*

СПРА′ХНУЦЬ (спра′хнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Прапасці. І дзе′ ён то′лькі мог спра′хнуць, уве′сь час тут жа кручі′ўся. *Мач.*

СПУДЛАВА′ЦЬ (спудлава′ць), -лую, -луеш; *зак. тр.* Утаптаць. Каро′вы так спудлава′лі заго′н карто′плі, што ка′ліва цэ′лага ня зна′йдзяш. *Дук.*

СПУСЬЦІ′ЦЬ ЮХУ′. Спусціць кроў. Я′ська як доў па но′сі, дак і спусьці′ў юху′, аж за каўне′р пацякла′. *Дук.*

СПЫН (спын) *мужч.* Упынак. Спы′ну на яго′ няма′ гэ′тымі кані′куламі, адно′ па ціляві′зарах лё′тая. *Сав.*

СТАВА′ЦЬ (става′ць) *зак. тр.* Хапаць. У нас зямлі′ было′ ма′ла, хле′ба ніко′лі ня става′ла да но′вага, пазыча′лі пастая′нна. *Дук.*

СТАГАВА′ЦЬ (стагава′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Складваць сена ў стог. Нас с Сямё′нам ча′ста пасыла′лі се′на стагава′ць, бо на′шы стаге′ ро′ўныя, гла′ткія. Як яе′чка, хо′раша паглядзе′ць. *Дук.*

СТАДО′ЛЛЕ (стадо′льле) *ніяк.* Няўтульнае, неагледжанае памяшканне. У камо′ры беспара′дак, як дача′су зрабіласё′, так і жыве′цца. Каб э′та жыў хазя′ін, по′лачкі п трэ′ба было′ зрабі′ць, тачо′к вы′біць, а то, ве′дамо,

стадо′льле, нічо′га ні прыткну′то то′лкам, усё′ на зямлі′ стаі′ць: і ба′начка яка′я, і скры′начка, і карзі′начка — усё′ тут, пад нага′мі. *Сав.*

СТАЛЯВА′ННЕ (сталіва′ньне) *ніяк.* Столь. Атку′ль на сталіва′ньні сто′лькі павуці′ньня? *Пуг.*

СТАРАБЫ′ТНЫ (старабы′тны) *прым.* Старадаўні, стары. Пе′сьні старабы′тныя, што пры цару′ пяя′лі, успо′мню яшчэ′, а та′нца — дык не магу′, но′гі не хо′дзяць. *Вішн.*

СТАРАЁ′НЦЫ (стараё′нцы) *прым.* Старанны. Ён ужо′ на′тта стараё′нцы. Для каго′ ён то′лька стара′яцца? *Дук.*

СТАРУ′ШАЧАК (стару′шачак) *мужч., памянш.-ласк. ад* старушак. Мару′сін ба′цька старэ′нькі, стару′шачак, мо′жа, во′сімісят два го′ды. Слабы′ ўжо зусі′м, пры′ступы бяру′ць. *Сав.*

СТАРУШО′НАК (старушо′нак) *мужч.* Стары. А ён, стары′ старушо′нак, да мяне′ ў сваты′ прыйшо′ў. *Пр.*

СТАРШЫ′Я (старшы′я) *субст. прым.* Урад. На′шы старшы′я кіру′юць саве′цкімі людзьмі′. *В. В.*

СТАРЫ′ЗНА (стары′зна) *жан.* Старое адзенне, абутак. На што табе′ гэ′тыя суке′нкі і ту′флі? Гэ′та ш така′я стары′зна, што то′лька ану′чніку адда′ць, а ні насі′ць. *Цял.*

СТАТУ′Й (стату′й) *мужч.* Фігурка, вылепленая з чаго-небудзь або зробленая з пяску. Бары′сіха, палядзі′, які′х статуё′ў твае′ ўну′кі наро′білі. *Рат.*

СТАЎБУНАВА′ТЫ (стаўбунава′ты) *прым.* Падобны на стаўбун. Не′кі нялю′цкі купі′ла гаршчо′к, ня кру′глы, а стаўбунава′ты. *Дук.*

СТАЎПЕ′ЦКІ (стаўпе′цкі) *прым.* Стаўбцоўскі. А′ньця была′ ў бальні′цы, дак ба′бы раска′звалі, што той жа Маню′сін жэ′ніцца, бярэ′ метсястру′ са Стаўпе′цкай бальні′цы. *Сав.*

СТАЯ′ЦЬ (стая′ць), -ю, -іш; *незак. тр.* Кватараваць. Про′шлай во′сеньню мы такса′ма ў гэ′тай вё′сцы стая′лі, мы тут карто′шку капа′лі. *Сак.*

СТАЯ′ШЧЫ (стая′шчы) *дзеепрым.* Стаячы. Мы зрабі′лі стая′шчую гру′пку. *Дук.*

СТО′ЛАК (сто′лак) *мужч.* Невялікі ўслончык, на якім дояць карову. Я бес сто′лка ні падаю′ каро′вы, ні магу. *Цял.*

СТО′ЛЬКІ (сто′лькі) *ліч.* Многа. У мяне′ ў самае′ адзе′жы сто′лькі было′. *Рат.*

СТО′ЛЬМАХ (сто′льмах) *мужч.* Столяр. Пасьля′ вайны′ у калхо′зі быў сто′льмах, сталы′ рабі′ў і друго′е што. *Ніз.*

СТО′ЎЧЫК (сто′ўчык) *мужч.* Прыстасаванне для маленькага дзіцяці, якое не ўмее хадзіць. Мой хло′пчык стаі′ць сабе′ ў сто′ўчыку і то′лькі но′шкамі перабіра′е. *Воз.*

СТО′ЦЬМА (сто′цьма) *прысл.* Нястрымна. Ну і каро′ва! Каб на сушэ′йшае вы′йсці, дык не, сто′цьма ў ба′гну ле′зе. *Пал.*

СТРАДА′ЛЬНЫ (страда′льны) *прым.* Чалавек, які зазнаў многа гора. Ён страда′льны чалаве′к, усю′ вайну′ прайшо′ў, без нагі′ заста′ўся. *Малм.*

СТРАЖЫ′НА (стражы′на) *жан.* Перакладзіны для сушкі снапоў, канюшыны і інш. Каб не′калькі стражы′н зрабі′ць, то ўскі′нулі п со′хнуць канюшы′ну. *В. В.*

СТРАЛА′ (страла′) *жан.* Канец жураўля ў калодзежы. Ня стой каля′ стралы′, а то ўда′рыць. *В. В.*

СТРАМ (страм) *мужч.* Сорам. А! Цяпе′р і стра′му нія′кага няма′: сядзі′ць с хло′пцам на лісапе′це і хоць бы што! *Пяр.*

СТРАЧА′ЦЦА (страча′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Сустракацца. Іду′ не′йк дадо′му, аш страча′юся с Сагачы′нскім. *Кухц.*

СТРА′ШКА (стра′шка) *прысл.* Страшна. Ня пасыла′й ты гэ′тага хло′пца ўве′чара, бо стра′шка. *Дук.*

СТРАШКІ′ (страшкі′) *прым.* Схуднелы. Кузьмо′ў сын хварэ′ў до′ўга, то страшкі′-страшкі′ зрабі′ўся. *Тур.*

СТРАШЫ′ЦЦА (страшы′цца), -у-ся, -ыш-ся; *незак. тр.* Баяцца. Вялі′кі ўжо, а ве′чарам страшы′цца па ву′ліцы ісьці′. *Граб.*

СТРО′ЙНА (стро′йна) *прысл.* Прыгожа. Ве′льмі ш стро′йна ў вас ста′ла цяпе′р у ха′ці. *Калод.*

СТРУГ (струх) *мужч.* Цяслярская прылада. Хаце′ў каду′шку пача′ць рабі′ць, але′ няма′ чым, струх зламо′ўся. *Дук.*

СТРУ′ЧЧА (стру′чча) *зборн.* Струкі. Гаро′х урадзі′ў, стру′чча мно′га. *Рат.*

СТРЫВА′ЦЬ (стрыва′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Перажыць. Сто′лькі стрыва′ць за жыццё′: і пабо′і, і зьдзе′кі, і насьме′шкі,— дык атку′ль бу′дзе здаро′ўе. *Граб.*

СТРЫГА′ЦЬ (стрыга′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Упікаць. Жыве′, ні ап чым не шмана′е, нашто′ ш стрыга′ць про′шлым? *Верх.*

СТРЫКА′ЦЦА (стрыка′цца) *незак. тр.* Пячыся (крапівой). Як хто хо′ча, так і ка′жа. Хто ка′жа крапіва′ стрыка′яцца, хто ка′жа — пячэ′цца. *Дук.*

СТУ′ПІЦЦА (сту′піцца) *зак. тр.* Саступіцца, сесці (пра матэрыял). Я да, зна′яш, А′ньця ва′лянкі нажыла′. Кап ты ба′чыла, які′я вы′гадныя, уле′зя ану′чка. Я бра′ла бо′льшыя, бо часа′мі яны′ сту′пяцца, адзяю′ шкарпэ′тку суко′нную і панчо′ху. *Сав.*

СТЫДА′ЦЦА (стыда′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Саромецца. Зо′ўтра сут мой. Не′як стыда′юся, ніко′лі ні судзі′лася, а гэ′та на страм вы′ставяць. *Бялар.*

СУДЦА (су′цца) *ніяк.* Адно вядро.— Схадзі′ ты су′ды (пару вёдзер) вады′ прынясі′.— Су′ды ні на′да, хва′ціць і су′цца. *Бялар.*

СУДЗЕ′РЖВАЦЬ (судзе′ржваць), -ю, -еш; *незак. тр.* Стрымліваць. Чыя′ галава′ ко′лькі судзе′ржвая, сто′лькі той і ву′чыцца. *Сак.*

СУПАСТА′Т (супаста′т) *мужч., зневаж.* Упарты чалавек. Ну і супаста′т жа. Усё′ ро′ўна зрабі′ў па-сво′йму. *Уз.*

СУДЗІ′НА (судзі′на) *жан.* Невялікая кадушачка, куды ссыпаюць муку або збожжа. Таго′ аўса′ было′ ў судзі′не як кот напла′каў. *В. В.*

СУКРАНІ′ЦЫ (сукрані′цы) *толькі ў мн.* Закруткі на нітках. Усе′ ні′ткі на сукрані′цах, не магу′ зрабі′ць нічо′га. *Малм.*

СУКЯНЁ′ШКА (сукянё′шка) *жан., зневаж.* Сукенка. Прые′хаў— бе′нны быў. У яго′ кале′ні зала′таныя, у яе′ то′жа анна′ гэ′та сукянё′шка. А цяпе′р вунь як ажылі′ся. *Бялар.*

СУМО′ЦІЦЦА (сумо′ціцца), -чу-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Сумаваць. Сто′лькі рабо′ты, што сумо′ціцца няма′ калі′. *Клет.*

СУСЁ′М (сусё′м) *прысл.* Зусім. Сусё′м не магла′ падня′цца з ло′шка, за′рас тро′ха ле′пі ста′ла. *Сяд.*

СУСТА′ЎКА (суста′ўка) *жан.* Сустаў. Усё′ жыццё′ ў мяне′ гэ′та суста′ўка балі′ць. *В. В.*

СУХАСТО′ІНА (сухасто′іна) *жан.* 1. Сухі лес. Не′шта напа′ла на наш лес, ве′льмі со′хня, ско′ра бу′дзе адна′ сухасто′іна. *Дук.* 2. Сухое дрэва ў лесе. Сухасто′іну даю′ць на дро′ва. *Дук.*

СУХО′ТНІК (сухо′тнік) *мужч. Гл.* бляхан. Сухо′тнікам называ′ем, бо ўсё тлу′стае з малака′ збіра′ецца, а застае′цца го′лае малако′. *Кальч.*

СУХРЫ′НДА (сухры′нда) *жан., лаянк.* Худая жанчына. Сухры′нда ты, што ты шкаду′яш гэ′тых гро′шай, с сабо′ю на той сьвет ні во′зьмяш. *Цял.*

СЦІ′СЛЫ (сьці′слы) *прым.* Скупы. Я такі′ сьці′слы, люблю′ нажы′ць, люблю′, кап сваё′ было′. Вы′шаў — кап

тут гру′шка, тут я′блынька, ві′шанька, гра′тка бурачко′ў, капу′сты табе′. *Залес.*

СЦЯГ (сьцях) *мужч.* Азярод. Жжа′лі і сьцях назарэ′дзілі. *Рат.*

СЫМБО′ТА (сымбо′та) *жан.* Субота. У сымбо′ту бу′дзем карто′плю капа′ць, а сё′ньня шчукату′рыць ха′ту на′да. *Асіп.*

СЫ′РАВАТКА (сы′раватка) *жан.* Сыроватка. Сы′раватка, калі′ малако′ атто′піцца. *Рат.*

СЫ′РНІК (сы′рнік) *мужч.* Клінок. Сыр ацьціска′юць у сы′рніку. Шы′юцца сы′рнікі з рэ′ткага палатна′. *Рат.*

СЫРЫ′ЗНА (сыры′зна) *жан.* Няспелыя ягады, фрукты. Мае′ дзе′ці нае′ліся сыры′зны, ціпе′р кача′юцца жывата′мі. *Цял.*

СЫРЫ′ЦА (сыры′ца) *жан.* Свежая, толькі што выробленая скура. Вунь сусе′т разьве′сіў сыры′цы для су′шкі. *Кухц.*

СЫСКА′ЦЦА (сыска′цца), -у-ся, -чаш-ся; *зак. тр.* Вярнуцца. Ён ужо′ сыско′ўся дамо′ў, дзе яму′ так бу′дзя, як до′ма. *Цял.*

СЫ′ТЫ (сы′ты) *прым. Гл.* спаслы. Наш парсю′к ужо′ стаў сы′ты, мо′жна кало′ць. *Дук.*

СЫХО′ДЗІЦЦА (сыхо′дзіцца), -джу-ся, -дзіш-ся; *зак. тр.* Уступаць у шлюб. Сышлі′ся яны′ і жыву′ць памале′нькy. *В. В.*

СЮДЫ′НАКА (сюды′нака) *прысл.* Сюды. Антані′на, схо′дзім сё′ньня с табо′й сюды′нака яшчэ′? *Хож.*

СЯГО′НЕЙКА (сяго′нійка) *прысл.* Сягоння. Трэ′ба е′хаць сяго′нійка ў Маладэ′чна, бо за′ўтра ра′нінька бу′дзіць людзе′й нава′лам. *Раб.*

СЯДЗЕ′ЦЬ ДЗЁ′БАМ. 1. Працаваць не адрываючыся. Бе′дная дзе′вачка, сядзі′ць цэ′лы дзе′нь дзё′бам і ўсё пі′ша, пі′ша. 2. Не расці. Хо′ладна цяпе′р, і гурке′ сядзя′ць дзё′бам. *Кухц.*

СЯДЛО′ (сядло′) *ніяк.* Частка прасніцы, на якой сядзіць папрадуха. Дзе прывя′зыіцца кудзе′лька — гэ′та пра′сьніца, а дзе сядзі′ш — гэ′та сядло′ называ′іцца. *Рат.*

СЯКА′Р (сяка′р) *мужч.* Сякач. Вазьмі′ ў хле′ве сяка′р і вы′сячы ўсю′ крапіву′ і быльнё′г каля′ плато′ў і пад скле′пам. *Уз.*

СЯЛЬНІ′К (сяльні′к) *мужч.* Сяннік. Пайдзі′ сяльні′к напха′й сьве′жаю сало′маю. *Ляхі.*

СЕЛЯДЗЁ′ЎКА (селядзё′ўка) *жан.* Бочка з-пад селядцоў. У селядзё′ўца? Там сяляццы′ былі′ зло′жаны, трэ′ба яшчэ′ купі′ць. *Кальч.*

СЕЛЯДО′ЎКА (сілядо′ўка) *жан. Гл.* селядзёўка. Бывa′ла, бо′бу намало′ціш сілядо′ўку. *Рат.*

СЯННІ′К (сяньні′к) *мужч.* 1. Чалавек, які едзе сена сушыць. Сяньнікі′ пае′дуць се′на сушы′ць. *Бяс.* 2. Мяшок, напханы сенам, на якім спяць. Мае′ дзе′ці на сяньніку′ сьпяць. *Бяс.*

СЯРО′ДАВІК (сяро′давік) *мужч.* Асяродак морквы. У нас ні ка′жуць сярэ′дзіна, а сяро′давік мо′рквы. *Папл.*

СЯРЭ′ДНІК (сярэ′днік) *мужч.* Жаночая куртка. Накі′нь лепш сярэ′днік на пле′чы, бач, як ад ракі′ хо′ладам ця′гне. *Касц.*

СЯСТРЫ′НЕЦ (сястры′нец) *мужч.* Пляменнік, сястрын сын. У мяне′ го′сьці ко′жны дзень. Сё′ньня сястры′нец у гасьця′х, агза′мяны здава′ў, прые′хаў. *Сав.*

СЯ′ТКА (ся′тка) *жан.* Вялікая вязаная хустка з махрамі або зубкамі па краях. Накі′нула на пле′чы цё′плую ся′тку ды бяго′м. А куды′? *Мік.*

## Т

ТАБАЛА′ (табала′) *агульн., зневаж.* Пустамеля. Ат, маўчы′, табала′, уся ро′ўна нічо′га до′брага не ска′жаш. *Малм.*

ТАБАРЭ′ТКА (табарэ′тка) *жан.* Табурэтка. На′ша табарэ′тка чырво′ным пакра′шана. *Цял.*

ТАВА′РЫШКА (тава′рышка) *жан.* Сяброўка. Ко′лькі нас тут сябру′я тава′рышак, дык папрыхо′дзяць пра′сьці. *Кухц.*

ТАДЫ′НАКА (тады′нака) *прысл.* Тады. Тады′нака ён быў яшчэ′ не зусі′м здаро′вы. *Хож.*

ТАКА′РНЯ (така′рня) *жан.* Станок, на якім точаць калодкі для колаў. На така′рні то′чаць кало′ткі. *Цял.*

ТАКВЕ′ЛЯ (такве′ля) *прысл.* Столькі. Такве′ля прастая′ла і на табе′— не хапі′ла мне бо′таў. *Пан.*

ТАЛАКНЯ′ (талакня′) *жан., толькі ў адз.* Таўкатня. Зрабі′лася гэ′такая талакня′, што жыць ні хо′чацца. *В. В.*

ТАЛАЧЫ′ЦЦА (талачы′цца), -у-ся, -ыш-ся; *незак. тр.* Важдацца. Бліны′ ні бу′ду пячы′, адно′ талачы′цца с ты′мі бліна′мі. Шко′да ча′су. *Сав.*

ТА′ЛЕЧКА (та′лечка) *жан.* Маточак нітак. Кап вы′ткаць насто′льніцу, трэ′ба тры′ццаць та′лячак ні′так. *В. В.*

ТАРА′Н (тара′н) *мужч., перан.* Худы чалавек. Сямё′н вот мно′га есьць, а худы′ як тара′н. *Цял.*

ТАРАНО′ЎКА (тарано′ўка) *жан.* Вялікая квяцістая хустка з махрамі. Калі′ ўба′чыш дзе тарано′ўку, купі′ мне, гро′шы я по′тым адда′м. *Бр.*

ТАРМАСІ′ЦЬ (тармасі′ць), -шу, -іш; *незак. тр.* Растрасаць кросны (пражу) пасля таго, як іх адпарылі. Пато′м выця′гаваім пра′жу, тармо′сім, раўну′ім. *Рат.*

ТАРНІ′ЦЬ (тарні′ць), -ю, -іш; *незак. тр.* Складаць сена ў гумно. Памажы′це мне се′на тарні′ць, а пасьля′ — я вам. *Гальш.*

ТАРО′КАЦЦА (таро′кацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Спрачацца. По′куль мы таро′каліся, дзе′ўкі аш за лес зайшлі′. *Цял.*

